–Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
20
СНЕЖНЯ
1991 г.
№ 51 (3617)

ВЫХОДЗІЦЬ
з 1932 г.

КОШТ — 15 кап.
(Па падпісцы —
10 кап.)





Тут «спее» хлеб...

Шумелі войны, мяняліся веры, рушыліся дзяржавы, падалі кароны і пасады, а земляроб спаўняў сваё адвечнае прызначэнне: сеяў хлеб. З году ў год хадзіў баразною, маліў аб дажджы, баяўся граду, жаў, малаціў — каб быў хлеб, каб было жыццё. Чакаў хлеба, якім жывіўся сам са сваёй сям'ёй. Чакаў хлеба, на якім трымаў свет.

Даў Бог дзень, дасць і хлеб.

Дасць, калі выйдзеш у поле, разгорнеш плугам зямлю, кінеш зерне і будзеш прасіць сонца і дажджу, будзеш баяцца граду і спадзявацца на працяг жыцця: ад ураджаю да ўраджаю.

Дасць Бог дзень, дасць і хлеб.

Фота А. КЛЕШЧУКА.

# Кола Дзён

Гэтым разам «Кола Дзён» больш нагадвае «дыпламатычную хроніку». І гэта не выпадковасць, а хутчэй адлюстраванне рэальных працэсаў, што сёння набіраюць моц. З утварэннем Садружнасці Незалежных Дзяржаў іх дыпламатычная актыўнасць, можна не сумнявацца, будзе ўзрастаць штодня. Але не павінна быць дыпламатыі дзеля дыпламатыі і перамоў дзеля перамоў. Зараз ідзе выпрабаванне незалежнай суверэннай Беларусі на самастойнасць яе знешняй палітыкі, закладваецца міжнародны аўтарытэт Рэспублікі.

### 12 СНЕЖНЯ

расейскі парламент ратыфікаваў пагадненне аб Садружнасці Незалежных Дзяржаў і прыняў рашэнне аб дэнансацыі Саюзнага дагавора ўслед за Беларуссю і Украінай.

### 13 СНЕЖНЯ

Прэзідэнт Малдовы М. Снегур вымушаны быў спыніць свой візіт на Беларусь і тэрмінова вярнуцца ў Кішынёў. Прычына — інцыдэнт у Дубасарах. Праз некалькі дзён сітуацыя ў Прыднястроўі (Трансністрыі) нармалізавалася. У раён канфлікту выехалі назіральнікі ад краін Садружнасці.

Прэзідэнты Казахстана, Кыргызстана і рэспублік Сярэдняй Азіі прынялі ў Ашхабадзе сумесную заяву, у якой падтрымалі «Мінскую ініцыятыву».

### 14 СНЕЖНЯ

ў Маскве пачаўся з'езд Руху дэмакратычных рэформ, які падтрымаў у сваёй рэзалюцыі стварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў. (Рух за дэмакратычныя рэформы на Беларусі быў прадстаўлены на з'ездзе назіральнікамі). Адзін з лідэраў руху — Гаўрыіл Папоў — неўзабаве аб'явіў аб сваёй адстаўцы з паста мэра Масквы.

### 15 СНЕЖНЯ

палітычны дырэктар Міністэрства замежных спраў Вялікабрытаніі спецыяльны пасланнік Л. Эпл'ярд і надзвычайны і паўнамоцны пасол гэтай краіны Р. Брэйтвэйт правялі ў Мінску перамовы са Старшынёй ВС Беларусі С. Шушкевічам і Міністрам замежных спраў рэспублікі П. Краўчанкам. Абмяркоўваліся пытанні нацыянальнай бяспекі, абароны і барацьбы са злачыннасцю.

### 16 СНЕЖНЯ

ў Рыгу па запрашэнні Старшыні ВС Латвіі А. Гарбунова з кароткім візітам прыехаў Старшыня ВС Беларусі С. Шушкевіч. Падпісана «Дэкларацыя аб прынцыпах добрасуседскіх адносін паміж Рэспублікай Беларусь і Латвійскай Рэспублікай».

### 17 СНЕЖНЯ

пачала работу «чарговая нечарговая» сесія парламента Беларусі. Сярод галоўных пытанняў — падаткі, бюджэт, рэарганізацыя Вярхоўнага Савета.

Старшыня ВС Беларусі С. Шушкевіч прыняў пасла па асобых даручэннях, супрацоўніка МЗС Германіі В. Хейнка. Ёсць дамоўленасць аб абмене генконсульствамі.

### 18 СНЕЖНЯ

ў Мінск прыбыў дзяржаўны сакратар ЗША Дж. Бейкер. Перад гэтым ён правёў перамовы ў Маскве з Б. Ельцыным і М. Гарбачовым (менавіта ў такой паслядоўнасці), пабываў у Бішкеку і Алма-Аце. Пасля перамоў у сталіцы Беларусі Бейкер накіраваўся ў Кіеў.

# Снежань. Пляц Незалежнасці

Нядаўна Мінскі гарвыканком прысвоіў, нарэшце, афіцыйную назву плошчы перад Домам урада. Так што ў мінулую нядзелю каля паўтары тысячы чалавек прыйшлі ўжо не на «плошчу Леніна», як пісалі раней, а на пляц Незалежнасці. У гэтым лёгка ўбачыць сімволіку. Але паміж словам, калі нават пісаць яго з вялікай літары, і яго рэальным зместам ёсць розніца. Пра гэта, у прыватнасці, ішла размова на мітынгу, арганізаваным Беларускім народным фронтам.

Адметнай была значна меншая колькасць лозунгаў на мітынгу. З лозунгаў «супраць» гэтым разам быў, бадай, усяго адзін: «Ураду Беларусі адстаўку!» Хоць і паўтараўся ён з рознымі варыяцыямі практычна ва ўсіх выступленнях, нельга было не адчуць новую, трошкі нязвыклую танальнасць мітынгу. Гэта не была акцыя пратэсту БНФ ці парламенцкай апазіцыі. Апазіцыя — як сцвярджалі самі яе лідэры — вырашыла «параіцца з людзьмі», удакладніць учарашнія арыенціры ў новай палітычнай сітуацыі, якая складваецца ў выніку ўтварэння Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Ці набыла Беларусь сапраўдную незалежнасць, фармальна абвешчаную некалькі месяцаў таму? На гэтае пытанне старшыня сойма БНФ Зянон Пазняк катэгарычна адказаў — не. Ён прапанаваў у сваім выступленні чатыры крытэрыі суверэнітэту: свая валюта, дыпламатычныя стасункі з іншымі дзяржавамі, уласнае войска, свая мытная сістэма. Нічога гэтага сёння няма. Народ жа Беларусі — апазіцыя " рэальна ацэньвае сітуацыю — знаходзіцца пакуль што ў стане летаргіі. Людзі ў большасці разгублены, знаходзяцца ў пасіўным чаканні. Аднак ужо на пачатку наступнага года сітуацыя можа рэзка змяніцца. Народ, даведзены да адчаю, можа выйсці на вуліцы. Ці гатовы да гэтага Вярхоўны Савет, сённяшняе кіраўніцтва рэспублікі? Верагодна, не. А ці сапраўды падрыхтаваны да такога павароту падзей БНФ, дэмакратычныя партыі, незалежныя прафсаюзы? Зіма дасць адказ...

**Віталь ТАРАС.**

# Ўратаваць Беларусь

## На сойме БНФ «Адраджэнне»

**На снежаньскім пасяджэнні сойма БНФ абмяркоўвалася ўнутранае й знешнепалітычнае становішча Беларусі. Падпісанне пагаднення аб утварэнні Садружнасці Незалежных Дзяржаў — пацвярджэнне прагнозаў БНФ адносна палітычнай бесперспектыўнасці савецкай імперыі. Удзельнікі абмеркавання падкрэслілі, што Садружнасць Незалежных Дзяржаў, абвешчаная ў Белавежскай пушчы, — гэта часовае ўтварэнне, кампраміс процілеглых інтарэсаў Расіі ды Украіны. Калі для Расіі, і гэта заявілі яе лідэры на сесіі ВС РСФСР, новае пагадненне — апошні шанц захавання адзінства рэспублік, г. зн. аднаўлення імперыі, дык для Украіны Садружнасць — зручны і досыць бесканфліктны шлях да поўнай незалежнасці.**

**Кіраўніцтва ж Беларусі не мае канцэпцыі беларускай палітыкі, не бачыць перспектывы, не жыве інтарэсамі беларускай дзяржавы і яе народа. Таму Беларусь у навастворанай Садружнасці можа чакаць службовая роля ў рэчышчы інтарэсаў Расіі.**

**Сябры сойма БНФ віталі фактычны канец існавання СССР і структур Цэнтра — асноўнай крыніцы нестабільнасці на тэрыторыі былога Саюза. У новай сітуацыі Беларусь магла б рэалізаваць магчымасць стаць на незалежны шлях развіцця. Але з розных прычын — прыналежнасці да наменклатурных кланаў, арганічнай нядольнасці браць на сябе адказнасць за лёс краіны — ані Саўмін, ані Вярхоўны Савет, ані іхняе кіраўніцтва не здольныя ўратаваць Беларусь і ўзяць прыклад хаця б з прэзідэнта Краўчука.**

**Таму надзённай унутрыпалітычнай задачай Фронту, усіх дэмакратычных сіл застаецца лінія на адстаўку ўрада Кебіча і на новыя выбары ў вышэйшы орган улады Рэспублікі. Толькі ўрад Народнага Даверу і новы Вярхоўны Савет (ці Сойм) будуць у стане весці палітыку ў інтарэсах народа Беларусі, не дапусцяць, каб наша рэспубліка стала чужой калоніяй, аплачвала чужую безгаспадарчасць, чужыя імперскія амбіцыі, карміла тых, хто не можа пракарміць сам сябе.**

**Сойм ухваліў падыход і практычныя захады апазіцыі БНФ у Вярхоўным Савеце ў дачыненні да белавежскіх пагадненняў. Беларусі патрэбна ствараць свае войска на аснове армейскіх злучэнняў, што знаходзяцца на нашай тэрыторыі. Наша краіна мае законнае права на долю ўсіх каштоўнасцяў і маёмасці былога СССР, у тым ліку залатога запасу, флоту і г. д. Менск павінен стаць не цэнтрам бюракратычных структур недаўгавечнай садружнасці, а сталіцай незалежнай Беларусі. Стратэгічны шлях нашай краіны — вызваленне ад імперскіх, асімілятарскіх путаў і вяртанне ў Еўропу.**

**В. ВЯЧОРКА,**
**сакратар управы БНФ.**

З ПОШТЫ ТЫДНЯ

# ЁСЦЬ ТАКАЯ ПОСТАЦЬ

Хоць я і не грамадзянін Беларусі— 35 гадоў жыву ў Амерыцы і маю грамадзянства Злучаных Штатаў, — але ідэнтыфікую сябе як беларуса, і на гэтай аснове дазваляю сабе выказаць меркаванні ў адным, на маю думку, прынцыпова важным пытанні, што цяпер актыўна дэбатуецца ў рэспубліканскім друку, пытанні помніка Леніну на плошчы Незалежнасці ў Менску.

Адзін з аргументаў, якім карыстаюцца прыхільнікі захавання помніка Леніну ў цэнтры сталіцы Беларусі, гэта тое, што няма, бачыце, у гісторыі Беларусі адпаведнае постаці, помнік якой мог бы стаць на месца абвержанага гісторыяй тэарэтыка і практыка ідэі камунізму. Але шмат хто, думаю, згодзіцца, што такая постаць ёсць. Гэта — святая Еўфрасіння Полацкая. Манумент Еўфрасінні, адпаведна спраектаваны, меў бы вялікую перавагу над помнікам Леніну. Ніжэй падаю аргументы ў падтрыманне сваёе прапановы.

**1. Святую Еўфрасінню Полацкую прызнаюць абедзве царквы, праваслаўная і каталіцкая. Пры спалітызаванасці сучаснае праваслаўнае царквы на Беларусі, якая цягне ў бок расейшчыны, і каталіцкага касцёла, які цягне ў бок польшчыны, помнік беларускай святой у цэнтры сталіцы падкрэсліваў бы патрэбу інстытуцыялізацыі хрысціянства ў Беларусі на сваёй народнай аснове, каб і праваслаўная царква, і каталіцкая задзіночвалі беларускіх вернікаў абедзвюх канфесіяў у адно цэлае, а не раздзялялі іх на «рускіх» і «палякоў». Святую Еўфрасінню Полацкую людзі абодвух веравызнанняў уважаюць за апякунку Беларусі. Гэта дадатковая прычына, чаму яна заслугоўвае на помнік у цэнтры сталіцы.**

**2. Еўфрасіння Полацкая — асоба гістарычная. Жыла яна ў дванаццатым стагоддзі. Пастаўленая сёння ў цэнтр увагі, яна будзе напамінаць сучаснаму беларускаму грамадству ягоную шматвяковую слаўную гісторыю, на працягу якое былі і ўздымы, і спады. Сёння, як і заўсёды, вельмі важна памятаць, што ў гісторыі народа бываюць цяжкія часіны, і чым яны цяжэйшыя, тым больш трэба ведаць, што цяжкасці перамагаюцца супольнымі намаганнямі, як пра гэта сведчыць мноства прыкладаў з нашай жа гісторыі.**

**Сваёй прысутнасцю на плошчы Незалежнасці слаўная дачка Беларусі Еўфрасіння Полацкая будзе нагадваць свайму народу пра багацце нацыянальнай гісторыі, як дадатковую крыніцу веры ў сілу народнага духу і веры ў боскую апеку над Беларуссю. Памыляюцца тыя, хто кажа, што давай спачатку эканоміку, а пасля будзем займацца гісторыяй. У сапраўднасці ж гісторыя і эканоміка цесна спалучаныя адно з адным нябачнымі ніцямі. Бяда ў тым, што разгледзець гэтую сувязь шмат каму перашкаджае партыйна-матэрыялістычнае ўзгадаванне, якое дала савецкая школа.**

**3. Сваім сацыяльным паходжаннем, будучы ўнучкаю слаўнага вялікага князя Усяслава, Еўфрасіння Полацкая будзе вызваляць нашага сучасніка ад закамплексаванасці, што, бач, беларускасць — гэта сялянскасць, вясковасць і больш нічога. Савецкая гістарычная школа, хоць і цвердзіла пра шматкласавасць беларускай нацыі ў дакастрычніцкім перыядзе, але паняцце пра беларускі народ у мінулых стагоддзях звяла практычна да паняцця пра паднявольнага селяніна і ў адпаведнасці з гэтым насвятляла беларускі гістарычны працэс. Помнік Еўфрасінні Полацкай у цэнтры сталіцы будзе запярэчаннем гэтай спрымітызаванай, шкоднай для сучаснага адраджэння версіі беларускай мінуўшчыны. Ён будзе сведчыць аб тым, што беларуская зямля мела некалі сваіх князёў, магнатаў, інтэлігенцыю — сыноў і дачок, для якіх Беларусь была не толькі месцам пражывання, а іх аб'ектам патрыятычнага зацікаўлення, крыніцай ідэалаў, якія надавалі вышэйшы сэнс жыццю, чымся толькі дбанне пра асабістыя інтарэсы. Аб гэтым красамоўна гавораць гістарычныя працы Міколы Ермаловіча, Кастуся Тарасава, Язэпа Юхо, братоў Анатоля і Валянціна Грыцкевічаў ды іншых гісторыкаў.**

**4. Сваёй культурнай дзейнасцю — перапісваннем кніг, заснаваннем школ, бібліятэк, будаваннем цэркваў і манастыроў — Еўфрасіння Полацкая на самым пачатку нашай гісторыі паказала на важную ролю культуры ў жыцці народа і падала прыклад служэння на культурнай ніве. Ізноў жа, трэба падкрэсліць, што не можа быць адраджэння эканомікі без паралельнага адроджвання культуры — культуры не наноснай, а сваёй, што арганічна звязана з традыцыямі народа, з ягонай шматвяковай мінуўшчынай, з ягоным заўтрашнім матэрыяльным і духоўным дабрабытам.**

А пра што нам сёння гаворыць помнік Леніну ў Менску? Хопіць зірнуць навакол, каб пабачыць адказ — пра экалагічную, эканамічную ды культурную катастрофу, якою закончыўся эксперымент будавання палітычна-сацыяльнага ладу на прынцыпах, што пярэчаць чалавечай натуры. Сведчыць ён таксама пра народ, які страціў сваю гістарычную памяць, сваю мову — вынік ленінскай нацыянальнай палітыкі. І ці не самае страшнае, пра што гэты помнік сведчыць, гэта пра нядольнасць большасці сучаснага беларускага грамадства ацэньваць важнасць сувязі паміж гістарычна-культурнай спадчынай народа і ягоным сучасным матэрыяльным станам. А сувязь гэткая мусіць быць усвядомленая як мага шырэйшымі коламі грамадства. Гэта, безумоўна, аніяк не значыць, што эканамічным праблемам трэба адмаўляць у прыярытэце, які ім сёння належыць. Але якраз таму, што эканоміка важная, трэба ў максімальнай меры ўключаць у эканамічнае адраджэнне адбудову гістарычна-культурных багаццяў, каб чалавек, які адраджае эканоміку, быў багаты духам сваім, каб ён верыў не толькі ў сваю ўласную сілу, але і ў калектыўную сілу свайго народа. «Вера твая спасла цябе», — сказаў Ісус Хрыстос жанчыне, якая прыйшла да Яго шукаць ратунку. Амерыканскі прэзідэнт Франклін Рузвельт, калі стаўся ў 1933 годзе прэзідэнтам краіны і пачынаў выводзіць свой народ з крызісу, гэтак званай вялікай дэпрэсіі, першае, што зрабіў, гэта заклікаў людзей перамагчы страх: «Чаго трэба баяцца цяпер найбольш, — сказаў Рузвельт, — дык гэта самога страху». Крылатая фраза, якую можна часта пачуць цяпер.

Беларуская гісторыя багатая на прыклады сілы духу, веры ў свой народ, вернасці служэння грамадскаму дабру. Вобраз св. Еўфрасінні Полацкай — якраз найкрасамоўнейшы прыклад гэткага духоўнага багацця. І ў гэтым вобразе, калі яго належна ўвасобіць у помніку, — невычарпальная крыніца маральнай сілы, гэтак патрэбнай нам сёння. Недарма ж Міністэрства замежных спраў Беларусі гэтак інтэнсіўна праводзіць цяпер па цэлым свеце пошукі найдаражэйшае рэліквіі беларускага народа — крыжа св. Еўфрасінні Полацкай. Але трэба шукаць не толькі крыж, трэба вярнуць народу і самую асобу Еўфрасінні, вярнуць яе на цэнтральнае месца, якое яна заслугоўвае. Няхай помнік Еўфрасінні Полацкай у сэрцы сталічнага Менску станецца сімвалам Беларусі, якая будзе адзначацца хрысціянскай мараллю, веданнем сваёй мінуўшчыны і глыбокай верай, што ўсякія цяжкасці могуць быць пераможаныя, калі народ злучаны ў адно цэлае супольнымі вартасцямі.

**Янка ЗАПРУДНІК.**

Нью-Йорк.

# РЭФОРМА, ЦЭНЫ І ЦАНА РЭФОРМЫ

У чацвер першы намеснік Старшыні Савета Міністраў Беларусі М. Мясніковіч даў прэс-канферэнцыю, прысвечаную сітуацыі ў рэспубліцы ў сувязі з эканамічнымі рэформамі.

У самым пачатку свайго выступлення Міхаіл Уладзіміравіч прывёў вынікі сацыялагічнага апытання, праведзенага днямі ў Мінску. Большая частка апытаных станоўча ўспрымае той факт, што Савецкага Саюза больш не існуе. А 84 працэнты апытаных падтрымліваюць у той ці іншай меры ўтварэнне Садружнасці Незалежных Дзяржаў.

Урад Беларусі, сказаў віцэ-прэм'ер, працуе зараз у цесным кантакце з Расіяй і Украінай, каб напоўніць пагадненне і заяву, падпісаныя 8 снежня, рэальным зместам. Ёсць канкрэтныя дамоўленасці. Днямі падпісаны міжурадавыя пагадненні аб агульных падыходах да падаткавай бюджэтнай палітыкі.

Дэфіцыт бюджэту на наступны год не павінен перавышаць 6 працэнтаў. Пры гэтым патрэбны жорсткі кантроль за грашовай эмісіяй. Гэтыя падыходы, як можна зразумець, дэлегацыя Беларусі будзе адстойваць на перамовах у Алма-Аце, якія пачнуцца ў суботу.

На думку М. Мясніковіча, ёсць магчымасць збалансаваць эканоміку рэспублікі на 92-гі год. Але цяжкасцей гэтай зімой будзе нямала. Без паліва, а значыць і цяпла, мы не застанёмся. Аднак ёсць дэфіцыт электраэнергіі.

З 1 студзеня адпускаюцца ўсе цэны на прадукцыю вытворча-тэхнічнага прызначэння. Цэны на нафту і газ узрастуць у 5 разоў, на паліва — у 4,8, цеплаэнергію — у 4 і г. д.

Узрастуць закупныя цэны на сельгаспрадукцыю, а значыць — і рознічныя. Паводле папярэдніх разлікаў, нам прыйдзецца плаціць за кілаграм ялавічыны ў 6,5, свініны — у 7,6, яйкі — у 2,7 раза больш, чым цяпер (пералік можна працягваць).

Сярэдні індэкс цэн адносна мінулагодняга складзе 3,3 раза.

Зарплата павялічыцца амаль удвая. Яе мінімальны ўзровень складзе 350 рублёў. А мінімальная пенсія будзе роўная мінімальнай зарплаце.

Ясна, што наш жыццёвы ўзровень рэзка панізіцца. Якія ж меры сацыяльнай абароны прапануе ўрад? Па-першае, устанаўліваецца гранічны ўзровень павышэння цэн на хлеб (максімум у 2 разы), цукар (у 3), малако, дзіцячае харчаванне (у 2), гарэлку і віно (у 3), а таксама бензін, газу, вугаль, торф, дровы... На ўсё гэта спатрэбіцца дзяржаўная датацыя ў 15 мільярдаў рублёў.

Грашыма будуць часткова кампенсавацца цэны на малако, масла, мяса (760 рублёў на чалавека ў год будуць выдавацца паквартальна). Павялічыцца кампенсацыя на дзяцей, інвалідаў. Будзе праводзіцца індэксацыя ўкладаў насельніцтва. Для абароны спажывецкага рынку ўводзяцца купоны. Яны ўжо надрукаваны.

М. Мясніковіч падкрэсліў, што лібералізацыя цэн і іх адміністрацыйнае павышэнне — зусім розныя рэчы. Калі ўдасца наталіць рынак таварамі, пачнецца зніжэнне цэн у адпаведнасці з попытам.

Зразумела, што нармальны рынак будзе толькі тады, калі ўдасца ліквідаваць дзяржаўны манапалізм у эканоміцы. Шлях да гэтага — няблізкі і нялёгкі. Аднак, на думку віцэ-прэм'ера Беларусі, трэба глядзець на рэчы рэальна і галоўнае — гаварыць людзям праўду.

**НАШ КАР.**

# НОВАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ ПАЧЫНАЕ...

**У сераду, 18 снежня, адбыўся супольны пленум рэспубліканскіх саветаў прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання і прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці. Пасля дакладаў сваіх старшынь А. Бухвостава і Г. Фядыніча, пасля спрэчак і выступленняў старшыні Цэнтральнай Рады БСДГ М. Ткачова і старшыні Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі У. Ганчарыка было вырашана разам з работнікамі прыборабудавання і агульнага машынабудавання стварыць Асацыяцыю незалежных прафсаюзаў і прафсаюзных арганізацый прамысловых прадпрыемстваў Рэспублікі Беларусь. Удзельнікі пленума абвясцілі сябе ўстаноўчым сходам гэтай Асацыяцыі.**

**Адразу ж пасля таго, як была прынята дэкларацыя аб стварэнні Асацыяцыі, яе заснавальнікі абмеркавалі пакет патрабаванняў да ўрада Беларусі. Сутнасць гэтых патрабаванняў можна сфармуляваць так: усе эканамічныя эксперыменты і рэформы не павінны прывесці да істотнага паніжэння жыццёвага ўзроўню працоўных.**

**Проста з залы пасяджэнняў прадстаўнікі Асацыяцыі накіраваліся ў Дом урада — на сустрэчу з віцэ-прэм'ерам М. Мясніковічам. Калі ўрад не прыслухаецца да патрабаванняў Асацыяцыі, 24 снежня адбудзецца аднагадзінная папераджальная забастоўка. «А калі ўрад праігнаруе яе?» — было пытанне з залы. «Там пабачым», — пачулася ў адказ.**

**Удзельнікі сходу выказалі сваю незадаволенасць і Вярхоўным Саветам, які, як гаворыцца ў адной з заяў, імкнецца знішчыць прафсаюзны і рабочы рух. Не выключана, што Асацыяцыя будзе патрабаваць роспуску гэтага парламента.**

**А. М.**

# «Бацькаўшчына» за незалежнасць

## Зварот рады Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» да грамадзян Беларусі, да Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь

**Дарагія суродзічы, усе, хто жыве на шматпакутнай беларускай зямлі!**

**Услед за краінамі Балтыі і Закаўказзя з ярма імперыі вызвалілася і наша сястра Украіна. Сёння і перад нашай Бацькаўшчынай Беларуссю паўстала пытанне, якое патрабуе неадкладнага вырашэння: альбо нам застацца ўскраінай еўраазіяцкага палітычнага ўтварэння — так званага ССД, альбо абраць шлях незалежнасці, шлях пабудовы дэмакратычнай еўрапейскай беларускай дзяржавы. Будучы ўскраінай, мы застанёмся на перыферыі, цывілізаванага свету: не атрымаем магчымасці па-сапраўднаму рэалізаваць інтэлектуальны і творчы патэнцыял нашага народа, не здолеем у будучым інтэгравацца ў эканамічную супольнасць Еўропы, не атрымаем дзейснай дапамогі сусветнай грамадскасці ў нашай чарнобыльскай бядзе. Мы будзем асуджаны на духоўны заняпад і фізічнае вымiранне. Не будучы сапраўды суверэннай дзяржавай, мы не зможам нармальна ўзаемадзейнічаць з мільёнамі нашых суродзічаў, якія жывуць за межамі Беларусі. Таму для нашага народа няма іншага выйсця, як узяць усю адказнасць за сваё захаванне і далейшае развіццё на ўласныя плечы. Незалежная Беларусь — адзіная мэта, якая аб'яднае ўсіх нас, а яе дасягненне — уратуе нас.**

**Не праспім жа свайго часу, каб пачаць будаваць свой дзяржаўны дом, у якім усім жылося б спакойна і заможна! Сёння, калі імперскія сілы аслаблі, гэтага можна дасягнуць мірным шляхам.**

**Мы заклікаем Старшыню Вярхоўнага Савета рэспублікі сп. С. Шушкевіча, народных дэпутатаў Беларусі не заключаць ніякіх палітычных саюзаў, калі гэтыя саюзы не будуць раўнапраўнымі і выгоднымі для нашага дзесяцімільённага народа.**

**Мы заклікаем усіх грамадзян Беларусі гуртавацца дзеля свабоды, незалежнасці і будучага працвітання нашай Бацькаўшчыны.**

**Жыве Беларусь!**

Прынята радай Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына» 8 снежня 1991 г.

Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына» адзначыла своеасаблівы юбілей — мінуў год ад часу яго рэгістрацыі як юрыдычнай асобы. Да гэтай даты было прымеркавана пасяджэнне рады, якое, у сваю чаргу, супала і дапасавалася да больш значнай для Беларусі падзеі — сотымі ўгодкамі з дня нараджэння Максіма Багдановіча, чалавека, які ўсё свядомае жыццё пражыў за межамі Бацькаўшчыны, сярод іншамоўнага атачэння, але свята захоўваў вернасць свайму народу, роднай культуры, караням і традыцыям продкаў. Менавіта на падобных яму людзей найперш і імкнецца арыентавацца ў сваёй дзейнасці Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына».

На пасяджэнне рады былі запрошаны прадстаўнікі ад усіх вядомых на абшарах былога Саюза зямляцтваў, беларускіх грамадскіх аб'яднанняў Беласточчыны. На жаль, адлегласці, а таксама ўсё яшчэ немалыя цяжкасці з афармленнем уязных віз праз савецкія пасольствы не дазволілі пабыць на Багдановічавым свяце, а заадно і на пасяджэнні рады нашым прыхільнікам з далёкіх краін. А шкада, бо такія людзі, як, скажам, Янка Запруднік, Вітаўт Кіпель, Барыс Кіт, Антон Шукелойць, яскрава ўвасабляюць вернасць ідэалам Максіма Багдановіча, будучы і на чужыне палымянымі патрыётамі сваёй Бацькаўшчыны.

Распачалася рада яркім, змястоўным і адначасова заклапочаным, насычаным трывогай за лёс нашай пакутніцы Беларусі словам прэзідэнта згуртавання Васіля Быкава. Уласна кажучы, выступленне В. Быкава і натхніла ўдзельнікаў пасяджэння на прыняцце Звароту, змешчанага ў гэтым нумары «ЛіМа».

Складаўся ён 8 снежня, якраз тады, калі ў Белавежскай пушчы адбываліся падзеі, якія ўжо ацэнены міжнароднай грамадскасцю як адны з найбольш значных у гісторыі нашага стагоддзя. Але перамовы лідэраў трох рэспублік вяліся пры зачыненых дзвярах, і таму мы, зразумела, не маглі здагадвацца пра іх вынікі, тым больш, як засведчылі кіраўнікі, гэтыя вынікі і для іх саміх з'явіліся пэўнай нечаканасцю.

Гэта добра, калі рашэнні вярхоў супадаюць з памкненнямі нізоў.

Вядома, падпісаныя дакументы і прамоўленыя словы яшчэ не даюць поўнай гарантыі, што Беларусь нарэшце цалкам пазбавілася небяспекі імперскага дыктату, назаўжды здабыла сабе права быць гаспадыняй ва ўласным доме, але яны абнадзейваюць, абуджаюць у знявераных веру. А гарантам жыццядзейнасці ў гэтай сітуацыі павінен быць сам народ, яго слова.

Безумоўна, на пасяджэнні рады вялася гаворка не толькі пра агульныя для Беларусі справы, але найперш пра дзейнасць Згуртавання «Бацькаўшчына». За год зроблена нямала і пра гэта паведамлялася са старонак «ЛіМа» і іншых перыядычных беларускіх выданняў, чаго, аднак, нельга сказаць пра радыё і тэлебачанне, якія ці зацята імкнуцца не заўважаць «Бацькаўшчыны», ці тэндэнцыйна асвятляць яе дзейнасць. Ды гэта, зрэшты, не асноўная перашкода. Куды больш істотна, што для працы не было створана самых элементарных умоў. Ці ж гэта нармальна, што дасюль згуртаванне не мае ўласнага памяшкання, не кажучы пра ўсё іншае, чым былі надзелены іншыя грамадскія арганізацыі! А між тым «Бацькаўшчына» заклікана пазбавіць віны перад тысячамі нашых суродзічаў, якія па самых розных прычынах былі рассеены па абшарах свету, але свята захоўвалі вернасць Маці-Беларусі, шанавалі сваю нацыянальную годнасць. Ды яна, будучы і сама бяспраўнай, не толькі не мела магчымасці іх прыхінуць да сябе, але, кіруючыся злой воляй, праз чужую афіцыйную ўладу ў лепшым выпадку ігнаравала іх, у горшым — абражала. Дык няўжо і сёння мы будзем глухімі і абыякавымі да сваіх верных сыноў і дачок? Пра тое, як дзяржава клапоціцца пра сваіх суродзічаў, дае добры прыклад суседняя Польшча: надзвычай спрыяльныя ўмовы створаны там для працы падобнай «Бацькаўшчышчыне» «Едноце Польскай».

Сябры рады, дэпутаты Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (а іх 10 чалавек) вырашылі звярнуцца з лістом да Старшыні Савета Міністраў Вячаслава Кебіча з заклікам стварыць належныя ўмовы для дзейнасці «Бацькаўшчыны», перш за ўсё вырашыць пытанне з памяшканнем для офіса і культурнага цэнтра, прызначанага для забеспячэння духоўных патрэб беларускай дыяспары.

Беларусь сёння на новым вітку свайго развіцця. Як хочацца, каб яна нарэшце заняла свой пачэсны пасад між народамі, стала паўнацэннай еўрапейскай дзяржавай! Дай Божа, каб у Новым годзе спраўдзіліся надзеі людзей на лепшае жыццё, спадзяванні ўсіх беларусаў на вольную, незалежную і шчаслівую Бацькаўшчыну.

**Яўген ЛЕЦКА,**
**старшыня Згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына».**

# «Сімха» азначае «Радасць»

Адзвінела песнямі, адзіхацела агнямі Ханука — яўрэйскае нацыянальнае свята. Яго заключным акордам у Мінску стаў першы фестываль дзіцячай творчасці «Сімха».

«Сімха» на іўрыце — радасць. Усе, хто прыйшоў у той нядзельны вечар у Палац культуры чыгуначнікаў, могуць упэўнена сказаць: гэта сапраўды быў фестываль радасці.

У журы фестывалю — народны артыст Беларусі Леў Гарэлік, заслужаная артыстка рэспублікі Юдзіф Арончык, прэзідэнт аб'яднання яўрэйскіх арганізацый і суполак архітэктар Леанід Левін, мастацтвазнаўца Алег Ойстрах, мастак Май Данцыг, кінарэжысёр Аркадзь Рудэрман, пісьменнік Рыгор Рэлес, прадстаўнік Яўрэйскага агенцтва «Сахнут» Маці Шарфштэйн.

Выступалі аб'яднаны хор мінскіх школ пад кіраўніцтвам Елізаветы Хаскінай, вакальна-інструментальны ансамбль «Макавеі» Мінскай яўрэйскай нядзельнай школы (кіраўнікі Яўгенія Старобінец і Аркадзь Гофман), танцавальны калектыў «Алія» пры Палацы культуры аўтазавода (кіраўнік Яфім Гутман), вучань музычнага ліцэя пры Беларускай дзяржаўнай кансерваторыі Мікаэл Самсонаў, а таксама госці фестывалю — дзяўчынкі з дзіцячай цыркавой студыі пры Палацы культуры чыгуначнікаў, сёстры Шарфштэйн з Ізраіля. У фае — выстаўка дзіцячых малюнкаў, лепкі, вышыўкі, выпальвання па дрэве.

Арганізавалі і правялі фестываль Якаў Бельнік (рэжысёр), Ганна Гурэвіч, Соф'я Абрамава, Фрыда Рэйзман, Барыс Фейгін, Фелікс Хаймовіч, Мая Крапіна, Ала Левіна.

Спонсарамі былі Аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і суполак, Яўрэйскае агенцтва, навукова-вытворчае аб'яднанне «Пульсар».

Фестываль «Сімха» — безумоўна, падзея ў культурным жыцці Беларусі. Ён пераканаўча даказаў: таталітарны рэжым не здолеў забіць культуру старажытнейшага народа, яе новыя парасткі прабіліся скрозь змрочныя сцены былых забарон. Але гэта не азначае, што яны не маюць патрэбу ў падтрымцы. Самая галоўная праблема—мова. Большасць яўрэйскіх дзяцей у Беларусі не ведаюць мовы ідыш. Думаецца, у Беларускім дзяржуніверсітэце і інстытуце культуры павінны быць аддзяленні гэбраістыкі.

**М. НАРДШТЭЙН.**

ПОСТАЦІ

# Дума пра Адама Варлыгу

Чужое хваліце,
Свайго не знаеце,
Самі не ведаеце,
Чым валодаеце.

Дзіўнае ўражанне выклікае ў маім сэрцы гэты верш невядомага паэта. У нашай краіне знішчэнне і заняпад настолькі звыклыя, што ўжо, здаецца, нашы вочы прызвычаіліся да гэтых самотных карцін. Роспач і слёзы зрабіліся нашай доляй, і адзінае наша суцяшэнне — гэта вяртанне ў думках да нашай мінуўшчыны, калі яшчэ ў людзях жыла вера, калі свята ўшаноўваліся звычаі і абрады, калі мова народа яшчэ захоўвала сваю спрадвечную чысціню. Цяпер мы можам знайсці гэта ўсё толькі ў творах нястомных збіральнікаў народнай мудрасці.

Адзін з іх — Адам Варлыга.

Адам Варлыга (Язэп Адамавіч Гладкі) нарадзіўся 27 кастрычніка 1890 года ў вёсцы Міхалкавічы Гайна-Слабадской валасці Барысаўскага павета, памёр 28 ліпеня 1972 года ў горадзе Нью-Йорку. Дэлегат І Усебеларускага з'езда, заснавальнік першай беларускай школы ў Барысаўскім павеце, складальнік шматлікіх школьных падручнікаў і дапаможнікаў на беларускай мове, аўтар «Краёвага слоўніка Лагойшчы-



Я. Гладкі.

ны», зборнікаў «Прыказкі Лагойшчыны» і народных песень «Дудар», багатых фальклорна-этнаграфічных запісаў, ненадрукаванай кнігі бібліяграфічна-мемуарнага характару «Чутае, бачанае, перажытае» — сапраўднага летапісу Лагойшчыны канца 19-га — пачатку 20-га стагоддзя.

## Яго сцежкі

Праз маё акно я добра бачу вёску Міхалкавічы. Магу ў думках прайсці па яе ваколіцах. Прама перада мною — урочышча Майдан, за ім — Уздаткі. За Уздаткамі, бліжэй да сяла, узвышаецца Курганнік. Яшчэ некалькі дзесяткаў год назад тут добра былі відаць сляды старажытнага гарадзішча. Цяпер жа ўсё заарана. Дарэчы сказаць, Язэп Гладкі хацеў разам з вучнямі Міхалкавіцкай школы раскапаць гэта гарадзішча ў пачатку 30-х гадоў, але ўлады не дазволілі.

Пераходзім дарогу крыху вышэй урочышча Канашоўка і трапляем у мясціну з прыгожай назвай Рагазіна. Не так даўно тут стаяў драўляны крыж, з-пад якога біла крыніца. Цяпер жа выкапалі невялічкае азерца, у якім купаюцца, пояць жывёлу. На ўсход ад Міхалкавіч пачынаецца цэлая чарада ўрочышчаў з самабытнымі назвамі: Плень, Навінка, Царкавішча, Куплёнае, Нізкое, Клёрык... І, вядома, кожная назва мае сваю гісторыю. Тут можна даць волю фантазіі. Калі прайсці яшчэ на ўсход, ажно за вёску Лішчыцы, то трапім ва ўрочышча Бычкі, пра якое расказваюць вось што. Пайшоў адзін мужык на Вялікадня зямлю араць, а Бог пакараў яго, ператварыўшы разам з валамі ў валуны. Калі глядзець здалёк, то вельмі нагадвае.

На поўдзень ад Міхалкавіч знаходзіцца Поле, за ім урочышча Баўтоўка. Там, у Камяніцы, побач з дарогай на Жырблевічы, памятаю, садзіў лес з аднакласнікамі ў 1968 годзе. Добры барок вырас. Ужо людзі па грыбы і па ягады ходзяць. Як імкліва бяжыць час!

Пад вёску Антаноўка па дарозе трапляецца Казакова балотца. Кажуць, ехаў некалі казак на кані і ўтапіўся. На захад ад Міхалкавіч знаходзіцца Рымаўшчына. Расказваюць, там возера было і нейкі Рымар жыў. Яго адзіная дачка ўтапілася ў гэтым возеры, дык ён папрасіў чарадзея, каб той выпіў возера. На месцы возера застаўся вялікі валун.

Куды ні кінь вока — адны легенды. На гэтай зямлі нельга не нарадзіцца казачнікам або паэтам.

А вось і Язэпаў бор. Пасадзіў яго Язэп Адамавіч Гладкі разам са сваімі вучнямі. Праз многа гадоў у лісце з Амерыкі ён пытаўся ў землякоў пра гэты бор. Яму адпісалі, што ў бары ўжо збіраюць баравікі. А ён потым напісаў: «Надта мая душа радуецца, што растуць баравікі». Аднавяскоўцы хацелі паслаць яму сушаных грыбоў, аднак на пошце забаранілі. Маўляў, згодна каталогу, нельга такое перасылаць. Так і не пакаштаваў Язэп Гладкі грыбкоў, якія выраслі ў яго бары. А бор расце, мацнее, шуміць і, мабыць, смуткуе па дзядзьку Язэпу, які спіць вечным сном на далёкай чужыне, а не на Коранскіх старасвецкіх могілках, дзе ляжаць яго блізкія.

## Яго школа

У Адама і Магдалены Гладкіх было шасцёра дзяцей: Янка, Ганна, Марыля, Юзюк, Казюк і Юзэфа. Самыя здольныя да навукі Юзюк і Казюк спачатку вучыліся ў Коранскай, расейскай школе, потым у Хаценчыцкім народным вучылішчы. Успамінае Ганніна дачка Марыля: «У Хаценчыцах вучыліся... Дык усяк надзеты хадзілі. А ў майго таты быў пінжачок, у якім ён вянчаўся. Мама ў вузялку яго дзяржыць. да касцёла надзець калі, і ён ужо да смерці будзе ляжаць, калі ў пашанасці. Дык вот я помню, як тата кажа: «Знаеш што, Ганна, я свой пінжачок аддам Казюку. Як пагляджу, як яны вучацца». Ведаць, там багатыя былі, Сакалоўскія, Равіны, дык яны лепей адзяваліся. А яны ў зрэбным. Аддам я, кажа, гэты пінжачок Казюку. Дык мама кажа: «А бо, ты ж ужо сабе не купіш. Як быў нежанаты, купіў, а цяпер ужо не...» Узяў, аддаў Казюку...»

Праз некалькі гадоў браты Гладкія прыступаюць да арганізацыі беларускай школы ў родных мясцінах. У Корані, дзе калісьці яны пачыналі сваю школьную вучобу, іхнімі захадамі засноўваецца першая беларуская школа ва ўсім Барысаўскім павеце. Кіраўніком яе стаў Казімір Гладкі, малодшы брат Язэпа, з якім яны закончылі настаўніцкія курсы і практыку педагагічнай працы. Язэп жа Гладкі быў настаўнікам-практыкантам. Вось што ўспамінае пра той час жыхар вёскі Лозкі Уладзімір Саевіч:

**«Я толькі тры зімы і хадзіў. Ганяю ў поле, як каровы становяцца — я ў школу. Вучыўся з 1921 года па 1924 год. У чацвёрты клас не пайшоў, гадаваў сваю кабылу Дуньку. Сам лапці плёў. Апранаў саматканую бурачку з башлыком, шарачковыя штаны. Тады яшчэ пры млынах валілі валюшы, рабілі сапраўднае сукно. Хадзілі мы ў школу з братам. Нашых, лазаўцоў, было добры тузін. Многа дзяцей было і з іншых вёсак. Узрост быў розны. Вучылі нас Анастасія Фамінічна Трубач і браты Гладкія. Хоць і цікава было на ўроках, але мяне ўвесь час цягнула да зямлі: араць, касіць. Любіў у кузні працаваць — патрэбная справа, усё сельскае я любіў...»**

Восенню 1924 года жыхары вёскі Міхалкавічы дружнай талакою пачалі перавозіць з Краснага Бору панскі свіран і будаваць прасторную школу. Ударылі маразы, дык мусілі разаграваць мох. Кіраваў будаўніцтвам Язэп Гладкі. Ён і заняў справу навучання ў яшчэ адной беларускай школе. Ягонай радасці не было канца. Нарэшце ён мог ажыццявіць свае задумы. А іх было шмат. Язэп Адамавіч вельмі любіў садзіць дрэвы, хацеў, каб ля кожнай хаты быў садок. Яшчэ ў 1910 годзе ён пасадзіў перад вокнамі сваёй хаты пяць ліп. Цяпер гэта магутныя прыгожыя веліканы, якія вітаюць кожнага здалёк, хто набліжаецца да Міхалкавіч. Пад вокнамі школы вучні ўскапалі вялікі гарод, пасадзілі турнэпс, буракі, капусту. На ўсход ад школы разбілі вялікі сад. Язэп Адамавіч збіраў насенне яблынь і груш, відаць, думаў усур'ёз заняцца селекцыяй. На захад ад вёскі пасадзіў з вучнямі вялікі сасновы бор, пра які я згадаў раней.

Урокі ў школе ён праводзіў з вялікім натхненнем. Праходзілі яны цікава. Язэп Адамавіч часта ўжываў шматлікія народныя прыказкі, расказваў вучням мясцовыя легенды і паданні, спяваў песні, якія былыя яго вучні памятаюць і дагэтуль. Напрыклад, баба Ядвіня Рандарэвіч, якая хадзіла з Антаноўкі ў Міхалкавіцкую школу, праспявала мне дзве такія песні: «На ціхім Дунаі» і «Пры мху, пры балоцечку». Вельмі самабытныя! Несумненна, яны ўвайшлі ў зборнік «Дудар», які Язэп Гладкі выдаў далёка ад родных мясцін.




К. Гладкі (трэці злева ў апошнім радзе) сярод выпускнікоў першых беларускіх педагагічных курсаў.

## Яго партрэт

Успамінае баба Марыля, пляменніца Язэпа Гладкага:

— Ён, знаеце, на разгавор быў скупаваты, так во прыслухваецца, усё так галаву прыкрыўляе, што блізарукі, так усё глядзіць, так усё слухае... Каб надта разгаворчывы, дык ён такі ня быў...

— А як ён выглядаў? — пытаюся.

— Русы такі... На красату не быў красівы. Бровы нейкія такія напусцістыя, лупаваты такі... Не быў харошы... Вот Казюк быў харошы, красівы быў. І такі шутлівы, разгаворчывы. А Язэп не такі быў...

Я не помню, у якім годзе яны пачалі вучэнне гэта ў Корані, я не зразу пайшла ў школу. Гэта ж было не так, як цяпер: падыходзіць год вучыцца і ў школу ісці. Адзін ідзе ў 11 гадоў, другі ў 9, трэці, можа, у 14, як хто ўздумае. Я к чацвёртаму класу ўжо схаджу, бывае, і на танцы. І тады ён прыйдзе да нас і так вот глядзіць: «Ну што, Манька, можа, ты сягоння ў Церахах была аж?» Гэта ўжо мяне так падсмейвае... Яго надта ўважалі суседзі, радня. Дзе няўпраўка, дык ён папросіць людзей, і яму ішлі памагаць, каб як-небудзь гэту школу дабудаваць...

Я калі пайшла ў школу, дык былі тамака старшыя класы, хлопцы ў іх з шостага года, з сядмога, ужо і жывых іх няма. Дзеўкі мала хадзілі, больш хлопцы... Валодзя Саевіч з Лозак аднакласнік быў. Я раз пабіла яго. Дык дзядзька Язэп сказаў: «Ты вар'ятка, Манька, ты пазорыш нас. Ён жа сірата, а ты яго крыўдзіш». Ён надта не любіў, як біліся. Добры такі быў. Сына майго, бывала, і падстрыжэ, і мёдам пачастуе.

А як паехаў у Мінск, дык людзі гавораць, я сама не ездзіла, у мяне былі дзеці малыя, а як хто-небудзь з Міхалкавіч паедзе, дык ён пачастуе абавязкова.

Яны, Гладкія, усе такія былі — добрыя, спагадныя людзі. І культурныя. Магу проста прысягнуць, што каб калі якое слова адзін на аднаго сказалі, ці склялі каго, ці самі з сабой ругнуліся ў хаце — ніколі не было.

## Яго лісты

**«Дарагія Паўла і Гелена!**

**Шчыра дзякую вам за лісты ад 10.10 і 17.10.67. Адзін атрымаў 7.11, а другі 9.11. Усё ж яны доўгі час ішлі. Як відаць, і мае да вас гэтак сама доўга ішлі...**

**Калісь я прыкладаў вялікія намаганні, каб Міхалкаўскі бор засадзіць лесам. Я кожнай вясны з вучнямі часта хадзіў у лес збіраць шышкі, дабывалі з іх насенне, а потым садзілі лес. Мне прыходзілась толькі марыць, што за шмат гадоў пасля маёй смерці тут будзе шумець лес, а ў ім будуць чуцца дзіцячыя галасы, якія тут будуць збіраць ягады й грыбы. Але незалежна ад маіх стараннаў тыя мае мары ажыццявіліся нават пры маім жыцці. Гэта ўсё я даведаўся з вашых лістоў, што на вышэй успомненых мясцінах шуміць лес, а ў ім растуць грыбы, а па гэтыя грыбы прыязджаюць міхалкаўцы нават з Мінску. Цікавейшай навіны за гэта для мяне і быць не можа. Пасля гэткай навіны мне і ўміраць будзе лёгка.**

**Калі ласка, напішыце, ці й на сялянскіх шнурах да самага логу ў Рымаўшчыне даходзіць лес? Ці па баках Айнараўскага й Гарбулёвага логу зарос лес? Ці гэтыя лясы садзілі, ці яны самі зараслі? Ці там толькі сасновы лес ці й іншыя пароды? А калі ў Камяніцы садзілі лес, дык там напэўна лісцістыя, а можа месцамі і дуб? А як на Баўтоўца, за нашымі шнурамі, там таксама была благая зямля? А Навінка? А Канашоўка? А ці засталіся неразрытыя ў Курганніку некалькі вялікіх курганоў (спрадвечных славянскіх)? Калі я быў малы, дык іх было каля соткі, але сяляне разбурылі іх.**

**Ці да вашага саўгасу належаць толькі Міхалкавічы і Антаноўка? А дзе яго цэнтр-управа? А каму цяпер належыць міхалкаўская сенажаць «За Жырблевічы» і «Казіныя Лукі»?**

**А дзе ў Міхалкавічах стаіць крама? А ці ёсць у Міхалкавічах хата-чытальня? Бібліятэка? А ці ў Жырблевічах і Лішчыцах таксама саўгасы?**

**Людчыну, Зойчыну і Віцькаву карткі з дзецьмі я атрымаў. Дзякуй. А ці ў вас няма карткі Віцькі аднаго? Калі я вам высылаў свае фотакарткі, дык таго дня выслаў і да Анэты. Яна часам не казала, ці атрымала?**

**Я жыву ў горадзе New York (Нью-Ёрк). Тут у нас зімы лёгкія. Снег рэдка калі бывае. Напрыклад, летась на Каляды была мяцеліца, выпаў снег, але праз два тыдні прапаў. У студні было цёпла. У лютым ізноў выпаў снег, але ляжаў нядоўга. Вёсны бываюць позкія. Дрэвы распускаюцца з 1 мая. Другая палова чэрвеня, ліпень, жнівень і пачатак верасня...»**
**(Канец ліста згублены.)**

## Эпілог

Язэп Гладкі працаваў у пабудаванай яго рукамі школе толькі 6 год. У 1930 годзе яго звольнілі як палітычна ненадзейнага. Ён пераязджае ў Мінск, паступае на вячэрнія курсы Вышэйшага педагагічнага інстытута, які заканчвае ў 1935 годзе і адразу ж уладкоўваецца малодшым навуковым супрацоўнікам у Інстытуце школьнай педагогікі. У 1937 годзе НКУС арыштоўвае яго брата Казіміра, які неўзабаве памірае ў мінскай турме (так паведамляюць блізкім). Трое дзяцей: Віктар, Людміла, Зося застаюцца сіротамі. Язэп Гладкі вельмі востра перажывае смерць брата.

У пачатку вайны Язэп Гладкі вяртаецца ў родную вёску Міхалкавічы і працуе ў школе. Праз нейкі час уладкоўваецца ў выдавецтва школьных падручнікаў у Мінску. Пасля вайны, апынуўшыся ў Заходняй Германіі, Я. Гладкі займаецца педагагічнай дзейнасцю і выдае «Лемантар», чытанкі для розных класаў. Пазней, пасля пераезду ў Амерыку ў канцы 50-х гадоў ён працягвае гэту дзейнасць і друкуе ў адноўленым ім выдавецтве «Заранка» яшчэ больш за дзесяць кніжак і брашур. Зараз па яго падручніках і дапаможніках вучацца беларусы ў многіх краінах свету. На радзіме братоў Гладкіх, у вёсцы Міхалкавічы, мяркуецца стварыць намаганнямі землякоў невялічкі музей.


**Уладзімір ПАЛУПАНАЎ,**
**дырэктар Кораньскага Дома культуры.**

**Многія, відаць, заўважылі, што шмат што ў адраджэнстве прыелася, стала гучаць рытарычна, дэкларатыўна. Здаецца, што і ў выступленнях розных дзеячаў загучалі паўторы: новага развіцця адраджэнская ідэя не атрымоўвае. Гэты феномен «бегу на месцы» назіраецца з вясны гэтага года; складваецца ўражанне, што якісь аспект адраджэнскага руху замоўчваецца, не ўлічваецца.**

**Зараз, калі ў адраджэнстве мы выйшлі на дылему «аматарства — прафесіяналізм», гэты замоўчаны аспект, відаць, высоўваецца: не хапала, скажам так, «сухой» этналогіі — паза эмацыянальнага і па-над палітычнага даследу нашага шляху, метады «рацыё». Калі аналізаваць пошукі апошніх гадоў, дык можна падумаць, што такой навукі ці галіны даследу ўвогуле не існуе: такое ўражанне ад прэсы. Але гэта не зусім так. Возьмем хаця б выданне энцыклапедыі «Этнаграфія Беларусі», у якой нацыё-тэорыя пададзена значна адрозна ад марксісцкіх схемаў. Па гэтым можна меркаваць, што ў этналогіі адбываліся пошукі, рух думкі.**

**Сустрэча з этнолагам, аўтарам шматлікіх артыкулаў у «Этнаграфіі Беларусі», кандыдатам гістарычных навук Паўлам ЦЕРАШКОВІЧАМ пацвердзіла такое меркаванне.**

Вядучы гутаркі Юрась ЗАЛОСКА.

**ПУЦЯВІНЫ АДРАДЖЭННЯ**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў КАНТЭКСЦЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ТЭОРЫІ ЭТНАСУ



**АЎТА-ДАВЕДКА: Церашковіч Павел Усеваладавіч. Закончыў гістарычны факультэт БДУ і аспірантуру ІМЭФ АН Беларусі. Працаваў старшым навуковым супрацоўнікам у ІМЭФ, зараз — дацэнт кафедры археалогіі, этнаграфіі і дапаможных дысцыплін БДУ. Аўтар дзвюх кніг па міжнацыянальных адносінах: «Грамадскі рух у Беларусі 1986—1991 гг.» і «Беларуска-польскія культурныя сувязі». Кнігі і шмат артыкулаў П. Церашковіча надрукаваны не ў Мінску, а ў Маскве, і там яго ведаюць як творчага даследчыка нацыянальных працэсаў. Менавіта П. Церашковіч прадстаўляў рэспубліку на Канферэнцыі па чалавечым вымярэнні ў Маскве ў верасні г.г., праўда... па прыватным запрашэнні.**

**Пасля канферэнцыі П. Церашковіч пакінуў працу ў ІМЭФ, бо кіраўніцтва гэтай установы не спрыяла разняволенасці даследаванняў. Погляды П. Церашковіча і вызначаліся свежасцю думкі; ён прыхільнік адмысловай інфармацыйнай тэорыі этнасу.**

**— Павел, на навуковай канферэнцыі ў Гродне па культуры Вялікага княства Літоўскага ў кастрычніку 1991 г. пільную ўвагу ўдзельнікаў прыцягнуў ваш даклад аб гісторыі Беларусі ў кантэксце інфармацыйнай тэорыі этнасу,— тэорыі маладомай і таму нязвыклай для айчыннага вуха. У чым яна заключаецца?**

— Зараз так сталася, што знікла ці знікае марксісцкая тэорыя, яе не ўжываюць. Але ўсё роўна надыходзіць манаполія нейкай іншай тэорыі. Цяпер многія лічаць абсалютам тэорыю Л. Гумілёва... Мне здаецца, што гэта чарговы прыклад духоўнага таталітарызму...

Існуе шмат тэорый, якімі нельга грэбаваць. Я, напрыклад, пад час вучобы ў аспірантуры доўгі час не мог пазбавіцца гіпнозу марксісцкай тэорыі нацыі. Восем гадоў шукаў сваю тэорыю, прыдатную дзеля даследавання этнасу і ягонай гісторыі. Марксізм ну ніяк не спрыяў нармалёваму аналізу, і думка стагнала ад няздольнасці развівацца; я адчуваў, што марксізм не ёсць метадалагічная тэорыя, а—ідэалагічная, і шукаў праўдзівую тэорыю.

Адштурхнуўся ад адной з найбольш фундаментальных ідэй у гісторыі сусветнай сацыялагічнай думкі (ад А. Конта і Э. Дзюркгейма да Д. Бэла і У. Растоу)—аб адрозненнях паміж «традыцыйнымі» (ці — прымітыўнымі) і «сучаснымі» (індустрыяльнымі, ці—дынамічнымі) грамадствамі. Галоўнае адрозненне — наяўнасць у апошнім таварна-грашовых зносін, але не толькі гэта. Менавіта ў дынамічным грамадстве этнас становіцца нацыяй. Што для гэтага патрэбна? Патрэбен камунікатыўны механізм перадачы міжпакаленнай інфармацыі, альбо—інстытут этнізацыі. Аснову яго складае тыражаванне тэкстаў праз сродкі масавай інфармацыі, сістэма народнай адукацыі і прафесійная мастацкая культура, уздзеянне якіх адначасова ахоплівае ўвесь сацыяльна-этнічны арганізм. Таму этнічную гісторыю чалавецтва і кожнага этнасу можна прадставіць як працэс павелічэння інфармацыйных плыняў у грамадстве, прычым у традыцыйным грамадстве этнізацыя адбываецца ў межах сям'і-абшчыны і аснову яе складае фальклор, а ў індустрыяльным грамадстве пачынае дзейнічаць **грамадскі** інстытут этнізацыі, без якога нацыя не можа ўзнікнуць. Ніводзін чалавек не нараджаецца адразу рускім ці беларусам — мы становімся сябрамі пэўнай нацыянальнай супольнасці ў працэсе нацыянальнага выхавання — праз асвету, мастацкую культуру і СМІ. Гэта тры элементы, якія выпрацоўваюць агульнаэтнічную самасвядомасць, захоўваюць і канцэнтруюць яе. Калі гэтыя тры элементы дзейнічаюць, этнас пачынае кансалідавацца ў нацыю.

Вось з пункту гледжання гэтай «інфармацыйнай» тэорыі этнасу я й паспрабаваў аналізаваць развіццё беларусаў у XIX ст., затым выкарыстаў яе для аналізу сучаснага становішча...

**— Якімі былі высновы?**

— Высновы казалі аб катастрафічным стане беларускай нацыі. Цяпер неяк засмела гучыць апакаліпсічная танальнасць у прамовах, без асаблівай дакладнасці выказаў. Зашмат нацыянальнай патэтыкі, мала—аналітыкі.

Дык чаму не паглядзець на адраджэнскі рух, ягоную гісторыю з пункту гледжання інфармацыйнай тэорыі этнасу? Тады, дарэчы, можна будзе, на маю думку, рацыянальна зразумець маруднасць сучасных пераўтварэнняў, пасіўнасць людзей, фатальную непаразумеласць паміж ідэолагамі Адраджэння і паспалітасцю.

Возьмем перыяд 10—20-х гг. XX ст. Гэты перыяд увогуле можна вызначыць як найвышэйшы і фенаменальны ў гісторыі этнасу ўздым. Найбольшым яго дасягненнем з'яўляецца, на мой погляд, зусім не абвяшчэнне незалежнасці, а стварэнне, няхай усяго на некалькі год, мо й недасканалай, мо й непаслядоўнай, няхай і моцна саветызаванай, але ж **рэальна** дзеючай мадэлі нацыянальнага камунікатыўнага механізма, які ў перыяд беларусізацыі 20-х гг. ахапіў усё грамадства. За 3—4 гады фактычнай беларусізацыі мы зрабілі столькі, колькі іншыя народы дасягалі стагоддзямі. У 1930—31 гг. 88 працэнтаў школ мелі беларускую мову навучання, каля 90 працэнтаў літаратуры, якая выпускалася, было беларускай. Калі гіпатэтычна дапусціць магчымасць далейшага функцыянавання нацыянальнай адукацыі і друку нават на гэтым узроўні, працэс нацыянальнай кансалідацыі мусіў быць завершаны на працягу 1,5—2 дзесяцігоддзяў. Аднак усталяванне звыштаталітарнага сталінскага рэжыму спыніла яго развіццё...

**Трагедыя 30-х гг. была толькі прэлюдыяй да глабальнага разбурэння ўсёй этнічнай сістэмы ў 60-ых—пачатку 80-х гадоў. Ужо ў першыя пасляваенныя дзесяцігоддзі гарадская рускамоўная дээтнізаваная культура атрымала больш высокі сацыяльны статус у параўнанні з беларускай. Мігранты з вёскі хутка гублялі сваю мову і культуру... Да сярэдзіны 80-х гг. практычна ўсе элементы сістэмы нацыянальна-культурнага аднаўлення беларускага народа былі моцна дэфармаваны або цалкам разбураны. Не захавалася НІВОДНАГА грамадскага інстытута, арыентаванага на фарміраванне нацыянальнай свядомасці. У гарадах не засталося ніводнай беларускай школы, а ў сельскай мясцовасці большая частка школ засталася беларускай толькі намінальна. Шырока распаўсюдзілася практыка вызвалення дзяцей ад вывучэння мовы і выкладання літаратуры на... рускай мове. Комплекс прадметаў, якія непасрэдна ўплываюць на фарміраванне нацыё-свядомасці, быў пацісnуты на другі план.**

**Дээтнізацыя ўсёй сістэмы адукацыі спалучалася з мэтанакіраваным разбурэннем архітэктурных помнікаў, гістарычнай забудовы, вынішчэннем народнай абраднасці. Такім чынам усё вонкавае асяроддзе траціла этнічную своеасаблівасць.**

Выхаванне нацыянальнай свядомасці ў гэтых абставінах ператварылася ў асабістую справу, якой можна было займацца толькі ў сям'і. Такім чынам знік найважнейшы грамадскі інстытут забеспячэння сябетоеснасці народа. Таму дэградавала і нацыянальная свядомасць, і мова, якая не толькі страціла свае сацыяльныя функцыі, але ў гарадах выйшла з хатняга ўжытку. Па апытаннях, зараз мовай карыстаецца 1,5—2 працэнты гараджан. (Заўважу, што існуе сусветная шкала культурацыі, у якой прыкметай хваробы этнасу з'яўляецца знікненне мовы ўжо ў войску, сям'я ў гэтай шкале займае апошняе месца).

Відаць, менавіта так, рацыянальна, можна растлумачыць, чаму гэта беларуская літаратура ўсё імкнецца прабіцца да духоўнасці людзей і ніяк не можа прабіцца: яна не мае свайго спажыўца і таму ляжыць мёртвым грузам у крамах. Увогуле мастацкая культура ператварылася ў «замкнёную саму на сябе» сістэму, пазбаўленую сувязі з рэальнасцю і не маючай свайго спажыўца.

Такім чынам, за якія-небудзь 30—40 гадоў камуністычнаму рэжыму ўдалося зрабіць тое, чаго не здолелі дамагчыся польскія і расейскія асімілятары за некалькі стагоддзяў. І гэта быў крок туды, у «дасучаснае» грамадства. Дзе цяпер сістэма этнізацыі? Яе няма. Вось чым перш за ўсё абгрунтаваны песімізм многіх адраджэнцаў... Гісторыя не ведае пакуль што прыкладаў рэанімацыі этнасаў, даведзеных да такой ступені дэградацыі. І самае прыкрае, што працэсы дээтнізацыі не прыпынены, асноўныя структуры забеспячэння жыццядзейнасці этнасу не адноўлены, а гэта—перакрэслівае ўсе адраджэнскія вымогі. Бракуе менавіта этналагічнага досведу, каб узяцца за справу барзджэй.

**— Вы кажаце — фенаменальнае адраджэнне. Ці можна з пункту гледжання вашай тэорыі патлумачыць гэткую фенаменальнасць?**

— Натуральна. Я прымяніў інфармацыйную метадалогію замест марксісцкай тэорыі фармацый, якая схематызавала гістарычны працэс, не тлумачачы сэнсу падзей. Напрыклад, кніга Карнейчыка «Беларуская нацыя» (1969 г.). Звестак у ёй шмат, а сістэмы—няма.

Сваё ўяўленне этнічнай гісторыі беларусаў я будаваў каля васьмі гадоў. Мадэль этнагенезу нельга яшчэ назваць канцэпцыяй, бо не хапае пакуль што фактаў. Гэта хутчэй за ўсё логіка—інтуітыўнае прадчуванне. А пачалося ўсё з пытання: колькі гадоў беларусам, якое мне неяк задаў армянскі калега. Я адказаў: гадоў 800—900. Ён здзівіўся: а вось армянам 2,5 тысячы. Тады і падкралася сумненне: нешта ж павінна быць **раней.** Дык вось, калі нацыю стварае сацыяльная этнізацыя, дык чым тлумачыцца падабенства на данацыянальным узроўні? Лагічна дапусціць, што беларусы паходзяць з аднаго цэнтра і калісьці складалі **адзінае цэлае.**

**Возьмем мову. Фанетыка—самы кансерватыўны яе пласт, які НЕЛЬГА пазычыць. Фанетыка і ёсць сведчанне, што існавала адзіная протабеларуская супольнасць. Цяжка зразумець, якім чынам жыхары агромністай прасторы ад Беластока да Смаленска, ад Вільні да Палесся, пераважную большасць якіх (ці не ўсе 99 працэнтаў) складалі сялянеабшчыннікі, у 14 ці ў 15 ст. раптоўна кінулі размаўляць па-старажытнаруску і перайшлі на беларускую мову. Лагічна будзе дапусціць, што моўнае адзінства, зафіксаванае ў беларусаў напярэдадні ўтварэння літаратурнай мовы, існавала і раней і забяспечана ГЕНЕТЫЧНА, забяспечана існаваннем протабеларускай супольнасці. Калі яна магла ўзнікнуць? Вядома, што славяне прыйшлі на тэрыторыю сучаснай Беларусі прыкладна ў 8 ст. Але да пачатку эпохі вялікага перасялення славянская супольнасць уяўляла сабой адзіны моўна-культурны кантынуум, у якім дакладных межаў паміж трыма цэнтрамі дыферэнцыяцыі не існавала. Дэмаграфічны выбух ва ўмовах экстэнсіўнай гаспадаркі абумовіў неабходнасць масавых міграцый. Засваенне новых тэрыторый у сваю чаргу патрабавала моцнай вайсковай арганізацыі, згуртавання насельніцтва пад кіраўніцтвам аднаго аўтарытарнага лідэра. Менавіта ў гэты час—літаральна напярэдадні масавага засялення славянамі Усходняй Еўропы—у славянскай супольнасці ўтвараюцца тры перасяленчыя аб'яднанні з Кры/э/вам, Д/о/ры/у/гавітам і Радзімам на чале. І крывічы, і дрыгавічы, і радзімічы выйшлі з протабеларускай супольнасці.**

У розны час і рознымі шляхамі яны дасягнулі тэрыторыі Беларусі. Прывялі іх сюды тры лідэры—Крыў, Дрыгавіт і Радзім, якіх можна параўнаць з біблейскім Маісеем: гэта нашы першыя лідэры, якія прывялі беларусаў на сучасную тэрыторыю. Праўда, пасля падаўлення супраціўлення балцкага насельніцтва гэтыя аб'яднанні зноў распаліся на мноства закрытых абшчынных супольнасцей, у якіх захоўвалася этнічнае адзінства. Затым міграцкія аб'яднанні перасталі быць суб'ектамі гістарычнага працэсу. Гэта, аднак, не значыць, што крывічы, дрыгавічы і радзімічы былі асіміляваны ці аб'яднаны ў старажытнарускую народнасць.

І яшчэ адзін аргумент на карысць існавання протабеларускай супольнасці, інтуітыўны: вядомае падабенства культур беларускай і славацкай. Вельмі падобныя гістарычны лёс і сімволіка (бел-чырвона-белы колер і падвойны крыж і інш.).

З заканчэннем працэсу этнагенеза-рассялення пачаўся доўгі і цяжкі шлях кансалідацыі ў нацыю...

**— І гэты шлях супадае ці звязаны з усталяваннем прыкмет індустрыяльнага грамадства?**

— Менавіта так. Тут трэба падкрэсліць наступную карэляцыю: рынкавая эканоміка — нацыя—дэмакратыя; або—адсутнасць рынкавай эканомікі—адсутнасць нацыі — адсутнасць дэмакратыі. Апошняя карэляцыя ўласціва даіндустрыяльнаму ці традыцыйнаму грамадству.

Прыкметы індустрыяльнасці ўзнікаюць за некалькі тысячагоддзяў да ўсталявання сучаснага індустрыяльнага грамадства. Гэта найперш—гандаль, які пачынае дамінаваць у эканоміцы. Затым фармуецца адпаведная культура і палітычныя формы. Менавіта першы гандлёвы народ—фінікійцы—стварыў фанетычнае пісьмо (якое ляжыць у аснове таго пісьма, якім мы карыстаемся). Потым — росквіт антычнай культуры (якая вельмі нагадвае культуру нацыянальную), заснаванай на гандлі. Ці не вольных таваравытворцаў мела апірышчам грэцкая дэмакратыя?

Парадыгма гістарычнага развіцця Старажытнай Грэцыі цікавая: улада пераходзіць ад зямельнай арыстакратыі да дэмакратыі праз... тыранію, якая была заснавана на папулізме. (Гады два таму ў «Литературной газете» якраз з'явіліся артыкулы Міграняна, у якіх ён таксама пісаў пра пераход ад прымітыўнага грамадства да сучаснага праз дыктатуру ці аўтарытарызм. Тады яго моцна крытыкавалі, а прагноз жа застаецца ў сіле...)

**— Калі ж прыкметы індустрыяльнасці з'явіліся ў беларусаў?**

— Першым парасткам індустрыяльнасці можна лічыць Ефрасіннеўскі протарэнесанс у Полацку, бо ўся дзейнасць Ефрасінні накіравана на стварэнне асветы, да тыражавання ведаў, перапісвання кніг. **У Полацку мы назіраем неверагодную** да таго часу павагу да асобы творцы, якую знаходзім у Еўропе значна пазней. Мы ведаем імя майстра—ювеліра Лазара Богшы, якое ён паставіў на крыжы. Значыць, ён сябе ўсведамляў творцам і яго ўважалі за творцу. Такі ж рэнесансны прыклад — дойлід Іаан.

**— Як жа паўплывала Ефрасіннеўскае Адраджэнне на этнізацыю?**

— Непасрэднага ўздзеяння, хутчэй за ўсё, не было. Але мне здаецца, што культурная традыцыя, якая дала нам праз некалькі стагоддзяў Скарыну, — была закладзена раней. Мяне заўсёды ўражвала, што сын Рагнеды ўвайшоў у гісторыю як першы князь-кніжнік, калі большасць князёў не ведала граматы. Тады пачынаецца культурная традыцыя павагі да кнігі і ведаў, якую прадоўжылі Усяслаў, Ефрасіння... Скарына.

**Заўважым дзеля паўнаты, што Полацкі рэгіён адначасна вылучаецца і як цэнтр гандлю, а гэта ўжо асобая свядомасць.**

Другі парог — 16 ст., славуты беларускі рэнесанс. Тут мы знаходзім і кнігадрукаванне, і стварэнне асветы, якая выходзіць за рамкі саслоўнасці. Працягвае мяняцца свядомасць. І тое, што на Беларусі ўспрынялі такую інтэлектуальную рэлігію, як пратэстантызм, сведчыць пра «буржуазізацыю» свядомасці (успомнім М. Вэбера, ягоную тэорыю ўзнікнення пратэстанцкай этыкі). Дый у эканоміцы заўважаем парасткі індустрыялізацыі.

Усё гэта сведчыць пра дасягненне пэўнага ўзроўню кансалідаванасці, але гэта быў толькі пачатак працэсу. Вядома, што ў Заходняй Еўропе ён ахапіў некалькі стагоддзяў ад эпохі Рэнесанса да буржуазных рэвалюцый 18—19 ст. і паспяхова развіваўся толькі там, дзе былі створаны ўмовы дзеля яго паступовасці і непарушнасці. У 17 ст. Беларусь мела такую ж ступень развіцця, з якой пачалося ўтварэнне нацый французскай, італьянскай, нямецкай... Ну, мо было адставанне на паўстагоддзя, але **парадыгма** бы-

(Працяг на стар. 12).

## Анкета «ЛіМа»

1. На што, па-вашаму, абапірацца творцу, у прыватнасці, пісьменніку ва ўмовах «міжчасся», няўхільнага насоўвання рынку? Ці можна сёння пісаць, як раней, — як бы па інерцыі?
2. Як вы ставіцеся да спробаў стварэння беларускай масавай культуры, да жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць, спадабацца чытачам «любой цаной»?
3. Ці дапускаеце вы, зноў жа ўлічваючы «рыначныя» густы, свядомую эксплуатацыю той ці іншай «моднай» формы? Ці дапаможа нам арыентацыя на фармальны пошук і чужыя знаходкі ў вырашэнні моўных, чытацкіх і іншых праблем?

**Дзмітрый БУГАЁЎ**

# АБНАЎЛЕННЕ ЖЫЦЦЁВА НЕАБХОДНАЕ

1. Кожны пісьменнік, калі ён валодае больш-менш значным талентам, не толькі «ва ўмовах «міжчасся» і «няўхільнага насоўвання рынку», як сказана ў лімаўскай анкеце, а заўсёды, пры любым стане грамадства абапіраецца перш за ўсё на свой унутраны духоўны патэнцыял, які, вядома ж, уключае ў сябе і здольнасць чуць час, з той ці іншай мерай адэкватнасці ўлоўліваць стан навакольнага свету, яго сацыяльна-грамадскую тэмпературу, яго чалавечую адметнасць у кожны канкрэтны перыяд. Гэтая тэмпература ніколі, нават у знешне маларухомыя, застойныя гады не бывае пастаяннай. Яна заўсёды зменлівая, падатная на хістанні, якія пераходзяць на галоп у часы пераломныя. Вось чаму пісанне «як бы па інерцыі» ніколі і нікому не прыносіла вялікага поспеху, сапраўдных мастацкіх адкрыццяў. Але ў перыяды адносна ўстойлівыя, параўнальна спакойная адсутнасць унутранай дынамікі, істотных зрухаў у самім падыходзе пісьменніка да жыцця не кідаецца ў вочы. А таму ў такія часы можна без асаблівай рызыкі пісаць і па інерцыі, г. зн. у эстэтычным сэнсе таптацца на месцы, жыць за кошт эксплуатацыі ўжо дасягнутага.

Агаваруся, што ў гэтых разважаннях пра абавязковасць унутранай дынамікі, істотных зрухаў заўсёды, пры любым грамадскім надвор'і, я не маю на ўвазе пісьменніцкі стыль.

Такім чынам, пісьменніку і сёння застаецца адна старая, традыцыйна - вечная апора— уласны духоўны патэнцыял, які цяпер патрабуе рашучай актывізацыі, каб творца аказаўся здольным на мастакоўскае асэнсаванне і эстэтычнае асваенне вельмі складаных і надзвычай супярэчлівых у сваёй крутой пераменлівасці рэалій нашага часу. Задача неймаверна цяжкая. І можна меркаваць, што не толькі пасрэдным літаратарам, але і далёка не ўсім прызнаным, не пазбаўленым таленту пісьменнікам яна будзе пад сілу. А таму па інерцыі ў нас будуць пісаць яшчэ многія. Але карысці для літаратуры яны не прынясуць і нават на адносны, колькі-небудзь трывалы поспех разлічваць ужо не могуць.

2. Наконт «масавай культуры» магу сказаць адно. Яна існуе ва ўсіх цывілізаваных народаў. І яны ад гэтага не загінулі. Не загінем ад «масавай культуры» і мы (калі яна ў нас набудзе больш-менш значнае пашырэнне). Але пры адной абавязковай умове: калі паралельна, побач будзе існаваць і плённа развівацца культура сапраўдная, вялікая, тая, у якой на поўную моц будзе адлюстроўвацца ствaральны дух нацыі, шматгранна выяўляцца цярплівая душа шматпакутнага беларуса. Баюся, што без актыўнай дзяржаўнай і, вядома, усямернай грамадскай падтрымкі ўсяго лепшага ў нацыянальнай культуры не выжыць і ёй, не набыць рэальнай незалежнасці і самой Беларусі. Бо нам трэба яшчэ ў значнай меры ствараць, кажучы па-сучаснаму, нацыянальную, праўдзіва беларускую духоўную прастору. А гэта без паспяховага развіцця вялікай нацыянальнай культуры немагчыма. Роля літаратуры тут для нас галоўная, вызначальная, на яе пакуль што найбольшыя надзеі. І самая вялікая перашкода на гэтым вельмі нялёгкім шляху тварэння нацыянальнай духоўнасці зусім не «масавая культура», а недастатковая развітасць нацыянальнай свядомасці ў многіх грамадскіх пластах і групах. Прасякнутая ж беларускасцю «масавая культура», калі яе не выдаваць за апошняе слова мастацтва, за культуру вялікую, таксама па-свойму можа спрыяць стварэнню нацыянальнай духоўнай прасторы, нармальнай атмасферы нацыянальнай духоўнасці і ў гэтым сэнсе працаваць у тым жа кірунку, што і культура сапраўдная, г. зн. хоць часткова выконваць і ролю станоўчую ў нашых цяперашніх абставінах і ва ўмовах бліжэйшай, прадказальнай будучыні.

Што датычыць «жадання некаторых маладых літаратараў здабыць вядомасць «любой цаной», дык гэтая з'ява, здаецца, вечная ў плане генетычным, бо на такую хваробу людзі хварэлі яшчэ з часоў глыбокай старажытнасці. Але для кожнага канкрэтнага пакалення, у тым ліку і для цяперашніх маладых пісьменнікаў, яна, безумоўна, часовая, пераходная. У мяне няма ніякага сумнення, што самыя таленавітыя з сённяшніх маладых перахварэюць гэтай хваробай «будучых геніяў» без вялікіх страт і здолеюць сказаць сваё важкае слова ў літаратуры. Вопыт гісторыі ўсяго мастацтва пераканальна сведчыць, што з тых пачаткоўцаў, якія не бунтаваліся ў маладосці, не замахваліся на вялікае, не спыняючыся і перад рэзкім адмаўленнем папярэднікаў, звычайна не прэбуючы і прэтэнзіяй на вядомасць «любой цаной», рэдка выходзілі значныя творцы, здольныя да абнаўлення ранейшых эстэтычных канонаў. У цяперашніх жа маладых беларускіх пісьменнікаў шанцы на свой важкі ўклад у абнаўленне нашай літаратуры вельмі вялікія. І вось чаму.

Па-першае, кожнае пакаленне мае свой адметны, у нечым непаўторны жыццёвы вопыт, які з найбольшай адэкватнасцю выяўляюць у літаратуры яго прадстаўнікі, хаця часам і гаворыцца, што добры паэт «равеснік любому пакаленню» (А. Твардоўскі). За сённяшніх маладых таксама ніхто лепш не выкажа тое, што нясе іх пакаленне ў жыццё.

А па-другое, сама наша рэчаіснасць цяпер робіць такія крутыя і рэзкія віражы, так рашуча ламае ўсё, што з вялікай крывёю і нечуванымі трагедыямі ўсталёўвалася на працягу сямідзесяці з лішнім гадоў, што кардынальнае ўласна літаратурнае і агульнаэстэтычнае абнаўленне становіцца настойлівым, проста катэгарычным імператывам часу. Адгукнуцца на гэты імператыў, зрабіць новыя мастацкія адкрыцці больш шанцаў, разважаючы тэарэтычна, у пісьменнікаў маладых. Ім тут, як кажуць, і карты ў рукі. Хоць у прынцыпе не заказана гэта і пісьменнікам старэйшых пакаленняў. Але абнаўляцца ім будзе цяжэй. Таму, паўтару, небяспека інерцыі для іх намнога большая.

Зрэшты, тут ёсць адно вялікае «але». У літаратуры, мастацтве заўсёды рашае талент. І перавагі маладых рэальна стануць істотнымі, знойдуць практычнае ажыццяўленне толькі пры роўнавялікасці талентаў. А гэтая велічыня на пачатку творчасці паддаецца больш-менш дакладнаму вызначэнню асабліва цяжка. І таму сёння яшчэ ніяк нельга з усёй пэўнасцю сказаць, ці вылучаць цяперашнія маладыя са свайго асяроддзя новых Купалу і Коласа, Гаруна, Багдановіча і Гарэцкага або Геніюш, Мележа і Быкава, Брыля і Панчанку. Патэнцыяльныя ж магчымасці для гэтага, думаецца, ёсць, бо вялікія пераломныя часы звычайна нараджаюць і вялікія, нацыянальнага, а то і сусветнага маштабу таленты. Так што будзем спадзявацца на аптымальны варыянт.

3. Каб ён ажыццявіўся, патрэбныя, вядома, і самыя разнастайныя фармальныя пошукі. Яны сёння вельмі актуальныя яшчэ і таму, што мы на працягу цэлых дзесяцігоддзяў былі ў значнай меры адлучаны ад сусветнага мастацкага вопыту. Ды і нацыянальныя традыцыі ў нас развіваліся выбарачна, з пэўнымі абмежаваннямі. Арыентацыя ішла пераважна на стыль рэалістычна - бытавы ды яшчэ народна-песенны. Нават рамантызм часам разглядаўся з падазрэннем і ва ўсім яго супярэчлівым багацці яшчэ не працаваў на наш літаратурны працэс. А колькі мы адхрышчваліся ад так званага мадэрнізму, розных авангардысцкіх плыняў, з якім жахам яшчэ на маёй памяці мы вымаўлялі імёны Кафкі, Пруста і Джойса, бачачы ў іх творчасці страшэнную заразу!..

Сёння ўсе забароны ў гэтым кірунку, дзякуй Богу, адышлі ў нябыт. І натуральна, што пачаткоўцы з маладым азартам кінуліся пераймаць усё на свеце. Крайнасці тут відавочныя, бо пераймальнасць ужо спрабуюць узводзіць і ў прынцып. Але асабліва баяцца гэтага наўрад ці трэба. Бо ажыятажнасць, тое, што ў адной лімаўскай публікацыі называлася «агрэсіяй формы», з цягам часу пройдзе, а нейкі набытак ад спроб пакаштаваць на смак усё ў найбольш таленавітых застанецца. Значыць, нацыянальныя традыцыі будуць узбагачацца, станавіцца больш развітымі і разнастайнымі.

Вядома, сам па сабе фармальны пошук не можа быць вырашальным. Але для тых, каму ёсць што сказаць, ён дасць свабоду эстэтычнага дыхання, магчымасць найбольш поўнай рэалізацыі свайго патэнцыялу. А потым трэба мець на ўвазе, што літаратура ў нас усё больш павінна станавіцца мастацтвам, прыгожым пісьменствам, як казалі раней. Да нядаўняга ж часу яна ў нас заваёўвала аўтарытэт перш за ўсё тым, што ва ўмовах страшэннага ціску таталітарнай дзяржавы ў яе лепшых узорах прарываўся жывы голас праўды, зусім задушаны ў іншых сферах публічнасці. Уласна эстэтычныя праблемы, мастакоўская вытанчанасць і іншае ў гэтых умовах прытушоўваліся, адступалі на другі план, трацілі сваю вызначальную ролю.

Цяпер становішча змяняецца і будзе ў далейшым перайначвацца карэнным чынам, бо сёння ўжо не трэба траціць высіл-

# «У ЗГУБЛЕНЫХ СНАХ»

Прачытаўшы ў вераснёўскім часопісе «Беларусь» дасціпны артыкул Уладзіміра Конана «Слова пра літаратурную Белую Вежу», хачу дадаць тоесёе пра аднаго з яго «другарадных» герояў. Дакладней, пра паэтку Надзею Артымовіч і пра яе паэтычны зборнік «Сезон у белых пейзажах». Пра гэтую своеасаблівую беларуска-польскую з'яву ў літаратуры сказана мімаходзь у нейкіх дзесяці радках. Аднак нешматслоўе аўтара апраўданае, пра што ён шчыра і зазначае: «Новая плынь «вершаказаў» занадта складаная і неадназначная з'ява, каб даваць ёй ацэнку ў гэтых нататках».

Сапраўды, творчасць Артымовіч патрабуе асобнай гаворкі. Але адразу скажу, што і я не збіраюся даваць творчасці паэткі пэўную і катэгарычную ацэнку. Ды і зарана, думаю, гэта рабіць.

Проста, хачу пагаварыць пра напісанае ёю як бы ўскосна ад напісанага. Наўзбоч. Наводдаль...

Жыццё павярнулася так, што летам надарылася пазнаёміцца з самой паэткай, а пасля ўжо прачытаць яе кніжку. Рэдкаснае спалучэнне — адзін да аднаго. Магчыма, толькі адзін адно дапаўняюць: паэтка — вершы, а вершы — паэтку. Для большай перакананасці прывяду агульнапрызнанае: Разанаў — чалавек — творчасць — жыццё. І ў першым і ў другім выпадку ўсё зведзена да гармоніі.

Артымовіч — не маладзёна ў жыцці, і ў паэзіі. Праўда, піша вельмі рэдка і мала. Гасцявала яна ў «Іслачы» і колькі дзён у мяне якраз тады, калі наш Вярхоўны Савет прыняў пастанову аб поўнай незалежнасці Беларусі. У нас на гэты конт не было асаблівага аптымізму, таму мы па вечарах гаманілі пра незалежнасць паэтычную. Пра незалежнасць і асабовасць слова, думкі, пачуццяў, аўтарскай пазіцыі...

Артымовіч без захаплення паставілася да многіх маіх вершаў. І, паверце, упершыню для мяне было гэта не крыўдліва і зразумела. Як зразумела і тое, што некаторыя яе вершы мяне ўразілі.

**чалавек ішоў па разрыраным**
**вуголлі**
**і вельмі хацеў расказаць**
**гісторыю аднаго шэрага**
**жыцця**
**жыцця, якое нарадзілася**
**на скрыжаванні дарог**
**чалавек ішоў побач мяне**
**і час ад часу здзіўлена**
**паўтараў: дзе мой час!**
**а рэха шаптала:**
**у згубленых снах...**

У «свабодных» вершах паэткі («вершаказамі», я іх не назваў бы) па сутнасці нічога істотнага не адбываецца. Паэтычная слоўная тканіна верша жыве, як здаровы чалавечы арганізм: пульсуе кроў, зачынаецца думка, зацяпляецца пачуццё...

Я ўяўляю, як цяжка было б чытаць гэтую кніжку нашым крытыкам-сацрэалістам, бо ў ёй няма ні будзённай канкрэтыкі, ні святочнай узнёсласці. «Няма жыцця»,— сказалі б, як адрэзалі, яны. «Ёсць чалавек»,— не менш катэгарычна скажу я. І няхай нешматлікі чытач гэтай кніжкі будзе нашым трацейскім суддзёй. Але найперш не праміну працытаваць адно аўтарскае «паказанне».

**паэты паміраюць тады**
**калі першы раз**
**заблудзіць жывое слова**
**і разаб'ецца пшанічнае рэха**
**аб камень**
**паэты паміраюць тады**
**калі ўсміхаецца добры час**
**для паперы**
**паэты паміраюць тады**
**калі знойдзены дакладныя**
**адрасы**
**сытыя жэсты**

Гэтая невялічкая, проста, але прыгожа аздобленая кніжачка наскрозь сшыта «белымі» словамі, як белымі ніткамі. І крой яе вершаў амаль нябачны і, часцей за ўсё, па апошняй еўрапейскай модзе — элегантны. Нішто не абцяжарвае чытацкае вока, хіба толькі там-сям на суровых жыццёвых звязках вытыркаецца вузельчык кроўнай памяці...

**і з выбеленай фігуры**
**выбяжыць раптам чырвонае**
**слова**
**як сэрца**
**як маці**

А ўвогуле такую паэзію немагчыма каменціраваць. Яе трэба чытаць — як візуальна, так і абапіраючыся на ўласныя асацыяцыі. Я пракручваў у галаве ўсе сучасныя паэтычныя формы і стылі... Аказалася, што экзістэнцыялізм — надта шырокае літаратурнае поле. Прыпомніліся і некаторыя нашы імёны: Наўроцкі, Разанаў, Сыс, Мінкін... Што ж, у кожнага адметнага паэта — свой самабытны стыль, які і выліваецца ў разнастайныя вершаваныя формы. Бо паэзія ад пошуку не губляе, а, безумоўна, узбагачаецца.

Ёсць свае набыткі ў гэтым плане і ў Надзеі Артымовіч. Толькі б, як кажуць, не зацыкліцца на адной ноце, на адным прыёме. А перспектывы для такой пагрозы відавочныя.

Адчуваецца, што ў вершах Артымовіч многа недасказанага (недагаворанага, недапісанага?), абарванага на ўзлёце думкі, да канца не ўзгодненага з душой і мовай. Думаю, гэта не столькі ад вымагання стылю і формы, але і ад абмежаванасці беларускага слова, ад яго недастатковасці і малакроўнасці (а ў канкрэтным выпадку, патрапляючы ў аўтарскі кантэкст, — белакроўя).

**і між іншым ты сам выракся**
**бацькоў сярэдняга часу**
**— — — дык пішы пра сваю**
**віну**
**і не думай**
**што выратуе цябе сон**
**нясонны**
**канец — без дасканалага**
**акторства**

Няхай мяне прабачыць шаноўная спадарыня Артымовіч, але напрошваецца ў дадзеным выпадку каламбурнае пытанне: без дасканалага акторства ці без дасканалага майстэрства?

І я не буду тут рабіць прыхаваную, падсвядомую скідку на аддаленасць аўтара ад нашага шырокага літаратурнага і моўнага асяроддзя, на вымушанасць тварэння па-за Айчынай, як гэта робіць У. Конан, бо ў некаторых творах, пра якія ён са зразумелай удзячнасцю піша, адчуваецца і прыўнесеная штучнасць, і беларускамоўная ненатуральнасць, а то і проста прымітыўнасць.

Гэта лагічная хвароба ўсякай літаратуры, якая ствараецца за мяжой сваёй нацыі (у дачыненні да Беласточчыны — вымушана) і намагаецца стаць усеаб'емным увасабленнем гэ-

Надзея Артымовіч, «Сезон у белых пейзажах», Беласток, 1990 г.

кі, каб праз адпаведна арыентаваны мастацкі вобраз выказаць тое, што можа ўзяць на сябе адкрытае, не скаванае ніякімі афіцыёзнымі абмежаваннямі, у прынцыпе немастацкае слова — слова звычайнага публіцыста, гісторыка, юрыста, любога грамадскага дзеяча і навукоўца. Літаратура ж сваю грамадскую значнасць усё больш, думаецца, будзе набываць на грунце эстэтычным. А гэта ставіць новыя акцэнты ў пісьменніцкай працы і азначае непазбежнае ўзрастанне ролі фармальных пошукаў.

P. S. Ужо напісаўшы свае адказы, прачытаў у «Литературной газете» за 30 кастрычніка артыкул Д. Ліхачова «Абломкі Саюза могуць змесці і нашы духоўныя сувязі», у якім на бліжэйшую будучыню даецца такі прагноз: «Нам давядзецца перажыць перыяд некаторага «апрашчэння» літаратуры, узрасце значэнне такіх жанраў, як успаміны, дакументальныя сведчанні, свабодныя нататкі, каментарыі да падзей, вытанчанасць і рафінаванасць часова адыдуць на другі план. Зноў праявіцца пэўная «сарамлівасць» формы... Так заўсёды бывае ў перыяды, калі аказваецца неабходным асвойваць новыя жыццёвыя гарызонты, новы гістарычны вопыт».

Думка славутага акадэміка спачатку збянтэжыла сваёй як быццам поўнай несастыкоўкай з маімі разважаннямі. Аднак несастыкоўка тут адносная і нават больш уяўная, чым сапраўдная: Д. Ліхачоў гаворыць пра спрашчэнне літаратуры, аслабленне ўвагі да яе мастацкай формы ўсё ж як з'яву часовую. Цікавасць жа да ўспамінаў, дакументальных сведчанняў, розных нататак і г. д. выразна выяўляецца ўжо і сёння. Але гэта ўдзячнае поле дзейнасці пераважна для старэйшых пісьменнікаў. А ў маладых яшчэ залішне мала жыццёвага вопыту, каб засяроджвацца, скажам, на тых жа ўспамінах. А потым, для рускай літаратуры, ад вопыту якой у першую чаргу адштурхоўваецца Д. Ліхачоў, самыя разнастайныя стылёвыя пошукі, цяга да дасканала-вытанчанай формы не маюць цяпер і не будуць мець у бліжэйшым будучым такога значэння, як у літаратуры нашай. Бо ў рускіх многае з таго, што ў фармальным плане нам трэба яшчэ адкрываць і адкрываць, ужо было.

---

тай нацыі. Другая справа, калі літаратура ствараецца на айчыннай мове па-за Айчынай, але ўвасабляе толькі магчымае, найперш — уласнае, а ў лепшым выпадку — агульначалавечае.

Надзея Артымовіч якраз належыць да апошніх, а таму, на маю думку, у яе больш літаратурных перспектыў, чым у першых.

Напрыканцы скажу, што ўсе вершы гэтага зборніка былі напісаны паэткай у студэнцкія гады і толькі некалькі апошніх пазначаны пачаткам васьмідзесятых гадоў. Усяго-наўсяго — трыццаць вершаў...

Нядаўна я атрымаў па пошце яшчэ адзін верш. Але мне здаецца, што і ён не для новай кніжкі, а, па-сірочы, усё яшчэ напрошваецца ў гэтую. А шкада, пара б пачынаць новую кніжку новым словам. Дарэчы, такая кніжка пазначана ў выдавецкіх планах «Мастацкай літаратуры». Але, як для мяне, то ці будзе яна па-сапраўднаму новай?

І ўсё ж на чарговую сустрэчу з Артымовіч надзеі не губляю.

**жывеш**
**а ў спарахнелых рамах**
**хтось піша вечны верш**
**і ўсё жыццё другое**
**ужо без эпілогу**

**Леанід ГАЛУБОВІЧ.**

---

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

# Чалавек светлай душы

## Сцяпану АЛЕКСАНДРОВІЧУ было б 70...

Не памятаю ўжо з якой нагоды ў канцы чэрвеня ці ў першыя дні ліпеня 1973 года апынуўся ў Магілёве. У памяшканні філалагічнага факультэта педінстытута гутарыў з выкладчыкамі кафедры беларускай літаратуры. Раптам міма нас шпаркім крокам з поўным партфелем прайшоў чалавек, твар якога звярнуў маю ўвагу не толькі сваёй заклапочанасцю, але і выразнымі ўсходнімі рысамі. Субяседнікі заўважылі маю міжвольную цікавасць:

— Сцяпан Хусейнавіч Александровіч... Ён у нас старшынёй дзяржаўных экзаменаў на беларускім аддзяленні. Пазнаёміць?..

Імя С. Александровіча мне было добра вядома па друку. Чытаў яго артыкулы ў газетах і часопісах, меў кнігі «Незабыўнымі сцежкамі» (1954), «Па слядах паэтычнай легенды» (1965), «Старонкі братняй дружбы» (1960) і «Гісторыя і сучаснасць» (1968). Склалася думка пра С. Александровіча як пра руплівага краязнаўцу, удумлівага даследчыка з шырокім дыяпазонам творчых інтарэсаў.

Быў знаёмы я і з аповесцю С. Александровіча пра Якуба Коласа «Ад роднае зямлі...» (1962), а перад гэтай паездкай у Магілёў перагарнуў апошнія старонкі другой яго кнігі аб народным пісьменніку «На шырокі прастор» (1972) і якраз працаваў над рэцэнзіяй для абласной газеты... Таму з удзячнасцю прыняў прапанову магілёўскіх выкладчыкаў асабіста пазнаёміцца з аўтарам.

Нечакана для мяне С. Александровіч адразу ж адрэагаваў на маё прозвішча.

— А, настаўнік з Бабруйска... Чытаў вашы артыкулы... Як гэта вам удаецца знайсці час на падрыхтоўку матэрыялаў для публікацыі? Дастаецца ж працы настаўнікам. Добра ведаю нялёгкі настаўніцкі хлеб...

З будынка філфака выходзілі разам. Сцяпан Хусейнавіч прыхільна адгукнуўся аб маім лімаўскім артыкуле «Моваю братэрства. Удасканальваць пераклады паэзіі Янкі Купалы на рускую мову». Гэта была першая пахвала, пачутая мною з вуснаў прафесійнага літаратуразнаўцы.

— Увогуле, — працягваў С. Александровіч, — паводле вашых выступленняў у друку напрошваецца вывад, што вам патрэбна сур'ёзна заняцца літаратуразнаўчай працай, а не пісаннем выпадковых рэцэнзій і водгукаў. Відаць, трэба падумаць пра далейшую вучобу, узяцца за падрыхтоўку кандыдацкай дысертацыі.

Калі ж даведаўся, што я нядаўна здаў на абмеркаванне рукапіс дысертацыі, то ўхваліў гэта. Параіў: «Трэба пераходзіць на сталую працу ў інстытут. Там знойдзецца больш часу для навуковых інтарэсаў, чым на настаўніцкай рабоце».

Сцяпан Хусейнавіч спяшаўся: яму неабходна было тэрмінова аформіць нейкія паперы ў канцылярыі педінстытута, атрымаць разлік за ўдзел у рабоце дзяржаўнай камісіі і паехаць дамоў. Пакнуліся знайсці таксі, каб хутчэй апынуцца ў галоўным корпусе, што на вуліцы Касманаўтаў. Але, як на грэх, ніводнай машыны не было. Сцяпан Хусейнавіч нервова паглядваў на гадзіннік, а потым махнуў рукой — маўляў, усё роўна ўжо нічога не зробіш:

— Спазніўся... Абед. Разбегліся, відаць, супрацоўнікі канцылярыі і бухгалтэрыі па сталоўках і магазінах... Калі маеш час і не пярэчыш, правядзі мяне...

Быў яркі сонечны дзень, але ў засені магілёўскіх дрэў, высаджаных побач з тратуарамі, не адчувалася летняй спёкі. Сцяпан Хусейнавіч распытваў мяне, дзе я вучыўся, працаваў, чым захапляюся, што чытаю. Я адказваў, хаця карцела даведацца больш пра самога пісьменніка, літаратараў, з якімі яму даводзілася сустракацца, але ніяк не асмельваўся звярнуцца з пытаннямі.

Паступова С. Александровіч разгаварыўся. Пачаў з таго, што падзяліўся ўражаннямі аб дзяржаўных экзаменах, успомніў шэраг смешных выказванняў студэнтаў, а потым паўсталі ў памяці факты з яго біяграфіі, з літаратурнага жыцця Мінска.

Мне цікава было слухаць Сцяпана Хусейнавіча. Упершыню пра справы беларускай літаратуры і крытыкі я чуў з вуснаў жывога чалавека, а не даведваўся з кніжных, часопісных ці газетных публікацый.

З цеплынёй С. Александровіч прыгадваў родны Капыль, меляўнічыя яго краявіды. У родных мясцінах яму даводзілася бачыць Ц. Гартнага, размаўляць з А. Гурло, чуць пра класіка яўрэйскай літаратуры М. Мойхер-Сфорыма, які таксама паходзіў з гэтага кутка беларускай зямлі. Калі Сцяпан Хусейнавіч даведаўся, што ў коле маёй зацікаўленасці творчасць Янкі Купалы, то параіў звярнуцца да спадчыны другога свайго земляка Л. Клейнбарта, у якой можна знайсці шмат невядомых фактаў, што датычацца жыцця і літаратурнай дзейнасці народнага песняра.

...Непрыкметна прабег час. Не заўважылі, як дайшлі да вуліцы Касманаўтаў.

Другая сустрэча адбылася ў тым жа годзе на пачатку восені. Была яна таксама нечаканая. Я ішоў па адной з мінскіх вуліц, аб нечым задумаўся, але раптам пачуў сваё імя. Якім жа было здзіўленне, калі ўбачыў у адкрытай дзверцы легкавіка Сцяпана Хусейнавіча:

— Вось еду з дачы, гляджу — па тратуары крочыць знаёмая постаць. Стаў зваць цябе, а ты ніяк не адгукаешся. Відаць, адолелі «думы молодого казака». Калі не спяшаешся, давай падскочым да мяне. Паглядзіш, як жыву.

Не паспеў і слова сказаць, як апынуўся ў машыне. Пад'ехалі да шматпавярховага дома на вуліцы Адоеўскага. Падняліся ў кватэру:

— Пасумуй тут трошкі адзін, пагартай кніжкі, часопісы, а я пакуль перанясу з машыны сёе-тое на кухню.

Я выклікаўся яму дапамагаць, але ён рашуча запярэчыў:

— Яшчэ падумаеш, што я спецыяльна «падабраў» цябе на вуліцы, каб ты мае дачныя пакункі пераносіў...

Праз некаторы час пасля мінскай сустрэчы ў «Магілёўскай праўдзе» з'явілася мая рэцэнзія на аповесць С. Александровіча «На шырокі прастор». Нумар газеты даслаў аўтару. Неўзабаве атрымаў ліст, хачу прывесці амаль цалкам, бо ён прыадчыняе аўтарскую лабараторыю, дапамагае зразумець уплыў абставін на напісанне твора, а значыць, паглыбіцца ў яго сутнасць:

«...Другую кнігу я пісаў (добрую палавіну яе) у Крыму, у санаторных умовах, калі вакол былі хворыя людзі, іншая прырода і ў самога не вельмі важнецкі настрой. Мне здаецца, гэта нават адбілася на танальнасці кнігі. Была і іншая яшчэ акалічнасць. У першай кнізе я быў менш звязаны рэальнымі фактамі біяграфіі: там быў большы прастор для домыслу і адбору нейкіх звестак, цікавых і займальных. У другой кнізе біяграфія паэта рэгламентавала мяне больш. А тут за крысо трымаў і памер: я не павінен быў выйсці з 10 друк(аваных) аркушаў. Таму ў фінале прыйшлося перайсці на беглы пераказ...»

Было ў маім жыцці яшчэ некалькі сустрэч з С. Александровічам. Большасць з іх адбывалася ў Мінску.

Не перапынялася наша перапіска, хаця пісаць даводзілася і не так часта, як хацелася. С. Александровіч не пакідаў цікавіцца маімі справамі. «Ці атрымаў ужо зацвярджэнне з ВАКа? Якія далейшыя планы?» — пытаўся ў адным лісце. У другім: «Якія ёсць намеры, планы і меркаванні?»

Радаваўся і хваляваўся за мой лёс, калі я перайшоў на працу са школы ў Брэсцкі педінстытут: «Як жыццё ідзе ў Брэсце? Як прыжыўся там? Якія віды на кватэру?.. Што чытаеш, якія прадметы?» Падтрымліваў: «Калі што не так, то нічога, памалу прытрэцца».

Аб сваім жыцці, задумах і здзяйсненнях паведамляў скупа. Коратка дзяліўся творчымі планамі, выказваў пастаянную незадаволенасць зробленым: «У мяне навін асаблівых няма. Многа працы, многа розных клопатаў жыццёвых, таму асаблівага разгону няма. А тут яшчэ хваробы дакучаюць. Нядаўна выйшла кніга «Вальнадумца з-пад Нясвіжа». У скорым часе вышлю»; «1977 год прайшоў без смаку і без знаку. Здаў у выдавецтва БДУ толькі кнігу «Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст. Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў» (у сааўтарстве з дачкою); «Падрыхтаваў кнігу выбранага Каруся Каганца».

Апошнюю звестку ад Сцяпана Хусейнавіча атрымаў у жніўні 1985 года. Гэта была бандэроль з яго кнігай «Тут зямля такая» (другое выданне). Да глыбіні душы крануў аўтарскі надпіс: «Дарагому Цімафею Барысавічу Ліякумовічу з надзеяю, што прыйдзе час, калі атрымаю і ад яго кнігу. З прывітаннем Сц. Александровіч. 7.VIII.1985». На жаль, выканаць пажаданне добразычлівага старэйшага таварыша мне не давялося: мая кніга ўбачыла свет, калі Сцяпана Хусейнавіча не было ўжо сярод жывых.

...На адной з кніжных паліц маёй бібліятэкі значнае месца займаюць творы вядомага літаратуразнаўцы. У іх шмат фактычнага матэрыялу, які вучоны першым увёў у літаратурны ўжытак. А ў полі яго зроку былі Ф. Скарына, П. Багрым, Ф. Багушэвіч, М. Багдановіч, Я. Купала, Я. Колас, Ц. Гартны, К. Чорны, М. Танк і іншыя пісьменнікі, творы якіх з'яўляюцца гонарам беларускай літаратуры!

Кнігі нагадваюць пра няўрымслівага навукоўца, улюбёнага ў беларускае мастацкае слова даследчыка, чалавека светлай душы. Прызнаюся, што гэтыя кнігі не проста ўпрыгожваюць маю бібліятэку. Да іх часта даводзіцца звяртацца як да дапаможнікаў у вучэбным працэсе, як да надзейных крыніц у творчай працы.

**Цімох ЛІЯКУМОВІЧ.**

---

# ПАРТРЭТ БЕЗ РЭТУШЫ

**Прачытаў я неяк у «Маладосці» верш У. Паўлава пра Петруся Броўку і не стрываў, вырашыў адклікнуцца гэтым пісьмом. Адзін з цяперашніх кіраўнікоў нашага пісьменніцкага саюза шкадуе, што няма былога кіраўніка Петруся Усцінавіча Броўкі. Верш свой Паўлаў канчае катэгарычна: «Цяпер усім відаць: на Броўку маліцца доўга нам, сябры». Вядома, справа асабістая, каму на каго маліцца, хто каго выбірае сабе за куміра...**

**Міжволі ўспамінаюцца такія вядомыя мне факты.**

**Алесь Пальчэўскі ў сорак восьмым годзе вярнуўся са сталінскага лагера на радзіму. Аднойчы, прыехаўшы ў Мінск, ён аказаўся ў вельмі цяжкім матэрыяльным становішчы, не меў нават рубля на хлеб. Не было за што купіць і білет да Рудзенска, дзе тады жыў. На вуліцы Алесь Восіпавіч нечакана сустрэў Броўку. Узрадаваўся: некалі ж у маладосці сябравалі, вучыліся разам. Ён расказаў яму пра сябе, адважыўся папрасіць колькі рублёў. Думаеце, даў? Не, Пётр Усцінавіч як адсек: «Грошай з сабой не нашу, яны ўсе ў жонкі». І пайшоў, не азірнуўшыся.**

**Пальчэўскі расказваў, што потым, праз шмат гадоў, Броўка яму прызнаўся: грошы ў яго былі, але ён пабаяўся даць. Баяўся, што за дапамогу былому зэку-контрыку магла быць непрыемнасць.**

**Гэтая яго асцярожнасць і боязь нашкодзіць сабе ў яго замацавалася так, што стала адной з галоўных рыс характару. Помнім жа яго знакамітую тактыку кіравання Саюзам пісьменнікаў: «Абы ціха, абы ціха...»**

**А вось другі прыклад.**

**У красавіку сорак першага скончыўся мой тэрмін зняволення. Паэт Сяргей Дарожны, з якім я знаходзіўся ў адным лагпункце ў Камсамольску-на-Амуры, папрасіў мяне, калі траплю ў Мінск, перадаць Броўку пісьмо. Дарожнаму заставалася быць у лагеры яшчэ больш за тры гады. Пісьмо было вельмі асцярожнае, з разлікам, што я ўсё раскажу. С. Дарожны нічога не прасіў, проста хацеў падаць пра сябе былому сябру вестачку, пісаў, што віны яго няма, нічога кепскага для народа ён не зрабіў. І прывёў з нейкага верша Маякоўскага такія словы: «І калі табе скажуць, што леў я, не вер ты».**

**Чаму Дарожны напісаў іменна Броўку? А таму, што лічыў яго з тых, каго не зачапіў рэпрэсіўны невад трыццаць сёмага, самым блізкім сябрам маладосці. «Ён чалавек кампанейскі, — тлумачыў мне Дарожны, — цябе і на чарку запросіць».**

**У Беларусь мяне, аднак, не пусцілі, дазволілі жыць у Астраханскай вобласці, і я змог убачыць Броўку толькі ў пяцьдзесят другім годзе, калі Дарожнага ўжо дзесяць гадоў як не было ў жывых. Прыехаў я тады ў Мінск з арміі ў водпуск. Мой зямляк-паэт прывёў мяне ў Саюз пісьменнікаў і пазнаёміў з Броўкам. Пётр Усцінавіч быў са мной гаваркі і вясёлы. Але вось я сказаў яму пра Дарожнага, дастаў з кішэні яго пісьмо. Броўка раптам падхапіўся з-за стала, замітусіўся, схапіў плашч. «Прабачце, я забыў, што мне трэба на адну нараду». — «Дык пісьмо вазьміце», — сказаў я. «Некалі, іншым разам». І пайшоў з кабінета.**

**Ужо ў сямідзесятых гадах у доме творчасці «Дубулты», дзе мы разам адпачывалі, я зноў загаварыў з ім і пра Дарожнага, і пра тое пісьмо. І Пётр Усцінавіч не ўхільнуў ад адказу. «Напужаная варона і вераб'я баіцца. Трэба было ўмець круціцца, браток. Умець асцерагацца». Так і сказаў — АСЦЕРАГАЦЦА.**

**Ён і асцерагаўся, бо хацеў быць на службовай вышыні. Броўка нават ганарыўся тым, што верна служыць сістэме, уладам, якія так шчодра абсыпалі яго сваімі дарамі. Гэту сістэму ён і праслаўляў, пісьменніцкім саюзам кіраваў так, як ёй, сістэме, хацелася. Вядома, у таталітарным рэжыме многія вымушаны былі страчваць адчуванне сваёй годнасці і жылі з сагнутай спіной перад уладу маючымі...**

**Час ужо шмат аздобы абтрос з партрэта Броўкі, адрэтушыраванага, размаляванага. Час паказаў сапраўдную цану творчасці паэта, яго асобы і грамадскай дзейнасці. Нешта, вядома, застанецца ў беларускай літаратуры з яго творчасці, і трэба ацэньваць яе без уліку тых высокіх прэмій, узнагарод, званняў, якімі яго шчодра надзялялі, — ацэньваць такой, якая яна ёсць у сапраўднасці.**

**Васіль ХОМЧАНКА.**

Сяргей ГРАХОЎСКІ



## Развітанне

На вальнадумцаў цыкалі з ЦК,
А іх перавыхоўвала ЧК,
Калі б чэкістам трапіў Пушкін,
Не адкруціўся б ад псіхушкі,
Бо ў Бенкендорфавых агентаў
Быў дысідэнтам з дысідэнтаў,
І забяспечылі б яму
Дармовы рэйс на Калыму.

За кожным словам партыя
сачыла
І нас ад роднай мовы
адвучыла,
І на крыві, і на касцях
Высока узняла чырвоны сцяг.
Няма ЦК, а сонца узыходзіць,
Няма ЦК, а ў полі жыта
родзіць,
Няма ЦК, а жаўрукі пяюць,
І нешта па талонах выдаюць.
Змяняюцца заходы і світанні,
Ідзе за летам лютая зіма,
Адказаў толькі на пытанні
Як не было, так і няма.
Нам партыя паказвала дарогу,
За перамогай абяцала
перамогу,
А сёння бачна і бальшавіку,
Што ўсё ў камуністычным
тупіку.

Што ж партыя усе гады
рабіла!
Хлусіла ўсім, і самых лепшых
біла,
Даводзіла імклівa да галечы
Знявечаных у вечнай барацьбе,
Нам абяцала «фактар
чалавечы»,
А ўзводзіла палацы для сябе,
Цытатамі нам вочы засляпіла,
На кожнага накінула сіло,
Лічылі, што яна над сілай —
сіла,
А знікла, і нібыта не было.
Няма ЦК, а сонца узыходзіць,
Зваліўся груз з намуленых
плячэй.
Не ведаю, што новы дзень
народзіць,
А покуль што мы дыхаем
лягчэй.
Звычайна радуюцца пры
спатканні,
А нас парадавала ўрэшце
развітанне.

## Надзённае

Мітынгуем, бастуем, у чэргах
стаім,
Крычым да дзесятага поту,
І ў гэтым запале забылі зусім
Пра нашу святую работу.

А хто ж нас накорміць,
хто нас апране!
Ці выжывуць дзеці і ўнукі!
Патрэбны свабоднай маёй
старане
Заўжды працавітыя рукі,

Патрэбны аратыя і кавалі,
А не «змагары» і «героі»,
Каб славу народа высока
ўзнялі,
І толькі не краталі зброі.

## Манументы

Бронзу, мармур і бетон,
Граніт і марачны цэмент
Транжырылі па сотні тон
На кожны новы манумент.

Яго стаўлялі талакой
Амаль на ўсёй планеце,
Заўжды з працягнутай рукой
Па даўнім трафарэце.

Казалі: «Ён народ узняў
З каленяў на змаганне»,
Ды раптам сёння паліняў
І просіць падаяння.

Ён доўга планаваў прыгон
Жабрацкаму Саюзу...
Трашчаць і бронза, і бетон,
І многа будзе друзу.

## Абаронцам міру

Змагары за мір у свеце
Быццам і не заўважалі,
Што ад куляў гінуць дзеці
У Сумгаіце і ў Цхінвалі,

Гінуць дзеці і бабулі,
І бацькі, і юнакі,
Льецца кроў, і свішчуць кулі,—
Трапна б'юць баевікі,

Замаўкаюць калыханкі,
І начамі ў страшны сон
Грукаюць тупыя танкі,
Завіхаецца АМОН.

Змагары за мір на свеце,
Дык усё ж чыя віна,
Што не дзесьці на планеце,
А у нас ідзе вайна!

Вы ж збіраеце узносы,
Мірна спіце да відна,
А у вас амаль пад носам
Кожны дзень ідзе вайна.

І урад спакойны, мусіць,
Што ліецца кроў у нас.
Толькі часам складна хлусіць
Пра «канфлікт» праграма
«Час».

Змагары за мір і згоду,
Каб спыніць крывавы вір,
Хоць уласнаму народу
Забяспечце ўрэшце мір.

## Жаданне

Шумяць асеннія сады
І мараць аб вясновым цудзе,

---

# НЕ Ў СІЛЕ БОГ, А Ў ПРАЎДЗЕ

Уладзімір Ліпскі

### З дзённіка

●

«Цяпер кожны пра сябе клапоціцца. Нядаўна іду па вакзале, бабка просіць у людзей паесці. Абарваная. Худая. Усе праходзяць міма. А я прыпынілася, дала ёй хлеба і пячэння. Што было ў мяне, тое і аддала, хаця яна ў мяне і не прасіла...».

Гэта з пісьма сіраты Аксаны Бузар.

Не даюць гэтыя радкі спакою. Дзяўчынка-сірата зразумела галодную бабку. А калі ж сытыя паспачуваюць сіротам і галодным?

●

Злодзей зламаў замок.

А ты?

Уламаўся ў сэрца дзяўчыны, абрабаваў яе дзявоцкасць, украў спакой, весялосць і знік. Як можаш хадзіць па зямлі непакараным?

А ты?

Уварваўся ў інстытут, пралайдачыў пяць гадоў. Цяпер крадзеш зарплату, рабуеш, нішчыш сумленных людзей. Згінь такі творца.

А ты?

Аблакаціўся на паліраваны стол, абставіўся тэлефонамі, не чуеш людзей, не разумееш іх. Ці маеш права ўламвацца ў іх душы, ганіць іх сваім невуцтвам?

А ты?

Украў у свайго (!) дзіцяці дзяцінства, усмешку, здароўе. Як можаш недзе і некім быць? Сыдзі, дабрадзей, на сухі лес.

А ты?

Сядзь і задумайся: ці не злодзей ты? У канцы дня стань дворнікам сваіх думак і паводзін. Нешта выграбі на сметнік, каб не замінала заўтра сустрэць узыход сонца. Загарні ў залатую фольгу памяці тое, што дапаможа заўтра жыць.

●

«Сярод дзяцей і моладзі доля аслабленых і схільных да хвароб хістаецца ад 53 да 70 працэнтаў, што сведчыць аб пагаршэнні генафонду насельніцтва». («Дружба народов», № 4, 1991 г.)

Вось такі наш «залаты запас».

У Швецыі ёсць закон, які абараняе правы дзяцей. У Нарвегіі створана міністэрства па праблемах дзяцей.

Зірніце, якія цацкі, адзенне, харчаванне робяць амерыканцы, японцы, немцы, італьянцы для сваіх дзетак.

Цывілізаваны свет укладвае сродкі ў «дзіцячую» эканоміку. Калі ж мы перастанем гнюсіць дзяцей і зневажаць саміх сябе? Калі ж у нас з'явяцца мудрыя палітыкі?

Агульначалавечая этыка: інтарэсы дзяцей — вышэй за ўсё, дзеці — перш за ўсё!

●

Амаль усе людзі няўдала выбіраюць прафесію. Працуюць абы-дзе, абы-кім. Не па здольнасцях, не па таленту, не па позве душы.

Мо таму нічога добрага і не могуць зрабіць? У тым ліку — гісторыю...

Мо таму і пакутуюць дзеці? Што могуць даць ім людзі, якія самі нічога не могуць?

●

Піша мне Аксана, маці-адзіночка:

«Дачушка Каця пачала хадзіць. Гаворыць: «мама», «тата», «баба».

Маці — круглая сірата. І дачка яе — сіротка. Ні таткі, ні бабкі. А, бачыш, дзіцятка вымаўляе гэтыя словы. Першыя жыццёвыя словы пра іх, няўдзячных.

Хай горка ікнецца бацьку-валацугу. Хай прысніцца трывожны сон яго маці, якая, можа, і не ведае, што стала бабкай. Пачуйце, вас кліча сіротка Каця!

●

Хрысціянства асвяціла на зямлі саюз сямейны. Цэнтральная асоба сямейства — Маці. Спраку-веку яе абавязак: даць жыццё дзіцяці, аберагчы яго здароўе, падтрымаць агонь у кастры, натхніць мужчыну на подзвіг.

А цяпер?

У рабочы дзень наша маці траціць на выхаванне дзяцей... чатырнаццаць хвілін. У выхадны — 25 хвілін. Затое гадзінамі асфальтуе дарогі, робіць цэмент, кіруе трактарам, упраўляе станком...

За апошнія пяць гадоў 1512 мацярок у нашых суверэнных дзяржавах забілі сваіх нованароджаных дзяцей.

Тысячы мацярок пазбаўлены бацькоўскіх правоў. У рэспубліцы Беларусь распадаецца звыш 30 тысяч сем'яў штогод. У нас налічваецца звыш 150 тысяч сем'яў алкаголікаў...

Людзі! Прыпынім «рэвалюцыйны» наступ на сям'ю, калі хочам застацца чалавекамі.

●

Крычыць:

— Служу народу!

А служыць толькі сабе. Бессаромна называе сябе «народным», а ў народ не ідзе. Не ведае яго і (страшна!) — не любіць яго.

Пабойся Бога, слуга народны!

●

Марым аб будучым. Зычым дзецям светлых дзён. Змагаемся, праліваючы кроў, за шчаслівую будучыню.

А будучае, светлае і зорнае, гэта — смерць.

Давайце прагнуць вечнага.

І жыць сёння так, каб ступіць хаця маленечкім крокам у вечнае. Як навучыцца такому? Што рабіць?

Мае высновы: не гандляваць душой, не здраджваць сумленню, не крыўдзіць дзяцей.

●

Учарашні дзень — сон.

Заўтрашні — мара.

Давай, дружа, сённяшні дзень пражывём так, каб ён стаў казачным сном і запомніўся на ўсё жыццё.

Пражывём так, каб займелі высокую мару, каб закарцела пераўвасобіць яе ў салодкую яву.

А інача як жа?

●

Вялікі той мысліцель, які навучыў людзей думаць.

А таварыш Сталін, «бацька наш любімы», думаў за нас усіх. Вось і крочылі бяздумна: аць-два — правай, аць-два — левай!

І даацькаліся да прорвы. Так бы і кінуліся ў бездань, каб не адчайныя галовы. Хвала ім і слава!

Вырастуць дзеці, зладзяць новыя помнікі новым героям. Толькі хай бы засталіся і старыя «ідалы». Для горкай праўды. Для напамінку. Для насмешкі.

●

На зямлі па вяленні Божым — усяго патроху, «всякой твари по паре».

У прыродзе вольна жывецца камарам куслівым, гадзюкам ядавітым, варонам ненажэрным, малпам бяздумным...

Крыўдна, такіх «тварэй» багата і сярод людзей — куслівых, ядавітых, ненажэрных, бяздумных. Мо таму, што чалавек не цар, а раб прыроды? Яна гуляе з ім, як дзікая кошка з мышкай.

●

Старыя людзі і старыя магілы.

Што агульнага?

І людзі, і магілы — паміраюць.

Людзі паміраюць — ім будуюць магілы. Там — плачуць.

Магілы паміраюць — на іх месцы будуюць дамы, паркі. Там — весяляцца.

●

Молімся: шматдзетныя сем'і — у галыцьбе, дапаможам ім!

Працягваем да дзяржавы жабрацкую руку. Чакаем ад яе, як з неба, божае манкі.

А вось новапалачане Сяргей Міхайлавіч і Таццяна Піліпаўна Баларчанкі, муж і жонка, бацькі чатырох дзяцей, зрабілі па-свойму: арганізавалі асацыяцыю шматдзетных сем'яў. Вакол іх ужо згуртаваліся 137 сем'яў горада.

Што робяць энтузіясты?

Абараняюць правы шматдзетных, змагаюцца за здароўе дзяцей, ратуюцца разам ад голаду, нішчымніцы.

Жыллёвая камісія асацыяцыі абследуе ўмовы жыцця вялікіх сем'яў і не дае драмаць гарадскім чыноўнікам. Камісія па працы шукае часовы занятак для шматдзетных мацярок. Рыхтуюцца адкрыць сваю майстэрню бытавога абслугоўвання. Гандлёвая камісія ў кантакце з магазінамі, збірае дарункі. Нафтаперапрацоўчы завод выдзеліў для іх 60 мяхоў цукру, дзіцячыя калготкі, шкарпэткі на 3500 рублёў, бялкова-вітамінны камбінат — 7 мяхоў рысу.

Асацыяцыя арганізавала бясплатную сямейную групу здароўя ў басейне. Разам выходзяць на гарадскія суботнікі.

Выратаванне тапельцаў — справа рук саміх тапельцаў. Што ж, гэта надзейна ва ўсе часы.

А мне б пражыць хоць два гады,
Каб паглядзець, што з намі будзе.

Я добра помню, што было,
Як у нябыт знікалі людзі,
І мару ворагам назло
Пажыць і паглядзець, што будзе.

Не дачакацца мне дабра
Ні ў святы, ні ў трывожны будзень,
Пакуль не скажа лёс: «Пара!» —
Я пагляджу, што з намі будзе.

Як прагна жыў, так і жыву,
Хоць млее сэрца, тлеюць грудзі,
Ды не схіляю галаву,
Каб паглядзець, што з намі будзе.

## «Шчасце»

Цярплівей нас няма на свеце,
Даверлівей за нас няма.
Мы ў казкі верылі, як дзеці,
І гнулі спіны задарма.

Усе нам абяцалі «шчасце»
На разняволенай зямлі»,
А прайдзісветы рознай масці
Жывуць шчасліва, як жылі,

Давалі медалі і стужкі,
Героем звалі ўвесь народ,
А мы зацягвалі папружкі,
Яны ж тлусцелі з году ў год.

Круцілі нас, ламалі, гнулі
І падвясельвалі часцей,
І вось раздзелі і разулі,
Пенсіянераў і дзяцей,

Каб пракарміць сваю араву
І чужаземных едакоў.
Мы ж і стагнаць не мелі права,
Маўчальнікі спакон вякоў.

Нахабных навучылі красці,
Дыхнуць сумленным не даюць.
Калі ж нас вызваляць ад «шчасця»,
Каб жыць, як людзі ўсе жывуць!

## Засцярога

Грому чуюцца раскаты
З патаемных стром і круч,
Гэта недзе партакраты
Разгайдаць спрабуюць путч.

Іх і здрады, і загады
Рэпетыцыяй былі,
А высокія пасады
Лёгкім прывідам сплылі.

Не адступяцца ніколі
Ад сваіх яны выгод,
Не дадуць ізноў патолі,
Асядлаўшы свой народ.

Працьвярэзьцеся нарэшце
І скажыце: «Не дамо,
Хоць саджайце, біце, рэжце,
Зашмаргнуць нас у ярмо».

Голас праўды, гнеў народны
Не зламаць і не скарыць.
Нават босы і галодны
Хоча праўду гаварыць.

Не для святаў і парадаў
Трэба сілы берагчы,
Каб за чорнай здрадай здраду
Назаўжды перамагчы.

## Цэны

На кожным кроку—цэны, цэны,
І ўсё растуць, растуць, растуць,
То з мыльнай, то з піўное пены,
Нібыта ў градусніку ртуць,

Паўзуць да найвышэйшай рысы,
Штодзённа двоячы нулі,
А барадаты, чорны, лысы
Мяхамі валакуць рублі.

Гандлююць ботамі, трусамі,
І языкамі без касцей,
Гандлююць нават галасамі,
Але сумленнем — найчасцей.

Адзін другога абдзіраюць
Да крыжыка і да кальсон,
Бо нам эканамісты раяць
Уводзіць «рыначны закон».

Я галашу на ўсе бакі:
«Ратуйце! Гвалт! Рабаў-ні-кі!»

## Светлы смутак

Скуголіць вецер па завуголлі,
У шыбы хвошча і хвошча дождж,
Датлела ў печы даўно вуголле,
А ты мой смутак не патрывож.

У хаце пуста. Слязіцца свечка,
Нікога побач даўно няма,
І толькі чутна, што недалечка
На раздарожжы звініць зіма.

Сняжынкі лягуць на першапутак,
Застынуць Нёман, і Пціч, і Сож,
А ты на змроку мой светлы смутак
Халодным словам не патрывож.

## Тэрцыны

Я часам чую з пекла галасы
Адчаю, болю, мукі і спагады.
Мяне, нібыта ў Дантавы часы,

Атручаныя вабяць вадаспады
У кіпень апраметнага агню,
І без ліслівае хлусні і здрады

Даходзяць галасы у вышыню
З глыбіняў неразгаданага пекла
Праз гул сусвету ў ночы цішыню,

Бо ведаюць, як нас пакута ссекла,
Таму гукаюць з «раю» ў вечны вір,
А я не ведаю, пакуль зусім не змеркла,

Дзе з пеклаў пекла, дзе спакой і мір.

---

●

У рэспубліцы ўсыноўлена 14404 сіраты. Добрыя людзі абагрэлі чужых дзяцей. Называюць іх сваімі, роднымі.

Госпадзі, дай гэтым святым зямлянам дабрыні і міласці, здароўя і грошай на іх доўгі век.

Дай, Божа, дзеткам усыноўленым шчасця. Каб хаця ўжо яны не спатыкаліся на жыццёвых пуцявінах.

А дзяржаўным «мужам», Божа, раскрый вушы, каб чулі дзіцячы плач, расплюшчы вочы, каб бачылі не толькі сваіх дзяцей, размарозь іх сэрцы.

●

Наведаў Святланку Халько ў нью-йоркскім шпіталі. Чацвёрты месяц лечыцца яна тут ад лейкеміі. Па просьбе Дзіцячага фонду яе ўладкавалі сюды нашы сябры пастар Пол Мор і яго жонка Шэран.

З цяжкім пачуццём пакідаў лякарню. Горка на душы: чаму нашы дзеці — чарнобыльцы, у чым прагнявілі Бога?

Мы вярталіся ў гатэль па шумнай авеню, у галаву пачалі стукацца трывожныя радкі:

Палысела беларусачка Святланка
У нью-йоркскім слынным шпіталі,
Мыецца слязамі яе мамка:
Навек чарнобыльцамі сталі...

Ці доўгі той век?
Хто адкажа, які Чалавек?

●

Аляксандр Неўскі: «Не ў сіле Бог, а ў Праўдзе».

А якую праўду ведаем пра Чарнобыль? Мізэрную. Можа, таму і сілы нашы кволыя.

Аб'явілася нямала змагароў, чарнобыльскіх Хрыстосікаў, кожны грабе нібыта да пакутных дзяцей, а ў той жа час і да свайго берага. Няма горшай агіды, чым хвальба ў часе чумы.

Давайма, хлопцы, працаваць, не пазіраючы на гадзіннік. Гарэць, як царкоўная свечка, ціха і да апошняй грамулькі. Тады і сілы прымножацца ў бойцы з чарнобыльскім джынам. Не забывайма: усё, што аддаў, тое — тваё.

●

Замежны госць шчыра дзівіўся:

— У вас на вуліцах амаль няма інвалідаў.

Чаму?

Ды таму, што яны прыкаваны да ложжаў. Няма для іх калясак, пратэзаў, простых кавенек. Няма і не робім.

Адна маці напісала мне: «Усе крэслы паламала, выносячы дачку на вуліцу. Памажыце купіць хоць якую каляску...»

Сорам несусветны! Калі адмыемся? Калі пачнём людзьмі звацца?

### Павел ПРУДНІКАЎ



●

Мы раслі на хлусні, на падманах,
Мы клявалі штодня на жыўца.
Нас кармілі асцём нечуваным
З нараджэння і да забыцця.

Рай зямны абяцалі нам «слугі»
Праз дзесяткі «напружаных гадоў»,
І мы верылі ў полі за плугам,
На заводах, у штольнях з рудой.

Мы марнелі ад голаду, стомы,
За калючкай, «на вольных хлябах».
Пазбаўляліся роднага дому.
Неба тундры было для нас — дах...

Час прыйшоў —
і адкрыліся вочы
У адвечных нязмоглых рабоў.
Шматгадовай нянавіснай ночы
Абвясцілі бязлітасны бой!

Нас падманамі больш не адолеш.
Не паедзеш на нашым гарбе!
Ды і ў пастку нічым не загоніш.
Ад пакут абаронім сябе.

●

Прыгадаў гады я маладыя,
Той далёкі, бестурботны час.
Захапляўся догмамі тады я
І пускаўся з ходу ў перапляс.

«Жыць вучыў» тады дзядзькоў і цётак,
А бабуль «ад Бога адвучаў».
Пазбягаў заўсёды толькі плётак
І «ура!» на сходах не крычаў.

Калі ж стаў да розуму даходзіць —
На жыццё па-іншаму глядзець,
Я «бывай» сказаў сваёй «свабодзе» —
Ноч навалай зацягнула дзень.

Бо такіх, хто сам быў здольны думаць,
Не любіў бязлітасны тыран.
Будзь ты нават шызафрэнік-дурань,
Толькі не крычы ад здзекаў, ран.

Будзеш жыць спакойна і ў пашане,
Без ніякіх клопатаў-турбот,
Нібы той вяльможны парыжанін
Ці адпеты злыдзень гугенот.

Але ж я меў іншую натуру:
На замку пачуццяў не трымаў.
Вось і трапіў я ў макулатуру,
Там дзесяцігоддзі прадрамаў.

●

Я не веру ні ў багоў,
ні ў д'яблаў,
Ні ў сябе самога,
ні ў сяброў.
Ад скразной хлусні душа азябла,
І, як лёд, халоднай стала кроў.

## Забайкалле

Зноў былое быццам не за даллю,
А вось тут, паблізу, на вачах.
Прада мной паўстала Забайкалле —
Мой пякучы лагерны ачаг.

І адразу зашчымела сэрца,
Нібы хтосьці стрэліў у яго.
І спыніўся я нібыта ў сенцах
Тых крутых, скалістых берагоў...

Мне здалося, зноў ідзе з касою,
Як тады ў трыццатыя гады,
Тая «цётка», што была грозою
І дзядоў, і хлопцаў маладых.

І крычу, крычу я ад спалоху:
— Адыдзі, падлюка, не чапай!
Дай пажыць, гвалтоўніца, хоць троху,
Лёс мяне і так паабшчыпаў.

Раптам знікла постаць крыважэрнай,
Стала лёгка неяк на душы.
...Прарастуць упэўненасці зерні,
Калі ты нідзе не саграшыў.

## Ля жалезнай гары

Зноў лічу свае гады я
Пад зязюльчына «ку-ку».
Мне, напэўна, маладыя
Не зайздросцяць, «земляку».

Ім, «аленям быстраногім»,
Спеў вяшчунні —
трын-трава.
Мне — тупік,
а ім — дарогі!..
Іх палётаў не стрымаць!

Як анёлы, праляцяюць
Сцежкай горнаю лясной!
Я іх песнямі вітаю
З іх расквечанай вясной.

Сам жа ўслых лічу, лічу я
Незайздросныя гады.
Можа, птушка хоць пачуе
Ля гаючае вады.

---

### З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

### Мікола АНТАНОЎСКІ

## Касінерам Каліноўскага

Пры адкрыцці помніка паўстанцам К. Каліноўскага ў Ружанскай пушчы.

Помніць
Край сасновы, верасовы,
Як з «Мужыцкай праўдаю»
На прызбах
Дзецюкі і хлопцы Кастусёвы
Зрэбнаю свабодай
Трызнілі.

А пасля,
Абняўшы сохі з жалем,
Косы — з-пад застрэшкаў
І — наўсторч...
Касінераў без труны хавалі —
Палажыўшы пад галовы корч.

Ды не гэта страшыла іх душы,
Горш за смерць —
Пазбавіцца надзей:
Будуць маскалі,
Паны, чынушы
Дзерці і далей
Сем скур з людзей.

Хай палеглі тут,
У вольнай пушчы,
Зіпуны і світкі
На зары, —
Мой народ, я знаю, —
Неўміручы,
Бо нашчадкам
Волю падарыў.

●

У восені парады папрашу...
Высока ў небе птушкі лямантуюць,
Нібы пакінулі ў гаях душу,
А не лістоту толькі залатую.

На стомленасць прыроды не зважай,
Павер у святасць дрэў і сонца.
Як горка знаць, што існуе мяжа,
Хоць гэты свет — сцвярджалі нам — бясконцы.

Хавае птушак ад вачэй абсяг,
І рэчка ўспененая зносіць кладкі.
Ах, як прыемна знаць, што ёсць працяг
І ўсё ў жыцці паўторыцца спачатку.

Не гавары пустых і пышных фраз,
Лепш памаўчым між дрэваў памяркоўна.
І птушкі ў небе нам дадуць адказ,
Хоць нам не зразумець яго ўсё роўна.

●

Успыхне раптам і патухне
Надзея на цяпло вачэй.
Працокаюць імкліва туфлі —
І чырвань шчокі апячэ.

Насуперак ці воляй лёсу
Паселіцца ў душы адчай!
Я ведаю: ён безгалоса
Умее плакаць і крычаць.

Я ведаю: кідаць ганебна
Абразы-камяні ў спіну.
Каб смелым быць пад гэтым небам,
Замала праклінаць ману.

Да дна піць горкі пачастунак —
Што можа быць яшчэ лягчэй!
Прыходзіць зноў, як паратунак,
Надзея на цяпло вачэй.

●

Зацягнуты раскай крыніцы
Багата і дзён, і начэй.
Шумяць маіх год навальніцы,
І зрок прытупіўся вачэй.

Падсечаны бор знемагае,
Дзе цішу ляснік сцеражэ.
Мне ціша між хвой дарагая,
А хвоі ў цішы — даражэй.

За вёскай жытнёвыя хвалі
Калышуць цянёк аблачын.
У сэрца ўвабраць бы ўсе далі
І можна тады на спачын.

Напоўніцца спеліва сокам,
І плод разумення ўпадзе:
Няўжо можна жыць без вытокаў,
Без простых і мудрых людзей!

Прыйду і ачышчу крыніцу —
Вадою чало апячэ.
Шуміце, мае навальніцы,
Сплывай, павалока, з вачэй!

# ТРЫМАЙЦЕ ТЭАТР РАСЧЫНЕНЫМ

**Зандкарн-тэатр нямецкага горада Карлсруэ — з'ява ў жыцці нямецкай правінцыі адметная. Правінцыі? — перапытаеце вы. Тут варта ўдакладніць, што тамтэйшая правінцыя нічога агульнага не мае з нашымі ўяўленнямі аб правінцыі ды з нашай правінцыяй у прыватнасці. Госці фестывалю беларускіх тэатраў-студый «Студыйныя каляды» — мастацкі кіраўнік Зандкарн-тэатра спадар Зігфрыд КРАЙНЕР і дырэктар спадар Гаральд ШВІРЦ ласкава падзяліліся сваімі думкамі, меркаваннямі ды ўражаннямі з карэспандэнтам «ЛіМа» Жанай ЛАШКЕВІЧ праз пасрэдніцтва і з чынным удзелам рэжысёра Рыда ТАЛІПАВА.**

**Зігфрыд КРАЙНЕР.** Мы, вядома, удзячныя арганізатарам «Студыйных калядаў» за магчымасць наведацца на Беларусь і, так бы мовіць, зразумець, убачыць, адчуць вашу тэатральную сітуацыю. Цяпер, калі на тэрыторыі былога Савецкага Саюза адбываюцца розныя неверагодныя падзеі, нам карысна пабыць пасярод гэтых падзей. Шмат што раптоўна і хутка выходзіць на паверхню — літаратура і тэатр гэтаксама не будуць выключэннем... Але паміж іншым я б хацеў падкрэсліць, што ў тэатральнай справе шмат што трымаецца на асабістых стасунках, дачыненнях, сімпатыях; толькі асабістыя дачыненні з вашым цудоўным рэжысёрам Рыдам Таліпавым паспрыялі нашаму наведанню Беларусі.

**Рыд ТАЛІПАЎ.** Дзякуй, спадар Крайнер, мы стараемся быць гасціннымі, дэманструючы з усіх бакоў свае тэатральныя дасягненні, але я б хацеў уведаць сакрэт вашага дасягнення: памятаеце, яшчэ ў Карлсруэ я пытаўся пра тое, якім чынам у вашым горадзе шмат гадоў трымаецца тэатральны бум? Чаму людзі не проста ходзяць — любяць ваш тэатр?

**КРАЙНЕР.** Мы займаемся тэатрам на працягу доўгіх гадоў, пры гэтым будуем наш рэпертуар так, каб ён прыцягваў і людзей маладых, і прадстаўнікоў старэйшага пакалення.

**ЛАШКЕВІЧ. Няўжо бум стварыў толькі рэпертуар? Мо вам даводзіцца займацца і, так бы мовіць, тэатральным выхаваннем гледача?**

**КРАЙНЕР.** А як жа! Мы доўгія гады, калі можна так сказаць, педагагічна апрацоўваем нашых жыхароў, тэатр пастаянна расчынены, у ім ладзяцца прагляды, семінары для настаўнікаў, для студэнтаў інстытутаў, для навучэнцаў школ і г. д. Мы расказваем пра тэатральнае мастацтва, паказваем нашы работы і калі-нікалі нашу штодзённую працу. Публіка, што наведвае нас, дасведчаная ва ўсіх нашых справах.

**ЛАШКЕВІЧ. Мо працы па-за тэатрам, вакол тэатра болей, як у самім тэатры?**

**КРАЙНЕР.** Калі ўлічыць, што ў нас, фактычна, два тэатры, большы і меншы, студыя, дзіцячая пляцоўка, што на тыдзень мы даём каля дванаццаці спектакляў (у кожнай зале — па два спектаклі на дзень), дык працы хапае і там, і тут...

**ЛАШКЕВІЧ. У вашым тэатры спектакль пракатваецца некалькі разоў запар ці штодня вы ставіце новы (так прынята ў нашых стацыянарных тэатрах)?**

**КРАЙНЕР.** Як правіла, выконваецца серыя спектакляў — запар. Апошнім часам па нядзелях і панядзелках мы ставім у рэпертуар мюзікл, па раніцах ад аўторка да суботы ідуць забаўляльныя спектаклі і казкі для дзяцей, а з серады да суботы ў дваццаць гадзін вечара пачынаюцца самыя разнажанравыя спектаклі для дарослых.

**ТАЛІПАЎ.** Пры гэтым, я ведаю гэта з асабістага вопыту, у Зандкарн-тэатры існуе дыферэнцыраваны падыход да аплаты білетаў: школьнікі, студэнты і некаторыя іншыя катэгорыі гледачоў маюць добрыя выгады...

**Гаральд ШВІРЦ.** Тэатр павінен належаць усім...

**ЛАШКЕВІЧ. А колькі разоў спектакль мусіць вытрымаць пракатванне, каб лічыцца ўдалым?**

**КРАЙНЕР.** Як мінімум — сорак разоў. Але калі ён вытрымлівае сто, дзвесце разоў — дык гэта поспех найвялікшы. І не буду хаваць, што Зандкарн-тэатр яго зазнаў.

**ТАЛІПАЎ.** А хто яшчэ, даруйце недалікатнасць, вызначае вартасці спектакля і ягоны поспех, акрамя ўдзячнай публікі? І, калі не сакрэт, як ладзяцца дачыненні тэатра з крытыкай?

**ШВІРЦ.** У Карлсруэ ёсць адна вялікая газета, якая, дзякуючы свайму аб'ёму і перыядычнасці, трымае манаполію на думку і, надараецца, дэзарыентуе гледачоў. А што да крытыкі... Па-мойму, добры крытык мусіць працаваць поруч з рэжысёрам (я не кажу ўжо — часцей за гледача наведваць тэатр і ведаць яго). Ён таксама павінен бачыць... ну хоць бы на колькі часу наперад. На жаль, мы не зможам пахваліцца гарманічнымі стасункамі з крытыкаю. Хоць у рэцэнзіях нас не крыўдзяць. Мы з вамі, фраў Жана, у нейкім сэнсе калегі, бо на радыё Карлсруэ я штотыдня вяду перадачу пра тэатр, тэатральнае мастацтва і, вядома, пра Зандкарн-тэатр таксама.

**ТАЛІПАЎ.** Але спадар Швірц шчыльна заняты і ў рэпертуары; пра ягонае дырэктарства мы ведаем ужо... У яго я хацеў бы папытаць пра дачыненні Зандкарн-тэатра з высокімі акадэмічнымі (сталічнымі?) калегамі...

**ШВІРЦ.** Я б не хацеў, каб у прысутных склалася ўражанне, што тэатры накшталт нашага з акадэмічнымі ў пастаянным змаганні. Але калі-нікалі нашыя дачыненні нагадваюць проста-такі маўклівую вайну. Наша праблема праблем — выжыць, і пры гэтым не карміць публіку аднадзёнымі падробкамі пад мастацтва. Другая праблема — пошук новага. У рэпертуары, у выкананні, у стылі, у форме, у мэтах і сродках уздзеяння на гледача, нарэшце... «Акадэмікі», па-мойму, даўно адарваліся ад жыцця. На ўтрыманні дзяржавы вельмі проста свой звычайны кансерватызм выдаваць за дбанне пра чысціню традыцыі.

**ТАЛІПАЎ.** Спадар Швірц, калі не сакрэт, з чаго складаецца ваш тэатральны бюджэт?

**ШВІРЦ.** З аднаго мільёна марак у год. Дзве трэці нам прыносіць глядач, адну трэць — Зямля, якой належыць наш горад.

**ЛАШКЕВІЧ. Я ведаю, што Карлсруэ знаходзіцца на мяжы з Францыяй...**

**КРАЙНЕР.** За дваццаць кіламетраў ад мяжы...

**ЛАШКЕВІЧ. Ды Германія нарэшце аб'ядналася...**

**КРАЙНЕР.** Мы чакалі гэтага...

**ЛАШКЕВІЧ. Дык вось, натуральная акцёрская міграцыя адбіваецца на дзейнасці і магчымасцях вашага тэатра? Як вытрымліваюць вашы акцёры канкурэнцыю калег з былой сацыялістычнай часткі краіны? Ці можаце вы параўнаць узроўні іхняе падрыхтоўкі і валоданне прафесіяй?**

**КРАЙНЕР.** Вядома, у нас сапраўдная тэатральная кааперацыя, пры гэтым акцёрскі ўзровень нас задавальняе. Зандкарн-тэатр сябруе з тэатрамі Грузіі (у Тбілісі), Аўстрыі (у Філаху), з Мексікі, Чэхіі (у Празе, напрыклад, з тэатрам «На забрадлі»). Мы абменьваемся рэжысёрамі, спрабуем абменьвацца акцёрамі, ды гэта пакуль складана з-за моўнага бар'еру. Але мы іграем у Грузіі, у Мексіцы, у Чэхіі, у Францыі, адтуль пастаянна прыязджаюць да нас, і мы набылі ўжо вопыт увасаблення нямецка-грузінскага спектакля (на нямецкай і грузінскай мовах адначасова). Нядаўна рэжысёр з Тбілісі ставіў у Карлсруэ, тым часам я ажыццяўляў свой творчы праект у Тбілісі.

**ТАЛІПАЎ.** Мо вы маглі б штосьці сказаць пра творчыя праекты ў дачыненні да Беларусі?

**КРАЙНЕР.** На жаль, у Мінску мы зусім нядоўга. Нас ласкава возяць на аўтобусе з тэатра ў тэатр...

**ШВІРЦ.** Так што, апыніся мы на вуліцы, дык дарогі да свайго гатэлю не знайшлі б...

**КРАЙНЕР.** Усе разумеюць: мы ў Мінску для таго, каб глядзець як мага болей. Думаю, не памылюся, калі зазначу: некаторыя тутэйшыя пастаноўкі вельмі й вельмі неблагія. Мы бачылі ўжо не адну выбітную пастаноўку спадара Таліпава і, паўтаруся, менавіта іхняя вабнасць, незвычайнасць, адметнасць з'явіліся прычынаю нашага візіту ў Мінск.

**ЛАШКЕВІЧ. Мне таксама пашэнціла пабачыць вас... у спектаклі (памятаеце, як вы разам з маскоўскім крытыкам Ларысай Сонцавай падыгрывалі ў чэшскім спектаклі акцёру Петэру Лейбі?). Вы зрабілі выключэнне для беларускага гледача ці выходзіце на падмосткі й дома?**

**КРАЙНЕР.** Акрамя таго, што я — мастацкі кіраўнік Зандкарн-тэатра і ў мяне хапае працы ля пляцоўкі ды вакол яе, я з'яўляюся і на ёй... Не так рэгулярна, як хацелася б, але часіну выкройваю, і за год яна «расцягваецца» на дваццаць пяць — трыццаць спектакляў. Вось і цяпер... Дваццатага снежня павінна адбыцца прэм'ера, яна заяўлена ўжо ў праграме тэатра, але я тут, Гаральд Швірц тут, з намі нашыя валізы... І мая роля на дне маёй валізы. А без мяне, відаць, з прэм'ерай давядзецца пачакаць...

**ЛАШКЕВІЧ. Разумею, што ўсе вашыя прэм'еры адбудуцца своечасова, таму шчыра зычу поспеху і спадзяюся колісь убачыць вас у нямецка-беларускім спектаклі.**

**КРАЙНЕР.** Мы думаем пра яго...

# СА СЛОВАМІ І БЕЗ СЛОЎ

## Два спектаклі Зандкарн-тэатра ў Мінску

Нямецкія майстры працавалі на кантрастах слова і маўчання, смеху і заглыбленасці ў перажыванні, пустой сцэнічнай прасторы і нетэатральнай мэблі з кабінета мастацкага кіраўніка Тэатра-студыі кінаакцёра (на ягонай пляцоўцы ішлі абодва спектаклі)... У першы вечар мы не пачулі ніводнага слова, што было цалкам натуральна, бо артыст Петэр Хэрман — мім, але, так бы мовіць, працуе на памежжы пантамімы і клаунады. Мне ён здаўся белым клоунам з характарам і манерамі рыжага, але сцэнічнае аблічча, знойдзенае адпаведна чалавечай прыродзе артыста, выдавала добрага клоуна-насмешніка, падбухторшчыка да самых неверагодных вясёлых выбрыкаў, які ўдзячна ўвасабляе процьму смешных праектаў... проста ад дзіцячай непасрэднасці свайго неўтаймоўнага характару. Але няхай нікога не ўвядзе ў зман клоунскі выгляд Хэрмана: ён, прадстаўнік цудоўнага мастацтва mime pur, вучань знанага Ладзіслава Фіялкі з Прагі і Генрыка Тамашэўскага з Вроцлава, нібы паяднаў сваім мастацтвам славянскія плыні ў вялікім рэчышчы пантамімы сусветнай.

Хэрман павольна і паступова ўцягваў залу ў вадакрут станоўчых эмоцый ды ўдзячнага рогату, да таго ж артыст валодае каштоўнаю якасцю: працуе нібыта толькі для вас — індывідуальна! Ён сам сабе рэжысёр, пастаноўшчык, драматург (мо гэта, скажам сумленна, не заўсёды спрыяе неаспрэчнасці поспеху)...

Здаецца, што ў Хэрмана й няма ўстойлівае маскі (кшталту Біпа Марсэля Марсо),—такі ён шматаблічны ў сваіх вобразах, што нараджаюцца і знікаюць у прасторы залы з апошнім ягоным рухам перад кулісаю і ў светлавой паўзе... Вобразы Хэрмана чытаюцца гледачамі, я б сказала, з удзячнасцю. Ад дрэсіроўшчыка нябачнага магічнага каната (ім ён усё адно як аблытаў глядацкую ўвагу і потым маніпуляваў ёю, як хацеў, выклікаючы на сатворчасць штохвіліны). да малога, які вучыцца пускаць бурбалкі (у мамы за сцэнаю атрымліваецца, а ў яго — ніяк, але ўрэшце мільёны празрыстых шарыкаў апануюць сцэну і.... застануцца ў кішэнях пасталеўшага дзіцяці!); ад тэнісіста-хітравана да наведніка танцпляцоўкі, якому не шанцуе з партнёркамі, ці да галерэі вобразаў вар'етэ, дзе ён, бела-рыжы клоун-мім — і вядучы, і гаспадар, і выканальнік стрыптызу, і спявак (гэты вобраз, на мой погляд, не самы ўдалы), ды фокуснік, якому па чарзе асісціравалі першыя два рады, а мне, аўтару гэтых радкоў, пашчасціла патрымаць у руках... ягонае сімвалічнае сэрца...



Гаральд ШВІРЦ у спектаклі «Кантрабас» П. Зускінда.

Кантраст другога спектакля Зандкарн-тэатра — у моцнай нагрузцы на слова: п'еса «Кантрабас» належыць яшчэ не адкрытаму на Беларусі драматургу П. Зускінду; гэта, без перабольшання, бліскучая драматургія! Яна прадстаўляе нам музыку-кантрабасіста з Дзяржаўнага аркестра (ён гэта падкрэслівае адразу, нібы акрэсліваючы сваё становішча). Дальбог, выканаўцу ролі кантраба-са? кантраба-сіста? ёсць на чым сябе паказаць, і Гаральд Швірц скарыстоўвае гэтую магчымасць (цікавую яшчэ і тым, дарэчы, што дэманструе набыткі і вартасці нязвыклай нам акцёрскай школы). Чалавек, нібы працяты сваім інструментам, інструмент — люстэрка для гаспадара,ягонае другое (а мо — ужо першае?!) «я».... Экскурс у кантрабасавае майстэрства канчаецца высноваю пра тое, што ігра на кантрабасе — гэта, хутчэй, сілавое практыкаванне, якое калі-нікалі нічога агульнага з музыкай не мае.

Хто перад намі? Рэфлексуючы, заблытаны спробамі псіхааналізу паводле Фрэйда чалавек? Бядотнік-закаханы, якога не чуе сапрана, захопленая рэпетыцыямі ды спектаклямі? А тут яшчэ процьма падрабязнасцяў пра славутых, вядомых, геніяльных кампазітараў, ніводзін з якіх, аказваецца, не граў на кантрабасе!

Швірц, мабыць, свядома не шукае вытанчанага, складанага ці адмысловага малюнка вобраза і такога самага існавання пасярод прадметаў на пляцоўцы, галоўным з якіх, паводле героя, з'яўляецца кантрабас: толькі што не выжывае гаспадара з уласнае хаты! Зразумела, абсталюнак для спектакля падабраны спехам, і менавіта гэта абумовіла дзіўную для нямецкага артыста рэакцыю залы: яшчэ б! Толькі што мы дружна пракаўтнулі слінкі ад сасісак з гурочкамі, якімі перад спектаклем перакусваў гаротны музыка (асацыяцыя з марынаваным заўсёды выклікае адпаведную рэакцыю), як на авансцэне з'яўляюцца прас, дошка і падаўжальнік, да нязменнасці выгляду і канструкцыі якіх мы прызвычайваліся гадоў дваццаць, — і яны міжволі выбіліся са стылю спектакля аднною сваёю звыкласцю.... Ды справакавалі ў дадатак незразумелы смех у зале. А прыплюсуйце пераклад, які падавалі не праз навушнікі, не паралельна, а ўслед рэплікам артыста!..

Гаральд Швірц дакладна вытрымлівае паўзы, перабіваючы іх паўзамі музычнымі: віртуозна прадстаўляе ўяўную сцэну перад пачаткам спектакля ў оперы, калі кантрабасіст рэпеціруе прызнанне ў каханні... Міжволі здагадваешся, што ягоны пакой даўно зрабіўся ямаю-футаралам для кантрабаса, а яма ў тэатры, відаць, ператварылася ў адзіны прыдатны асяродак для чалавечага жыцця. Не здзіўляе ўзаемапрацятасць кантрабаса і чалавека (ну не ўсё ж адчуваць толькі да скрыпкі!) наша работа бывае асноўным змесцівам нашага існавання.... жыцця.... Шанцуе тым, хто паспытаў гэткага: не варта іх шкадаваць! Падобна, Гаральд Швірц, між іншым, распавёў і пра гэта....

**Жана ЛАШКЕВІЧ.**

ДУМКА ЧЫТАЧА

# ПАШТОВЫЯ ЗНАКІ СУВЕРЭННАЙ БЕЛАРУСІ

З абвяшчэннем Рэспублікай Беларусь суверэнітэту патрабуюцца канкрэтныя крокі ў сферы палітыкі, эканомікі, культуры. Менавіта разумная культурная палітыка можа прывіць людзям глыбокую павагу да сваёй зямлі, сваёй дзяржаўнасці, сваёй гісторыі. Між тым, разуменне «культура» уключае ў сябе і такую з'яву, як калекцыянаванне.

У сілу сваёй асаблівасці філатэлія больш даступная і падуладная масаваму калекцыянаванню. Паводле дадзеных ЮНЕСКА ў свеце, па самых сціплых падліках, філатэліі аддаюць сваю перавагу і захапляюцца ёю больш за сто мільёнаў чалавек.

На Беларусі не праводзілі якіх-небудзь сацыялагічных даследаванняў па вызначэнні колькасці відаў калекцыянавання і колькасці саміх калекцыянераў. Але з упэўненасцю можна сказаць, што філатэліяй на Беларусі захапляюцца дзесяткі тысяч аматараў паштовай мініяцюры. Саюз філатэлістаў Беларусі аб'ядноўвае больш за чатыры тысячы чалавек. Удзел у шматлікіх выстаўках, ад абласных да міжнародных, прынёс ім не толькі медалі. Мінскі інжынер Леў Коласаў напісаў больш за тысячу артыкулаў, падрыхтавана і выпушчана ў свет манаграфія «Філатэлія аб Беларусі». Гэта сапраўды цікавая кніга апавядае, як праз філатэлію можна раскрыць не толькі гісторыю краіны. У ёй ідзе гаворка аб людзях, што нарадзіліся на беларускай зямлі, па-рознаму судакрануўшыся з яе лёсам. Вось чаму мы гаворым, што сапраўдны калекцыянер сваім пошукам, апісаннем, сістэматызацыяй знаходак узбагачае нацыянальную культуру.

Сёння беларускіх філатэлістаў хвалююць разнастайныя пытанні, што звязаны з гістарычным рашэннем беларускага парламента. Прычым пытанні гэтыя датычаць не толькі выпуску нацыянальных знакаў паштовай аплаты. Іх цікавіць і ўзровень мастацкага і паліграфічнага выканання. «Застойныя» ж гады запомніліся філатэлістам якраз паспешлівасцю мастацкіх вырашэнняў многіх тэм паштовых эмісій, а таксама нізкай якасцю паліграфічнага выканання. Ды і ці можна было выпусціць высокага ўзроўню мастацкую мініяцюру, такую, як паштовая марка, калі, карыстаючыся тэлефонным правам, на яе падрыхтоўку часам давалася ўсяго тры-чатыры дні. Ці можна было ў гэтых умовах правесці ўдумлівую распрацоўку эскіза і яго конкурснае абмеркаванне.

Думаецца, што пры ўдзеле Саюза мастакоў Беларусі можна было б у будучым выявіць здольных, таленавітых выканаўцаў эскізаў паштовых марак Рэспублікі Беларусь.

Саюз філатэлістаў Беларусі апытаў каля двух дзесяткаў рэспубліканскіх інстытутаў, грамадскіх арганізацый адносна тэм для перспектыўных выпускаў мастацкіх канвертаў, паштовых картак, марак і блокаў на беларускую тэматыку. Высновы і прапановы былі своечасова накіраваны рэспубліканскаму Міністэрству сувязі. Аднак у выпуску знакаў паштовай аплаты Міністэрства сувязі, на жаль, усё яшчэ залежыць ад саюзнага гандлёва-выдавецкага цэнтра «Марка». Вось чаму так мала з'яўляецца паштовых эмісій на беларускую тэматыку. Але прычына, відаць, і ў тым, што мы не ўмеем дамагацца выканання ўласных заяваў. Па выпуску паштовак, канвертаў на нацыянальную тэматыку нас далёка апярэдзіла Украіна, іншыя рэспублікі. У гэтых умовах заканамернае пытанне — чаму пры наяўнасці добрай паліграфічнай базы ў рэспубліцы дагэтуль не наладжаны выпуск немаркіраваных мастацкіх канвертаў і паштовак? Зараз амаль усе выпускаемыя канверты і паштоўкі не звязаны з беларускімі матывамі. Чамусьці ў 60-я гады такія канверты мы спрабавалі выдаваць, і атрымлівалася нават няблага. Ну, а цяпер—хто возьме на сябе функцыі заказчыка выпуску новых беларускіх канвертаў або паштовак?

У свой час пастановай Савета Міністраў СССР № 1066 ад 5.11.81 усё гэта было ўскладзена на Мінлеспаперпрам і яго тэрытарыяльныя органы. Аднак мінула шмат часу, і сёння ўсё трэба пачынаць з нуля. Мае спробы навесці даведкі па выпуску немаркіраваных канвертаў і паштовак на беларускую тэматыку ні да чаго не прывялі. Стала ясна толькі, што рэспубліканскае Міністэрства сувязі не займаецца выпускам такіх матэрыялаў. Іншыя арганізацыі гэтая справа таксама не цікавіць.

Але галоўнае пытанне, калі наша Міністэрства сувязі, нарэшце, пусціць у абарот маркі Рэспублікі Беларусь? З абвяшчэннем суверэнітэту падобныя маркі і канверты ўжо выпусцілі Эстонія, Латвія, Летува, Малдова. Нават калі ў нас няма ўласных вытворчых магутнасцей для гэтага, дык замежныя выдаўцы ўжо прапаноўвалі рэспубліцы свае паслугі па выпуску якасна выробленых паштовых марак. За намі толькі тэматыка і мастацкая распрацоўка эскізаў. Дык што ж стрымлівае нас хоць бы ў паштовых марках праявіць часцінку ўласнага суверэнітэту?

Як бачым, беларускіх філатэлістаў хвалююць далёка не пустыя пытанні. Яны таксама, як і ўвесь народ, перажываюць за палітычныя і сацыяльныя пераўтварэнні ў рэспубліцы, за стабілізацыю эканомікі і нацыянальную згоду. Відаць, няма ні адной сферы чалавечай дзейнасці, якая не хвалявала б нашых калекцыянераў. Абстрагуючыся ад рэальнай рэчаіснасці з яе зменлівымі і часам непрадказальнымі наступствамі, наш калекцыянер не забывае аб інтарэсах рэспублікі. А выпуск новых паштовых эмісій з беларускай тэматыкай дазволіць новым тысячам маладых філатэлістаў яшчэ глыбей спазнаць свой родны край — Беларусь.

Сотні тысяч турыстаў з усіх канцоў краіны прыязджаюць штогод на Беларусь. І па традыцыі большасць з іх імкнецца пасланаць дадому вестачку з нашых краёў і цікавых мясцін рэспублікі. Але не спрабуйце, напрыклад, з музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны накіраваць такую вестачку ў мастацкім канверцы ці паштоўку з выявай на ёй музея, да таго ж са спецгашэннем. Тое, што даўно існуе ў многіх краінах свету, мы ніяк не можам укараніць у сябе.

Па нашай прапанове Міністэрства сувязі Рэспублікі нават заказала і атрымала тры такія спецштэмпелі для спецгашэнняў указаных канвертаў і паштовак. Здавалася б, засталося вырашыць самае малое — арганізаваць у музеях продаж канвертаў і паштовак і арганізаваць іх спецыяльнае гашэнне для жадаючых. Аднак ні Міністэрства культуры, ні Міністэрства сувязі Беларусі нічога па гэтым пытанні не прадпрымаюць. Поўная абыякавасць як да гістарычных помнікаў Беларусі, так і да іх папулярызацыі. Але што тычыцца эканамічных аспектаў філатэліі ў пераходны перыяд да рыначнай эканомікі—то і тут ёсць над чым падумаць. Выпуск нацыянальных паштовых марак, канвертаў і паштовак непазбежна прывабіць вялікую цікавасць філатэлістычнай грамадскасці і, натуральна, прыток валюты. Гэта не толькі эканамічны бок справы. Не меншае значэнне набывае беларуская тэматыка і сюжэты. Дык няўжо нам абавязкова трэба чакаць, калі нават у гэтым нас перагоняць іншыя рэспублікі?

Нам трэба яшчэ раз падумаць над тым, хто ў нас узяўся б выступіць заказчыкам нашых новых паштовых эмісій, якія адпавядаюць духу часу, характару палітычных зменаў на Беларусі. Але, думаецца, свой уклад у гэтую справу павінна і можа ўнесці Асацыяцыя беларускіх выданняў. Яе аўтарытэт і вопыт мог бы аказаць істотны ўплыў на падрыхтоўку нашых паштовых эмісій. Думаецца, што да таго часу, калі з'явяцца новыя нацыянальныя эмісіі, у Мінску, нарэшце, адчыніць свае дзверы і музей сувязі Беларусі. Аднак сёння невядома кім, як і дзе вядзецца пошук патрэбных для музея экспанатаў. Думаецца, што філатэлісты рэспублікі змаглі б прыняць удзел у гэтай падрыхтоўчай працы.

**Анатоль ЛІСОЎСКІ,**
**старшыня праўлення Саюза філатэлістаў Беларусі.**

МУЗЫКА

# КОЛЯ Ў ВАТЫКАНЕ

У Ватыкане, у Сан-П'етра, у зале Блаславеннаў адбыўся канцэрт-прадстаўленне дабрачыннай праграмы «Новыя імёны» ў гонар Папы Іаана Паўла II. Сярод удзельнікаў быў ужо знаёмы нашым чытачам Коля Гімалетдзінаў, вучань Музычнага ліцэя пры Белдзяржкансерваторыі. Ён граў у суправаджэнні знанага Расійскага сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам М. Плятнёва. Асабліва захапленне кардыналаў і Папы выклікаў дуэт дзевяцігадовай піяністкі з Харкава Лены Калеснічэнкі ды юнага віяланчэліста Колі Гімалетдзінава. За ўдзел у канцэрце Коля і ягоны педагог Уладзімір Перлін адзначаны медалём Папы. Пасля інтэрв'ю, якое Коля даў італьянскаму тэлебачанню, хлопчыка пазнавалі на вуліцах Рыма. У Мінску такога не адбываецца. А шкада!

**А. МІЛЬТО.**



Пасля выступлення (Коля Гімалетдзінаў — у цэнтры, у белай кашульцы).

З ПОШТЫ АДДЗЕЛА МУЗЫКІ

# ДЗМІТРЫЮ СМОЛЬСКАМУ, ЭСТРАДНАМУ СПЕВАКУ

Шаноўны Дзмітрый! На жаль, я мала чуў па радыё Вашых песень і не быў на Вашых канцэртах, таму не бяруся меркаваць пра Вас як пра артыста эстрады, тым больш, што Вы, як самі прызнаяцеся ў інтэрв'ю газеце «Знамя юности» (26.09. 91 г.), стыляў пераспрабавалі багата. «Нью-романтик», «диско» и даже попсу на джазовой основе». Цяпер у Вас у пашане «мелодичный фирменный «поп».

Прыемна ўражвае, Дзмітрый, што Вы спазналі ўжо так шмат стыляў і запыніліся на «меладычным» дый «фірмовым». Аднак не толькі гэтае прызнанне ўразіла мяне ў тым Вашым інтэрв'ю, таму (прачытаў яго зусім нядаўна) дзялюся сваімі сціслымі думкамі.

На пачатку інтэрв'ю разважае таксама мала вядомы мне журналіст Ігар Карней (даруйце маю недасведчанасць) са згоды, маркую, галоўнага рэдактара найпапулярнейшай маладзёжнай газеты, паэта Паўла Вараб'ёва: «Свободу-то мы получим, **суверенитетом от мира отгородимся** (вылучана мною.— **А. А.**), а вот кто в родных стенах будет радовать своим творчеством? Все те же разудалые аксакалы, которые 70 лет прогоняют с полей печаль... (Хто ж гэта, цікава?)

Неужто все двадцатилетние неперспективны? Что-то не верится, а посему мы попытаемся исправить эту социальную несправедливость и познакомить читателей с возможным кандидатом на звание «звезды эстрады» суверенной Беларуси, 20-летним певцом Дмитрием СМОЛЬСКИМ».

Дык паглядзім жа, Дзмітрый, разам, «хто да нас ідзе». Што можам уведаць з інтэрв'ю?

Тое, напрыклад, што ў 8-гадовым узросце Вы сталі лаўрэатам конкурсу «Чырвоны гваздзік», што цяпер Аляксандр Ціхановіч у сваім «Тэатры песні» «лепит из Вас человека», што ў якасці «зорак» Вам «свецяць» «Песняков, Кузьмин, Аллегрова, Пугачева и другие сексуальные женщины»... Даведаўся і пра тое, што палітыкі ў сваіх песнях Вы ігнаруеце «полностью». «Если кто-то отводит душу, слушая Талькова,— кажаце Вы,— то я ничем не могу помочь...»

Згодны я з Вамі, Дзмітрый, адносна суму, якім патыхае палітыка. Але шкада, што Вы, яшчэ не стаўшы, даруйце, па сутнасці, нікім, так кажаце пра Ігара Талькова, мастака, за Вас (тады яшчэ) дужа старэйшага, мастака сапраўднага, да якога Вам пакуль вельмі, вельмі далёка.

Падзяляю Ваш боль: «Да ты загляни в любой киоск звукозаписи Минска, сомневаюсь, что увидишь там белорусских исполнителей». І ў сувязі з гэтым найбольш уразіў мяне Ваш адказ на пытанне, з якімі паэтамі і кампазітарамі супрацоўнічаеце, а канкрэтна — вось гэта: «Лично я в песне за основу ставлю текст. (Дарэчы, пры ўсёй маёй пашане да літаратурнага слова такое прызнанне дужа дзівіць). А у нас в Белоруссии просто не умеют писать песни на русском языке. Все повально «**опатриотились**» (не в обиду поэтам будет сказано), и уже практически невозможно найти нормального стихотворения на русском языке. **А пение на белорусском, а особенно на английском с тем же акцентом — зрелище печальное.»** (Усё падкрэслена мною. — **А. А.**).

Думаю, што тут любыя мае каментарыі не патрэбныя. Гэтаксама спасылкі на выдатны беларускі рок, які нарадзіўся ў сярэдзіне 80-х, на тузін адметных нашых гуртоў, што спяваюць на роднай мове, да прыкладу, на «Уліс», прызнаны ўжо ў Польшчы і Германіі, высока ацэнены і маскоўска-лонданскім «касмапалітам» - роказнаўцам Арцёмам Троіцкім, нарэшце, спасылкі на «аксакалаў» нашае эстрады «Песняроў» з расейцам Уладзімірам Мулявіным на чале будуць лішнія.

Толькі задам Вам пытанне. У якой ступені лічыце Вы сябе беларускім спеваком, калі меркаваць па колькасці беларускамоўных «высокапаэтычных» тэкстаў у Вашым вытанчаным рэпертуары? Ці Вы пачуваецеся такім адно ў кіёсках гуказапісу?

На заканчэнне хачу павіншаваць Аляксандра Ціхановіча з добраю «лепкаю». І ўсё ж выказаць спадзеў: Вам, Дзмітрый, толькі 20 гадоў, мажліва, калі-небудзь Вы і праўда зможаце каму-небудзь дапамагчы, хоць бы ў адной незалежнай Беларусі...

**Алесь АСТАШОНАК,**
**літаратар,**
**аматар рок- і поп-музыкі з сярэдзіны 60-х гадоў.**

P. S. Запытаўся б яшчэ ў рэдактара і паэта П. Вараб'ёва: у якой ступені цікавіцца ён праблемамі сучаснае маладзёжнае музыкі, прынамсі, на старонках даверанай яму газеты?

**А. А.**

# ГІСТОРЫЯ БЕЛАРУСІ Ў КАНТЭКСЦЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЙ ТЭОРЫІ ЭТНАСУ

(Пачатак на стар. 5).

ла аднолькавая. Пазней ужо Беларусь ніколі так блізка не стаяла да Еўропы. Калі б гэты працэс натуралёва развіваўся і далей, дык беларуская нацыя сфармавалася б ужо ў сярэдзіне 19 ст.

**— Калі б...**

— На мяжы 16—17 стст. мы трацім уласную зямельную арыстакратыю, што пазбавіла працэс беларускай кансалідацыі эканамічнай базы. Праўда, гарадское насельніцтва трымалася сваіх каранёў, але ў сярэдзіне 17 ст. наш народ спасцігла першая дэмаграфічная катастрофа, калі Беларусь страціла каля паловы насельніцтва. Гэта была «эпоха патопу» (паводле Г. Сянкевіча). Тады мы страцілі гарадское мяшчанства—сярэдні клас. Што было пасля? — Вяртанне ў прымітыўны этнічны стан, калі этнізацыя адбывалася толькі ў межах сям'і. Беларусы ператварыліся ў «малы народ».

Такім чынам, парадыгма грамадскага развіцця была парушана.

**— І вось мы ў 19 стагоддзі...**

— Рух у 19 ст. — рэч фенаменальная, бо ўсё было супраць. Мы ведаем пра звышпрыгон на Беларусі, калі 80 працэнтаў насельніцтва было пад прыгонам (чаго не было ў Польшчы і на Украіне), ведаем пра палітыку паланізацыі і русіфікацыі, пра канфесійную разарванасць этнасу. Ну і да таго ж нам вельмі не пашанцавала, што Беларусь **цалкам** увайшла ў склад Расейскай імперыі. Калі б нейкі кавалачак выпаў — дык развіццё нацыянальнага руху адбывалася б значна актыўней. Паглядзіце: цэнтрам украінскага руху ў 19 ст. быў пазаімперскі Львоў; летувіскі рух захоўваўся ў занёманскай Летуве, дзе выходзілі летувіскія часопісы, — у самой Летуве ўсё было знішчана. Нам вельмі не пашанцавала геапалітычна.

**— У такіх варунках тым не менш аднаўляецца беларускі рух. Паміж рознымі яго этапамі няма амаль ніякай сувязі... Фенаменальна? Можа, слушна было б дзеля патлумачэння такой фенаменальнасці, перманентнасці нашага адраджэнства меркаваць, што, акрамя сацыялагічнай парадыгмы развіцця этнасу, існуе, скажам, і парадыгма культуралагічная, якая пачынае ў нас працаваць ад часоў Ефрасінні. І калі грамадская парадыгма гвалтоўна мянялася, дык парадыгма культуралагічная, духоўная—захоўвалася, пераносячы ў будучае ўнутраную патэнцыю народа, п-кратна абуджаючы яго свядомасць. Менавіта духоўная парадыгма (якую раней мы пазначалі, відаць, разам «дух народа» і да т. п.) спарадзіла і Ф. Скарыну, і адраджэнцаў 19 ст., і... даруйце, нас. І мы сёння ментальна, падсвядома падключаны да нашае культуралагічнае парадыгмы...**

— Можа, гэта і так. **Непасрэднай** пераемнасці паміж рознымі плынямі адраджэнства сапраўды не было. Але мы традыцыйна шукалі кропкі апоры там, у мінулым; да мінуўшчыны, напрыклад, пастаянна звяртаўся Ф. Багушэвіч... Сёння мы таксама арыентуемся на колішнія каштоўнасці, што ёсць прыкметай неакансерватызму — за гэта сведчыць і аднаўленне такіх выданняў, як «Наша Ніва» і «Крыніца» (выходзіла ў Заходняй Беларусі да 1939 года).

**— Як бы вы ацанілі цяперашнія вымогі нашых адраджэнцаў: з навуковага пункту гледжання ці з'яўляюцца яны адэкватнымі сацыяльнаму стану?**

— На першы погляд, у нас утварыўся спектр палітычных партый: ёсць і хрысціянскія дэмакраты — традыцыйна правыя кансерватары, ёсць і левыя сацыял-дэмакраты, ёсць і нацыянал-дэмакраты і г. д. Але **сацыяльнай** базы пад усімі гэтымі партыямі і рухамі—ці то Грамадой, ці то БНФ—пакуль што няма, бо няма дыферэнцыраванага соцыуму — ёсць люмпен, г. зн. амаль усё насельніцтва Беларусі, якое па маёмасным становішчы на сённяшні дзень з'яўляецца не кім іншым, як люмпенам. Высокія заклікі партый і рухаў адраджэнскай арыентацыі не ёсць адэкватныя масавай свядомасці, бо яна таксама люмпенская. Можна спрагназаваць, што новыя партыі хутка павіснуць у паветры...

Таму рэформы трэба фарсіраваць, можа, нават у нечым перагнуць, інакш—магчымы сацыяльны выбух. Дарэчы, дасюль няма ўпэўненасці ў тым, што палітыка Адраджэння ёсць незваротная. І зусім рэальны варыянт, што калі раптам зменіцца палітычная абстаноўка, дык варта фізічна знішчыць на Беларусі некалькі соцень людзей—і з Адраджэннем будзе пакончана. У выпадку новых «чэпістаў».

Нас таксама можа чакаць і глабальны сацыяльны канфлікт, бо, акрамя люмпенізаванага грамадства, мы маем і слой прадпрымальнікаў з крымінальным адценнем... Тут атрымліваецца вось такая калізія: для таго, каб перайсці да сучаснага грамадства, нам трэба зняць з прадпрымальнікаў усе магчымыя абмежаванні (уплыў прафсаюзаў, падаткі). Узнікае пытанне: што ж будзе **стрымліваць** нашых прадпрымальнікаў? Вядома, калі пераходзяць ад традыцыйнага грамадства да індустрыяльнага, дык працуюць пэўныя нормы традыцыйнай, рэлігійнай маралі і ёсць арыенцір—клас зямельнай арыстакратыі, на якую зважае буржуазія. На каго будуць арыентавацца нашыя прадпрымальнікі — вось рытарычнае пытанне. Самае страшнае ў таталітарызме — гэта вяртанне ў дзікунства, страта пераемнасці...

Патрэбен арыенцір. Мо з разраду нетрывіяльных хадоў — але трэба вяртаць на Беларусь нашу былую зямельную арыстакратыю — Сапегаў, Радзівілаў, Тышкевічаў. (Дарэчы, нядаўна стала вядома, што ўжо ёсць захады па скліканні ў Нясвіжы з'езда Радзівілаў). Вяртанне гэтых людзей дало б шмат карысці: знайшоўся б гаспадар зямлі, сюды ж патрапілі б і капіталы, і, зрэшты, мы маглі б вучыцца, як сябе паводзіць на людзях і як бавіць вольны час.

**— Вы казалі пра карэляцыю рынак—нацыя—дэмакратыя. Калі за сацыяльнае апірышча нацыі ўважаць клас вольных прадпрымальнікаў (уласнікаў зямлі, прамыслоўцаў), дык у беларусаў такога класа і не было. Пры камуністычнай эканоміцы ўвогуле ніякага прадпрымальніцтва не існавала ў паміне. У той жа час кажуць, што за гады савецкай улады беларуская нацыя надта ўзмацнілася... Як жа яна магла ўзмацніцца—вось сумнеў?**

— Тут, мне здаецца, працуе стэрэатып: маўляў, мы сялянская нацыя... Давайце паглядзім на прыбалтаў, якіх не бянтэжыць адсутнасць сваёй буржуазіі. Больш таго, латышоў не бянтэжыць і тое, што каля 90 працэнтаў сучасных кааператараў у Латвіі не з'яўляюцца латышамі... А. Сідарэвіч марыць, каб свае Савы Марозавы фундавалі развіццё культуры. Але ж ніколі нацыянальная культура не арыентавалася на грошы прадпрымальнікаў. Галоўнае ўсё-такі—каб гэтая культура найперш **існавала,** а грошы можа даваць і дзяржава. І мо галоўным чынам яна.

Увогуле фармаванне нацыі — перш за ўсё справа інтэлігенцыі, а не бізнесменаў, як нядаўна казаў у «ЛіМе» Я. Новікаў. Безумоўна, буржуазіі карысна, каб існавала **яе** нацыянальная дзяржава, каб мацаваўся **свой** рынак і г. д. Але не трэба так фатальна ацэньваць ролю буржуазіі ў жыцці нацыі.

Зрэшты, у хуткім часе мы можам стаць уласнікамі зямлі, і створыцца клас вольных таваравытворцаў, як гэта было пасля адмены прыгону... Я гэта да таго, што буржуазія неабавязкова толькі буйныя прамыслоўцы.

**— Усё-ткі інтэлігенцыя. Сейбіты духоўнага. Але дзе яны? Большасць да нядаўняга часу слугавала сістэме, таталітарызму, а не «чыстай красе»... Пэўная частка пачувалася ў духоўнай эміграцыі. Разам з тым прыняла шмат добрых адраджэнскіх законаў—аб мове, культуры і г. д. Вам не бачыцца неадпаведнасці паміж намінатыўнай палітыкай і фактычнымі выканаўцамі?**

— Бачыцца. На першы погляд, сапраўды, беларусізацыя пасоўваецца поўным ходам: адраджаецца школа, друк, але, як казаў М. Жванецкі, «уключаеш — усё роўна не працуе». Сведчанне гэтага — нераскупленыя творы Караткевіча, Быкава, катастрафічны стан друку. Кардынальных зрухаў не адбываецца. Чаму?

У многім гэта абумоўлена, на маю думку, нягнуткім уздзеяннем на грамадскую свядомасць. Па сённяшні дзень адраджэнства хварэе недаацэнкай яе стану і не выпрацавала стратэгіі акультурвання грамадства. Ніяк не можам зразумець, што сэнс культуры—у яе **спажыванні,** а не проста веданні. Побытавай арыентацыі на свае культурныя каштоўнасці, на іх успрыманне і спажыванне якраз і няма. Зараз, можа, большы ўпор трэба рабіць не на мову, а на самасвядомасць. У прынцыпе з яе і трэба было пачынаць. Захады тут могуць быць такімі: як мага хутчэй выпусціць шмат **папулярных** выданняў па гісторыі, у тым ліку і на рускай мове, бо па-беларуску чытаць навуковую літаратуру яшчэ цяжка, а сэнс у аператыўным засваенні гістарычных ведаў. Пасля таго людзі хутчэй пацягнуцца да ўласна беларускасці...

Нашаму кінематографу таксама трэба «снизойти» да ўзроўню масавай свядомасці. Тут зноў жа не стае нетрывіяльных хадоў. Глядзіце, што было ў свой час у Эстоніі. У 70-х гг. там адбываліся працэсы, падобныя на нашы. Эстонцы дэградавалі як этнас, культура вестэрнізавалася. Гэта непакоіла эстонскую інтэлігенцыю, і была знята стужка «Апошняя рэліквія» — сярэдняга ўзроўню фільм, далёка не шэдэўр кінамастацтва — нешта накшталт «Рабыні Ізаўры». Эфект ад фільма, аднак, быў надзвычайны, і многае ў паводзінах, ментальнасці эстонцаў ён змяніў. Дык вось нам і не хапае такіх фільмаў. Цяпер, калі мы ўсе жабракі і галаднякі, самы прыдатны жанр кіно—меладрама, а варыянт — серыял, і хай ён прыходзіць у сем'і і расказвае, як пакутавала беларуская дзяўчына Зоська ад таго, што... Гэта дойдзе да людзей хутчэй, чым кнігі, над якімі ж трэба пэўны час думаць...

Не хапае нетрывіяльных хадоў, а таксама не хапае канцэнтрацыі адраджэнскай думкі, «мазгавой атакі» на існуючыя культурныя праблемы.

**— Павел, вы, як этнолаг, чым зараз найбольш занепакоены, што хвалюе ў міжнацыянальных зносінах у Беларусі?**

— Мне здаецца, што ў межах былой імперыі зараз выспявае канфлікт паміж рускім і нярускім насельніцтвам, і ён можа быць больш жахлівы, чым вайна ў Югаславіі. На чым такі прагноз грунтуецца?

Сапраўды, рускі народ—гэта асаблівы гістарычны «путь», асаблівая ментальнасць, асаблівыя інстынкты... Гэта добра зведаў на ўласным вопыце: калі на навуковых канферэнцыях хутка знаходзіш паразуменне з эстонцамі, казахамі, грузінамі, дык з рускім размаўляць цяжэй—тут ужо адметная «стать», больш устойлівыя комплексы... Напрыклад, на Канферэнцыі па чалавечым вымярэнні, у кулуарах, расейскіх даследчыкаў моцна ўразіла, што Ф. Скарына ёсць беларусам і надрукаваў свае кнігі на паўстагоддзя раней І. Фёдарава. «Так он же поляк», — здзівіліся «дасведчаныя» маскоўскія калегі... Словам, іерархічнасць светаразумення, месіянізм захоўваюцца.

Апошнім часам руская меншасць на Беларусі замітусілася, яе ідэолагі часта выступаюць у друку. Канцэнтрат ідэалогіі — у выступленнях С. Букчына (публікацыі ў «Знамени юности»). Мяне адразу насцярожыла, што тон ягоных артыкулаў надта ўжо, даруйце, балаганны, калі чалавек гаворыць эмоцыямі, а не рацыяй. Паглядзім на тэзы С. Букчына і яго аднадумцаў. Першая з іх — уплывы расейскай дэмакратыі (спрыяльныя, безумоўна) на развіццё Беларусі. Я пісаў дысертацыю па 19 ст. і ведаю, што знайсці сярод расейскай інтэлігенцыі шчырапрыязнае стаўленне да беларусаў вельмі і вельмі цяжка. Нагадваюцца хіба толькі прозвішчы А. Герцэна, М. Дабралюбава.

Тэза другая—што рускі народ найбольш пацярпеў ад таталітарызму. Даруйце, але ж у сэнсе этнічным ён якраз захаваў усе інстытуты этнізацыі: школу, мастацтва, друк і СМІ. Гэта іншыя народы іх страцілі...

Вернемся да сённяшняй рэчаіснасці. Зараз становішча рускай меншасці на Беларусі няпростае. Калі ў 20—30 гг. былі пэўныя формы расейскай культурнай аўтаноміі, дык потым патрэба ў іх знікла, бо... рускім зрабілася **ўсё.** Сёння руская меншасць страчвае камфортныя жыццёвыя ўмовы. (А яны на Беларусі былі камфортнымі як нідзе, нават больш камфортнымі, чым у саміх беларусаў. І рускім у Беларусі жылося лепей, чым у самой Расеі!). Страта прывілеяванага, камфортнага стану—пачуццё вельмі і вельмі непрыемнае, гэта трэба разумець.

Далей. Ёсць у этналогіі тэорыя «спавернутага гвалту» — гэта калі народ, якога гвалтавалі ў гісторыі (ці 10, ці 50 гадоў назад), — абавязкова гэты гвалт вяртае, бо ён памятаецца ментальна. Вяртае неабавязкова ў той жа форме. І вось зараз мы пераадкрываем сваю гісторыю і найперш пазбаўляемся «белых плямаў» у нашых дачыненнях з расейцамі. Героі расейшчыны спакваля ператвараюцца ў нашай свядомасці ў антыгерояў (Пётр І, Суворaў і інш.), а разам з гэтым змяняюцца і стэрэатыпы ўспрымання рускіх (дакладней кажучы, ажываюць стэрэатыпы мінулага стагоддзя — зусім не рамантычныя).

Неспакойныя паводзіны рускай меншасці інспіруюцца таксама палітыкай кіруючых колаў Расіі, якія спекулююць на яе становішчы ў былых рэспубліках Саюза, каб захаваць свой уплыў на гэтыя краіны.

І самае характэрнае—што сёння, калі ўсе нацыянальныя меншасці ў Беларусі ўжо маюць свае аргструктуры—і палякі, і татары, і ўкраінцы,—дык у рускіх такіх структур няма, і клапаціцца пра іх яны чамусьці не хочуць... Тым часам многія думаюць, што руская абшчына на Беларусі прадстаўлена такімі арганізацыямі, як «Русь», «Отечество», «Белая Россия». Трэба ведаць, што ў гэтых «суполках» Руссю і не пахне: гэта чыста тутэйшы феномен, рэанімацыя канцэпцыі «заходняга русізму», якую спавядаюць зрусіфікаваныя беларусы, а не ўласна рускія. Іншая справа, што той жа С. Букчын у сваіх практыкаваннях небяспечна балансуе на мяжы «заходняга русізму» і ўласна расейскай ідэалогіі.

Наперадзе, мне здаецца, змена свядомасці рускай меншасці, пераасэнсаванне ёю свайго становішча ў Беларусі, і чым хутчэй гэта адбудзецца, тым хутчэй знікне пагроза міжнацыянальнага выбуху.

## З ПОШТЫ «ЛіМа»

# ЦІ ДАЧАКАЕМСЯ СПРАВЯДЛІВАСЦІ?

Сёлета ў маі настаўнікам павысілі тарыфныя стаўкі: тыя, хто мае вышэйшую адукацыю сталі атрымліваць за 18 гадзін тыднёвай нагрузкі 360 рублёў у месяц («бруднымі»). У гэтую суму ўключылі 60 рублёў кампенсацыі, што выплачвалі пасля павышэння цэн, і суму па індэксацыі! Так што фактычнае павышэнне зарплаты для настаўнікаў склала некалькі чырвонцаў.

І яшчэ адзін здзек з настаўнікаў, якія 25—35 ці больш гадоў свайго жыцця аддалі школе: нас пазбавілі даплаты за педстаж (ці за выслугу, як часам мовіцца). Хто дазволіў чыноўнікам, якія, пэўна, у школе не працавалі ніводнага дня, так зняважыць настаўнікаў, якія патрацілі свае фізічныя і духоўныя сілы на іх, сённяшніх міністэрскіх верхаглядаў?

Дапускаю, што пачынаючым педагогам крыўдна атрымліваць за аднолькавую працу менш за старых педагогаў. Ну хай бы адмянілі даплату за тры гады, за пяць, дзесяць, але ж за 25 гадоў павінны выплачваць 40% ад тарыфнай стаўкі, незалежна ад таго, пайшоў настаўнік на пенсію па стану здароўя ці працягвае працаваць, як было да 1964 года.

Дзе ж тут логіка? Як можна зраўняць заробак маладога і старога, калі малады можа яшчэ зарабіць, працуючы ў гуртках ці беручы большую нагрузку. Трактарысты, даяркі, урачы, лётчыкі, маракі — усе атрымліваюць даплату за стаж, а нам адмянілі!

Замест стажу нам увялі даплату за катэгорыю: па 30 руб. за другую, першую і вышэйшую. Хай будуць гэтыя ганебныя катэгорыі, але не замест выплат за стаж, а разам з імі. І яшчэ адна недарэчнасць: настаўнікі другой катэгорыі з вышэйшай і сярэдняй адукацыяй атрымліваюць аднолькавую стаўку. Цалкам закрэслілі стымул да павышэння адукацыі (якога даўно ўжо няма ў нашай краіне) і да выслугі.

І галоўны наш аргумент не ў карысць рэформы: у нашым карумпаваным грамадстве нельга праводзіць атэстацыю на катэгорыю. Паспяхова пройдуць атэстацыю не тыя настаўнікі, якія лепш і больш працуюць, а тыя, якія сумеюць дагадзіць начальству!

**В. ПАТАПЕНКА,**
**настаўнік Сідаравіцкай СШ**
**з 32-гадовым стажам.**

Чачэрскі раён,
в. Валосавічы.

## НАШ КАЛЯНДАР

200 гадоў з дня нараджэння беларускага ўрача, гісторыка, літаратара Міхаіла Гамаліцкага (памёр 2 лютага 1861 года). Даследаваў гісторыю Вільні і заходніх зямель Беларусі, вывучаў беларускую філалогію, гісторыю і археалогію.

●

100 гадоў з дня нараджэння польскага паэта, літаратуразнаўцы, перакладчыка Леанарда Падгорскага-Аколава. Нарадзіўся ў былым маёнтку Рым 21 снежня 1891 года на Капыльшчыне, памёр 4 студзеня 1957 года. У зборніку «Беларусь» (1924) прыгадваў маленства, родныя мясціны. Творы Л. Падгорскага-Аколава на беларускую мову перакладаў Я. Семяжон. Беларусі прысвечаны і шэраг пазнейшых вершаў нашага земляка.

●

100 гадоў з дня нараджэння беларускага літаратуразнаўцы, культурнага дзеяча Уладзіславы Луцэвіч (жонкі Янкі Купалы) спаўняецца 25 снежня (памерла 25 лютага 1960 года). Складальніца шэрагу зборнікаў пра жыццё і творчасць Я. Купалы, кніжак для дзяцей, аўтар успамінаў пра Я. Купалу і іншых пісьменнікаў. Да рэвалюцыі друкавала вершы пад псеўданімам В. Станкевічанка.

●

85 гадоў з дня нараджэння драматурга Кастуся Губарэвіча. Пісаў п'есы, кінасцэнарыі. Быў лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі БССР і прэміі камсамола Беларусі.

●

80 гадоў з дня нараджэння драматурга і тэатральнага дзеяча Іосіфа Дорскага (памёр 7 снежня 1964 года).

●

80 гадоў з дня нараджэння крытыка Алеся Есакова. Аўтар кніг «Уладзімір Крыловіч», «Янка Купала і беларускі тэатр», «Зерне да зерня».

# І СЁННЯ АКТУАЛЬНЫЯ ІДЭІ

**Сёлета 21 снежня спаўняецца 100 гадоў з дня нараджэння выдатнага беларускага царкоўнага, палітычнага і грамадскага дзеяча, вучонага і педагога кс. Адама Станкевіча. Сёлета выдавецтва «Беларусь» пачало рыхтаваць да друку кнігу выбраных твораў а. Адама, у якую ўвойдуць дзве вядомыя яго працы — «Родная мова ў сьвятынях» ды «Хрысціянства і Беларускі Народ». Складальнік і рэдактар зборніка Ларыса Этэнка ўключыла ў яго таксама два лісты святара: да нямецкіх і савецкіх уладаў. Другі з гэтых лістоў друкуецца сёння ў «ЛіМе».**

**Той, хто знаёмы з жыццёвым, святарскім і творчым шляхам а. Адама Станкевіча, ведае: ён марыў пра Беларускі Каталіцкі Касцёл. Кніга, якая, на жаль, выйдзе не да юбілею кс. Адама Станкевіча, а пазней, вымоўна сведчыць пра гэта.**

**Як аўтар прадмовы і каментарыяў да зборніка, хачу зазначыць: а. Адам Станкевіч найменш характарызаваўся вузкаканфесійным светапоглядам. Ён бараніў правы праваслаўных хрысціян з трыбуны Сейма Польскай Рэспублікі, ён крытыкаваў бальшавікоў не толькі за тое, што яны зачынялі касцёлы... І тут няма нічога дзіўнага. За Праваслаўную Царкву ў Расіі ды ў СССР заступаліся Папы Рымскія — Бенедыкт XV, Пій XI і Пій XII. Рабіць гэта ім загадваў хрысціянскі абавязак, усведамленне таго, што каталіцызм і праваслаўе — дзве галіны Адзінай Царквы.**

**Тут не магу не ўстрымацца ад палемікі. «ЛіМ» надрукаваў нядаўна працу гісторыка Леаніда Лыча «Рэлігія і мова». Не буду запыняцца на фактычных памылках, якія зрэдчасу прабіваюцца ў ёй. Спынюся на іншым. Шаноўны гісторык кліча да стварэння Беларускай Праваслаўнай Царквы, незалежнай ад Маскоўскай Патрыярхіі і Беларускай Каталіцкай Царквы, якая не залежала б ад Варшавы ды Ватыкана, і, мабыць, не здагадваецца, што гаворыць пра немагчымае.**

**Сапраўды, Беларуская Праваслаўная Царква (а дакладней — Беларускі Экзархат Рускай Праваслаўнай Царквы) пасля 25 жніўня апынулася ў даволі далікатным становішчы. Справа ў тым, што РПЦ зарэгістравана ў Міністэрстве юстыцыі РСФСР. БПЦ з'яўляецца, такім чынам, філіяй замежнай Царквы. Значыць, трэба аб'яўляць аўтакефалію. Але на Захадзе ўжо ёсць Беларуская Аўтакефальная Праваслаўная Царква, падзеленая, праўда, на прыхільнікаў мітрапаліта Ізяслава і архіепіскапа Мікалая. Апроч таго, некалькі беларускіх прыходаў знаходзяцца пад амафорам архіепіскапа Новага Рыма — Канстанцінопаля непасрэдна. Украінцам было прасцей. Замежная Украінская Аўтакефальная Праваслаўная Царква была адзінаю. Калі ў былой УССР пачаўся рух за самастойнасць Праваслаўнай Царквы, прадстаяльнік УАПЦ мітрапаліт Мсціслаў быў абраны Патрыярхам. Цяпер — пасля акта 24 жніўня — Украінскаму Экзархату РПЦ раней ці пазней прыйдзецца сесці за стол перагавораў з Аўтакефальнаю Царквою. У нас сітуацыя больш складаная. Як памірыць тры плыні ў замежным беларускім праваслаўі? Як звесці ўсіх праваслаўных беларусаў у адну Царкву? Тут многае залежыць не толькі ад добрае волі экзарха Філарэта, мітрапаліта Ізяслава ды архіепіскапа Мікалая. Тут — звяртаю ўвагу Л. Лыча — многа залежыць і ад Сусветнага Патрыярха, архіепіскапа Новага Рыма — Канстанцінопаля, які з'яўляецца першым сярод прадстаяльнікаў Праваслаўных Цэркваў. Якую пазіцыю зойме ён?**

**Ніякая Праваслаўная Царква не можа быць абсалютна незалежнаю — усе яны, нават РПЦ, прызнаюць першынства канстанцінопальскага Патрыярха. Уявім, што Філарэт, Ізяслаў ды Мікалай пераадолеюць узаемны недавер і нават варожасць, прыйдуць да гэтак жаданае згоды і пачнецца будаўніцтва агульнае для Бацькаўшчыны і дыяспары Беларускае Аўтакефальнае Праваслаўнае Царквы... І тады шмат што будзе залежаць ад Патрыярха Канстанцінопальскага, ад прадстаяльнікаў памесных Цэркваў. Ці прызнаюць яны кананічнасць новай БАПЦ?**

**І ўжо зусім некананічнаю была б Беларуская Каталіцкая Царква, не падпарадкаваная Святому Пасаду. Я разумею антываршаўскі настрой спадара Л. Лыча. Але Ватыкан?.. Спадар Л. Лыч, мусіць, не вывучыў усе крыніцы і літаратуру, а яны сведчаць: не Ватыкан вінаваты, што Каталіцкі Касцёл на Беларусі быў спольшчаны. Ватыкан ратаваў Уніяцкую Царкву ад расправы, якую намыслілі польскія каталіцкія біскупы ў 1717 годзе. Задамо такое пытанне: ці выказвалася хоць раз Апостальская Сталіца супраць беларускае мовы ў святынях? Пытанне рытарычнае. У Рыме пры Папе Пію XII выдавалася рэлігійная літаратура для беларусаў. Пры Яне XXIII быў склікаў XXI Сусветны (II Ватыканскі) Сабор, на якім была ўхвалена пастанова аб нацыянальных мовах у набажэнстве. Наступнік Яна XXIII — Павел VI, пад чыім кіраўніцтвам завяршаўся Сабор, — прыняў а. Уладзіслава Чарняўскага і ў прысутнасці грэка-каталіцкага (уніяцкага) архімандрыта а. Льва Гарошкі ўхваліў яго душпастырскую ды перакладчыцкую дзейнасць. Ян Павел II звяртаецца да нашых суродзічаў і — праз радыё — да ўсіх нас у нашай мове. І гэта не поза, а пазіцыя, бо найпершы абавязак Святога Айца перад Богам — захаваць адзінства Царквы. Ці ж можа рымскі пантыфік калісьці адпрэчыць дзеля яго мовы? Зноў — рытарычнае пытанне.**

**Што датычыць залежнасці ад Варшавы, дык яна не юрыдычная, не кананічная, а — скажам так — традыцыйная. Пераадолець яе можна, калі будзе пабудавана Беларуская Каталіцкая Царква, пра што і рупіўся а. Адам Станкевіч у 40-я гады. Але савецкі атэістычны ўрад і слухаць яго не схацеў — кінуў у лагер.**

**Будаўніцтва Беларускай Каталіцкай Царквы немагчымае без Беларускае Дзяржавы. Пры цары беларускія землі ўваходзілі ў склад Магілёўскай архідыяцэзіі (епархіі, на чале якое стаіць архібіскуп, мітрапаліт) і Віленскай дыяцэзіі. У час польскай акупацыі заходнія беларускія землі былі падпарадкаваны віленскаму архібіскупу і пінскаму біскупу.**

**Зважаючы на новыя палітычныя рэаліі, Апостальская Сталіца аднавіла архідыяцэзію Магілёўскую пад новым назовам — архідыяцэзія Менская і Магілёўская. Створана новая дыяцэзія — Гарадзенская. Яе парафіі больш не падпарадкуюцца архібіскупу Віленскаму. Адноўлена дыяцэзія Пінская — на гэты раз толькі ў межах Рэспублікі Беларусь.**

**Здавалася б, усё ідзе выдатна. Яно так, але і не так. Справа ў тым, што біскуп Гарадзенскі не падпарадкаваны мітрапаліту і архібіскупу Менскаму і Магілёўскаму. Калі будзе прызначаны біскуп Пінскі (цяпер яго абавязкі выконвае мітрапаліт Казімір), дык і ён не будзе падпарадкавацца Менску. Няма таго, што характарызуе нацыянальную Царкву, — строгай іерархіі, Канферэнцыі біскупаў.**

**Калі ўрад Беларусі бярэцца будаваць самастойную дзяржаву, ён павінен устанавіць цесныя адносіны са Святым Пасадам. І тады, я ўпэўнены, мы будзем мець Беларускую Каталіцкую Царкву, на чале якое стаіць архібіскуп і мітрапаліт Беларускі і Менскі (дасць Бог — і ў сане кардынала) з падпарадкаванымі яму біскупамі Пінскім і Гарадзенскім (магчыма, што пазней катэдры з'явяцца ў іншых гарадах). Гэтак паўстане Канферэнцыя біскупаў.**

**Два пытанні турбуюць мяне: ці разумее ўрад Беларусі ўсю важнасць праблемы, ці здольны ён адмовіцца ад атэістычных комплексаў ды прымхаў і пачаць канструктыўнае супрацоўніцтва з Ватыканам?**

**Іншая справа: мова Касцёла, яго інтэграванасць у справы беларускага народа, беларускай культуры. Тут шмат што залежыць не толькі ад біскупаў ды святароў — ад нашае інтэлігенцыі, ад беларускае каталіцкае моладзі. Хто з інтэлігентаў - католікаў пойдзе ў семінарыю выкладаць «свецкія» дысцыпліны, хто з маладых людзей устаіць перад спакусамі ды аддасць сябе на служэнне Богу?**

**Анатоль СІДАРЭВІЧ.**

# Каталіцкае пытанне і праект яго вырашэння

**(Да ведама Савецкага ўрада)**

Я ЗАЎСЁДЫ разумеў анармальнасць становішча Каталіцкай царквы на Беларусі і смуткаваў душой. Каталіцызм тут замест быць сябрам і апалотам беларускага народа, увогуле заўсёды быў зброяй яго прыгнёту і каланізацыі. Заўсёды маёй запаветнай марай было размяшчэнне Каталіцкай царквы на Беларусі, вызваленне яе ад чужых ёй палітычных і нацыянальных ніцяў і накіраванне яе на Беларускі народны шлях.

З гэтай мэтай я нямала ў свой час інфармаваў Папскі пасад, але рэалізацыі маіх жаданняў заўсёды праціўіўся рашучы захопніцкі польскі нацыяналізм, і я заставаўся адзінокі і зусім безабаронны.

У апошнія гады лёс даў мне магчымасць прадставіць беларуска-каталіцкія планы Савецкаму ўраду і ў яго шукаць дапамогі ў іх вырашэнні.

8 снежня 1945 г. Савецкаму ўраду напісаў досыць аб'ектыўны і вычарпальны мемарандум. Сказанае там тут не паўтараю, хіба толькі нямногае, і рэкамендую прыхільнаму чытачу прагледзець яго. Пасля гэтага на працягу года, па дадзеным пытанні было прадстаўлена мной Савецкаму ўраду яшчэ некалькі кароткіх запісак, у якіх выкладаліся мае тэарэтычныя погляды і прапаноўваліся некаторыя практычныя меры.

З прычыны таго, што становішча Каталіцкай царквы ў БССР у сэнсе нацыянальным застаецца ўсё тым жа, ды, акрамя таго, да яго далучылася яшчэ анармальнасць кананічная, — я асмельваюся прадставіць нашаму ўраду яшчэ гэтыя свае заўвагі да станоўчага іх разгляду.

## 1. Сучасная праблема Каталіцкай царквы ў БССР і неабходнасць яе вырашэння.

Пачынаючы выкладанне гэтага мемарандума, я папярэдне абследаваў — асабіста і праз іншых асоб — па магчымасці ўсю БССР у галіне каталіцкага там жыцця. Такім чынам, вывучыў я заходнія ўскраіны Заходняй Беларусі (Гродна, Ваўкавыск, Слонім), паўднёвыя (Ліда, Навагрудак, Пінск), усходнія (Ашмяны, Маладзечна) і паўночна-ўсходнія (Браслаў, Глыбокае, Дзісна). Абследаваў я ў сэнсе каталіцкім таксама і Усходнюю Беларусь.

На тэрыторыі ўсёй БССР існуюць наступныя каталіцкія епархіі: Мінская (кананічна ніколі не скасаваная, у мінулым уваходзіла ў склад Катал. Магілёўскай мітраполіі), Пінская (частка адышла да Польшчы) і Віленская (частка адышла да Літвы і частка таксама да Польшчы).

У Мінскай епархіі, і ўвогуле ўсходняй БССР, з прычыны закрыцця Урадам каталіцкіх касцёлаў і недапушчэння туды каталіцкіх святароў, каталіцкае жыццё зусім ненармальнае, але яно ёсць і католікі адтуль па рэлігійныя трэбы звяртаюцца за шмат кіламетраў у касцёлы Заходняй Беларусі, як у Маладзечна, Ракаў, Краснае, Налібокі, Рубяжэвічы, Нясвіж, Смаргонь, Ліда, Гродна, а таксама бываюць часта і ў Вільні. Прыбываюць у гэтыя мясціны па справах сваёй душы беларускія католікі з: Мінска, Барысава, Бабруйска, Магілёва, Гомеля, Віцебска, Полацка, а таксама з розных дробных мястэчак і вёсак.

Рэлігійнае жыццё католікаў усходняй БССР на працягу амаль 30 гадоў савецкай улады вонкава нібы перастала існаваць, але фактычна пайшло некуды ў нетры душы, яно заглыбілася і загартавалася. Доказам гэтаму служыць хоць бы іх перагрынацыя па трэбы ў аддаленыя пункты, а таксама даўнія, захаваныя імі абразы і малітоўнікі (вядома, на польскай мове).

У заходняй БССР, як вядома, актыўна існуюць дзве каталіцкія епархіі: Пінская і Віленская. Кіруюць імі, з-за адсутнасці ў БССР біскупаў, дэканы.

Пінскі біскуп Няміра знаходзіцца ў той частцы Пінскай епархіі, якая адышла да Польшчы (здаецца, у Бельску).

З Пінскай епархіі паехала ў Польшчу досыць шмат ксяндзоў, народу ж паехала параўнаўча няшмат. Паехалі як з Пінскай епархіі, так і з Віленскай галоўным чынам былыя польскія чыноўнікі, вайскоўцы, паліцыянты, настаўнікі, асаднікі, памешчыкі, польскія партызаны і ўсялякага роду палітыканы, а народ, з малымі выключэннямі, застаўся на сваёй роднай зямлі.

Усіх ксяндзоў у Пінскай епархіі ў цяперашні час усяго толькі 22 чалавекі, адзін звычайна абслугоўвае некалькі парафій. Дэкан Барысяк, карэнны паляк, жыве ў Баранавічах. Пры гэтым трэба адзначыць, што Пінская епархія ў апошні час увайшла ў больш блізкую сувязь з Віленскім архібіскупам Рэйнісам.

У Віленскай епархіі заслугоўваюць увагі тры дэканы: Зянкевіч у Глыбокім, Баневіч у Лідзе і Курыловіч у Гродне. Наколькі на іх уплывае Ялбжыкоўскі — не ведаю, але ведаю, што ўсе яны тры знаходзяцца ў кананічнай сувязі з Рэйнісам, што гэтую сувязь Курыя Рэйніса асабліва адчувае ў апошні час і што ўсе яны тры, з прычыны таго, што ў БССР застаецца мноства католікаў, у Польшчу ад'язджаць не збіраюцца.

Дэканы: Зянкевіч і Курыловіч — гэта людзі старэйшага веку, салідныя, заслужаныя ў епархіі, заўсёды былі вядомыя, як нешавіністы. Зянкевіч у свой час нават называў сябе беларусам, ведае беларускую мову і ў некаторай ступені карыстаецца ёю. У часы Польшчы недзе ў 1923—1924 годзе за карыстанне беларускай мовай нейкі польскі капрал у м. Ляомпіле (Дзісенскі павет) дэкана Зянкевіча ўдарыў шабляй па галаве.

Курыловіч, жывучы доўгія гады ў Гродне, у згушчанай польскай атмасферы, практычна з бел. праблемай не сустракаўся, але ў гутарцы са мной падкрэсліваў у прынцыпе неабходнасць у некаторых мерах у каталіцкім царкоўным жыцці карыстацца беларускай мовай. Зрэшты, ён заўсёды быў вядомы такім.

Што датычыць колькасці паехаўшых католікаў з Віленскай епархіі ў Польшчу, то трэба паўтарыць сказанае пра такі ж выезд з Пінскай епархіі. З Віленскай епархіі, што знаходзіцца ў межах БССР, у Польшчу паехалі католікі такога ж роду, што і з Пінскай і галоўным чынам з гарадоў і мястэчак, а з вёсак паехала вельмі нязначная колькасць.

Выключэнне ў гэтых адносінах складаюць некаторыя прыходы Ашмянскага і часткова Лідскага дэканатаў, дзе сяляне польскай палітычнай прапагандай былі ўцягнуты ў польскі партызанскі рух і дзеля гэтага, баючыся праследавання з боку Савецкіх уладаў, павінны былі пакінуць сваю радзіму. Так, напрыклад, у Ашмянскай парафіі было 12 тысяч парафіянаў — засталося 8—9 тысяч, астатнія паехалі, у Гальшанскай парафіі (Ашмянскі дэканат) было парафіянаў 8 тысяч — засталося 5—6 тысяч, астатнія паехалі. На гэтым выезд і скончыўся; з іншых мясцін таго ж Ашмянскага і суседняга Вішнеўскага дэканатаў масавага выезду ў Польшчу не было. Так, напрыклад, з Багданава, Крэва, Баруноў, Забрэззя, Вішнева і іншых мясцін у Польшчу католікаў паехала вельмі няшмат. Таксама прывяду для прыкладу парафію Суботніка, дэканата Вішнеўскага (мяжуюць з Лідскім і Ашмянскім): тут усе католікі і ўсе зарэгістраваны на выезд, але ад'язджаць не хочуць і фактычна паехала вельмі мала.

Што тычыцца ксяндзоў, то з прычыны няхваткі каталіцкага духавенства паедуць ужо нямногія з іх.

Апошнім часам дэканы ад Савецкіх улад (упаўнаважаных па справах культу) атрымалі штосьці накшталт рэкамендацыі. Паведамляць ксяндзам палякам, якія зарэгістраваны да выезду, каб яны ехалі ў Польшчу. Можа, гэта і падзейнічае на выезд некаторых, але большасці сумленне не дазволіць пакінуць парафіянаў-католікаў на волю лёсу.

На маё пытанне ксяндзам, навошта яны рэгістраваліся, адказвалі: «Мы гэта зрабілі на выпадак выезду нашых парафіянаў, але паколькі парафіяне не ад'язджаюць, мы іх пакінуць не можам».

Дэкан Лідскі Баневіч параўнальна малады і новага польскага выхавання, але з размовы відно, што ён таксама падзяляе погляды іншых дэканаў. У яго падпарадкаванні ёсць 18 ксяндзоў, якія кіруюць дзвюма—трыма парафіямі.

Словам, як бы там ні было, але ў БССР застанецца колькасць католікаў настолькі значная, а колькасць духавенства настолькі малой, што ўсёй гэтай справы пакінуць без вырашэння немагчыма.

Вядома, колькі ўсіх католікаў у БССР — у цяперашні час дакладна ніхто і колькі іх будзе ў канчатковым выніку, — таксама тых, якія могуць яшчэ паехаць, не ведае, але па маіх меркаваннях і падліках іх усё ж застанецца прыблізна мільён. Такая колькасць католікаў чакае ад свайго ўрада дапамогі ва ўпарадкаванні свайго рэлігійнага жыцця. Гэтая ж дапамога і ўпарадкаванне павінны быць кананічныя, бо толькі кананічны падыход да каталіцкай праблемы зможа ізаляваць польскія ў БССР уплывы ў гэтай праблеме і ўсё каталіцкае жыццё накіруе ў роднае беларускае рэчышча.

Ды і сам Ватыкан, пакуль няма кіруючага Каталіцкай царквой у БССР беларуса, кананічна ўстаноўленага, вымушаны карыстацца ў каталіцкім тут жыцці палякамі і глядзець на беларускіх католікаў праз польскую прызму.

Неарганізаваныя і некананічныя ўмовы жыцця беларускіх католікаў у БССР толькі замацоўваюць іх за паланізмам і ў выніку непазбежна вядуць іх да поўнай паланізацыі, нягледзячы на савецкую дзяржаўнасць і савецкія ўмовы жыцця.

Толькі кананічна пастаўлены адміністратар, з дакументам у руках ад Папы, беларус, лаяльны да Савецкага ўрада, адведаўшы асабіста кожную каталіцкую парафію і яе пробашча, асабіста з усімі пагутарыць, да ўсяго прыгле-

дзеўшыся і прыслухаўшыся, спазнаўшы ўсе настроі і патрэбы, — зможа ўзяць у рукі кіраванне і арганізацыю Каталіцкай царквы ў БССР, накіроўваючы гэтую царкву на новы, гістарычны, беларускі народны шлях.

## 2. Праект стварэння часовай адзінкі кіравання каталіцкімі справамі ў БССР.

Для гэтай справы трэба абавязкова выкарыстаць архібіскупа Рэйніса. Ён, праз упаўнаважанага па справах культу ў Вільні, звяртаецца ў Ватыкан, выкладае становішча Каталіцкай царквы ў БССР, магчымасці яе рэарганізацыі і прапаноўвае яму прызначыць сюды Апостальскага адміністратара, падкрэсліваючы, што такім павінен быць беларус, які ведае беларускі народ, умее і жадае працаваць на каталіцкай царкоўнай ніве ў новых савецкіх умовах. Такі адміністратар быў бы часовым: яго задачай было б наладзіць каталіцкія справы ў БССР, узгадняючы іх з новымі ўмовамі, і стварыць тут епархіі; епархіі атрымаюць біскупаў на чале з мітрапалітам, ствараецца бел. кат. кіраванне і адміністратара роля гэтым і закончылася б.

Кандыдата на пост Апостальскага адміністратара рэкамендуе ім Рэйніс сам ці прадстаўляе яго на меркаванне Папы. Небяспекі для ўрада ў такой пастаноўцы справы няма, бо без яго згоды справа гэта зусім немагчымая, ды і сам Папа, не даведаўшыся пра кандыдата ў Рэйніса, на гэтую пасаду нікога не прызначыць. Факт жа непадтрымання Савецкім урадам дыпламатычных адносін з Папскім Пасадам, па-мойму, у гэтай справе таксама нікольні не перашкаджае, бо зварот Рэйніса да Папы сведчыў бы толькі аб свабодзе веравызнання ў СССР.

Магчыма, што Папа, замест прызначэння для БССР самастойнага адміністратара, проста ўпаўнаважыць для беларускіх каталіцкіх спраў самога ж Рэйніса, які ад сябе прызначае для БССР увогуле, альбо толькі для якой-небудзь яе часткі, свайго генеральнага вікарыя. Канечне, і гэта было б выйсцем са становішча, якое склалася, але яно не дае поўнай кананічнай свабоды і аўтарытэту беларускаму адміністратару і цягне за сабой цэлы шэраг перашкод практычнага характару.

Па гэтым пытанні даводзілася мне (канечне, гіпатэтычна) неаднаразова гутарыць з віднымі прадстаўнікамі літоўскага духавенства. На гэтую тэму разважалі яны наступным чынам: — для архібіскупа Рэйніса такая пастаноўка справы была б нават пахвальнай, бо яна сведчыла б аб даверы да яго беларусаў, і ён на гэтую пасаду адшукаў бы адпаведнага беларуса, Папскі ж Пасад на ўсё гэта па ўсёй верагоднасці згадзіўся б, бо ён меў бы справу з біскупам, якому давярае, але невядома, ці ўзяўся б за гэтую справу сам Рэйніс, маючы на ўвазе падкопы палякаў, якія несумненна палічылі б такое рашэнне каталіцкай праблемы ў БССР за яўнае жаданне літоўцаў умешвацца... у польскую справу (бо такім яны лічаць каталіцызм у БССР). Іншая справа — адміністратар беларус, надзелены дакументальным кананічным паўнамоцтвам на самастойнае кіраванне Каталіцкай царквой у БССР, — яму і карты ў рукі, — казалі мае літоўскія суразмоўнікі.

Вядома, і беларус з боку польскага нацыяналізму меў бы вялікія перашкоды, але яго становішча было б калі з аднаго боку зусім новым у гісторыі, то, тым не менш, з другога — зусім натуральным: для беларускага народа Папа прызначыў беларуса і з боку палякаў ніякім супрацьдзеяннем няма месца.

Значыць, адзіным правільным вырашэннем каталіцкай справы ў БССР — гэта стварэнне самастойнай кананічнай беларускай адзінкі кіравання, незалежнай ні ад палякаў, ні ад літоўцаў. Так арганізаваную Каталіцкую царкву на Беларусі, якая кананічна залежыць толькі ад Папы, з поўным правам можна назваць беларускай каталіцкай народнай царквой.

Па маіх меркаваннях, ва ўсёй БССР ужо знайшлося б беларускіх ксяндзоў чалавек 20, ды столькі ж мясцовых палякаў, ненацыяналістаў, якія ведаюць беларускую мову, не маюць намеру выязджаць з БССР і гатовы працаваць для Каталіцкай беларускай царквы на новых беларускіх пачатках.

Такім асобам можна было б даручыць больш адказныя царкоўныя месцы. Спадзяюся, што пры сур'ёзнай і саліднай пастаноўцы з мясцовых палякаў ксяндзоў яшчэ больш знайшлося б ахвотных і лаяльных работнікаў. Помню, як у гады 1919—1925 у Віленскай епархіі, у часы тут памерлага ўжо біскупа Матулевіча (літовец), які надаваў каталіцкаму жыццю сярод беларусаў беларускі характар, з'явілася ўсё больш і больш ксяндзоў, мясцовых палякаў, або, правільней, апалячаных беларусаў, якія ахвотна і, можна сказаць, масава запісваліся беларусамі і пачыналі карыстацца беларускай гаворкай у касцёлах. Да такіх належаў і цяперашні дэкан Зянкевіч у м. Глыбокае. Палякі, аднак, гэты рух хутка спынілі.

Для перавыхавання існуючага духавенства і для стварэння новых беларускіх кадраў давялося б арганізаваць кароткатэрміновыя курсы і адкрыць пастаянную беларускую каталіцкую духоўную семінарыю.

Месцам знаходжання адміністратара Беларускай Каталіцкай Царквы, па-мойму, павінен быць г. Мінск, як сталіца Беларускай Рэспублікі, а калі б чамусьці гэта было недапушчальным, то г. Ліда, як вузлавая чыгуначная станцыя і больш-менш цэнтральны гарадок заходняй Беларусі.

Заканчваючы гэты раздзел майго мемарандуму, я павінен яшчэ дадаць наступнае: зварот архібіскупа Рэйніса да Папы ў справах Беларускай Каталіцкай Царквы неабходны; ён, калі б нават адразу справы і не вырашыў, то ва ўсякім выпадку многае высніў бы.

Зрэшты, мне здаецца, што адказ з Ватыкана ў гэтай нашай справе быў бы па крайняй меры да некаторай ступені пазітыўным, тым больш, што да маіх вушэй даходзілі чуткі, што Папа Пій XII, пры наяўнасці згоды Савецкага Урада, схільны стварыць для БССР Беларускую Каталіцкую Царкву як самастойную адзінку.

Вырашэнне ж каталіцкай праблемы ў БССР без звароту да Папы толькі сваімі мясцовымі сродкамі, гэта значыць — толькі пры дапамозе архібіскупа Рэйніса, уяўляецца мне, што ясней будзе відаць з ніжэйсказанага, — небяспечным вялікімі цяжкасцямі, нечым паліятыўным, без перспектывы, а магчыма, нечым і зусім немагчымым.

Так мне здаецца. Наколькі ж я зразумеў, здалёку закранаючы гэтае пытанне ў размове з Рэйнісам, ён той жа думкі. Але калі Савецкія ўлады адкінуць мой план і Рэйнісу на зварот да Папы не дазволяць, тады засталося б толькі адно: грунтоўна і канчаткова высніць усе кананічныя і фактычныя магчымасці Рэйніса, яго жаданні; намеры і на падставе высветленага вырашыць: ці брацца за каталіцкую справу ў БССР, ці лепш пакінуць яго на волю лёсу.

## 3. Практычныя абгрунтаванні майго праекта

Бліжэйшыя і практычныя прычыны прытрымлівацца выкладзенага мною праекта стварэння самастойнай адзінкі кіравання Каталіцкай царквой у БССР будуць наступныя:

Каталіцкія масы ў БССР увогуле, а на заходніх ускраінах асабліва, з'яўляюцца католікамі глыбока свядомымі, часта фанатычнымі, бясконца любяць сваю Каталіцкую царкву ў яе традыцыйна польскай форме. І таму вырашэнне гэтага пытання ў новых савецкіх умовах і накіраванне Каталіцкай царквы ў БССР на новы, беларускі шлях, павінна быць строга кананічным, паслядоўным, цярплівым і тактоўным. Найменшая няўвязка ў гэтай справе, нетактоўнасць ці нястрымны імпэт могуць праваліць усю справу і аскандаліць таго, хто за яе возьмецца.

Не трэба забываць, што сярод беларускіх католікаў захоўваюцца традыцыі няўклюднай і часта варожай да каталіцтва рускай царскай палітыкі, а таксама традыцыі барацьбы і пакут іх дзядоў за сваю веру. Да бальшавікоў у гэтай справе ў католікаў зусім няма даверу, бо яны не толькі таксама рускія, а яшчэ і ваяўнічыя атэісты.

Дарэчы сказаць — забойства польскімі нацыяналістамі майго бацькі і брата толькі за тое, што яны адкрыта сябе называлі беларусамі, у праектаванай намі справе служыць красамоўнай ілюстрацыяй.

Прыступаючы да рэалізацыі плана вырашэння каталіцкага пытання ў БССР, трэба таксама мець на ўвазе, што сур'ёзнай тут перашкодай будзе Ялбжыкоўскі, які з'яўляецца кананічна ўстаноўленым кіраўніком Віленскай мітраполіі і, як мітрапаліт, ён мае падставы ўмешвацца ў каталіцкія справы ўсёй заходняй Беларусі, яго мітраполіі. Ялбжыкоўскі — гэта вялікая была б перашкода ў нашай справе і для Рэйніса ў сэнсе юрыдычным і фактычным. Тое ж самае, хоць далёка ў меншай меры, тычыцца і пінскага біскупа Няміры Рэалізацыя ж плана ў маім аспекце, як я яго разумею і ўяўляю, папярэдне і непазбежна вяла б да знішчэння ўсялякіх кананічных паўнамоцтваў Ялбжыкоўскага і Няміры ў адносінах да Беларусі, што, зрэшты, у звароце Рэйніса да Папы і павінна быць ясна пастаўлена.

Нельга таксама забываць, што яшчэ сярод палякаў, як міранаў, так і духоўных, ёсць асобы, якія лічаць, што ў БССР яшчэ абавязвае Канкардат Польшчы з Апостальскім Пасадам, падпісаны ў 1925 годзе, і што згодна яму, як абвяшчае §23, увядзенне якой-небудзь іншай, не польскай мовы ў Касцельнае жыццё без дазволу канферэнцыі польскага епіскапата, не дапускаецца. Найменшая ж рэалізацыя майго плана і ў гэтых адносінах прачысціла б атмасферу і паклала б мяжу падобнага роду анахранізмам.

Далей, каталіцызм у сваёй польскай форме ў беларускі народ укараняўся на працягу 400—500 гадоў. Значыць, нельга створанае становішча перайначыць адным толькі росчыркам пяра, механічна на працягу якога-небудзь года і без яўнага Папскага аўтарытэту. Стварэнне новай Каталіцкай царквы на Беларусі павінна праводзіцца шляхам строга эвалюцыйным, паступовым, хоць тым не менш упэўнена і рашуча. Трэба перавыхаваць народныя масы і клер, каб яны зразумелі, што каталіцызм на Беларусі павінен быць беларускім і служыць інтарэсам беларускага народа. Таму ўсялякія пачынанні ў гэтай справе павінны быць яўна кананічныя, каб пазбегнуць усялякіх падазрэнняў і новых перашкод. Без яснай у сэнсе кананічным пастаноўкі каталіцкага пытання ў БССР, вырашэнне яго ўвогуле немагчымае, бо тады нават і тое духавенства, на якое ўвогуле можна разлічваць, на супрацоўніцтва не пойдзе і нашага планавання не падтрымае. Усялякая ж ломка і дыверсія ў царкоўна-рэлігійных справах прывяла б толькі да большай дэмаралізацыі мас і, каб не сказаць больш,— поўнага ахалоджвання да Савецкага ўрада. Як вядома, Маркс і Ленін у сваіх творах, са свайго матэрыялістычнага пункту гледжання, у галіне рэлігіі рэкамендуюць асцярожнасць і ганяць усялякія рэпрэсіі і гвалт.

Зрэшты, сама назва: Беларуская Каталіцкая Царква — у каталіцкім свеце Беларусі, а таксама і за межамі яе выкліча падазрэнне; многія скажуць, што Царква гэтая хутчэй будзе рускай, чым беларускай, бо ў БССР беларуская мова ў дзяржаўным жыцці чамусьці зусім не ўжываецца, замест яе паўсюль пануе выключна руская мова, ды, акрамя таго, для многіх значэнне слова «беларускі» атаясамліваецца са словам «рускі».

Далей, цяжкія пастаўкі і частыя злоўжыванні пры ўзяцці іх, хабарніцтва, п'янства, хаос, галодныя і абарваныя полчышчы людзей з усходу БССР і ўвогуле СССР — усё гэта вельмі насцярожыла каталіцкія (ды не толькі каталіцкія) масы ў Беларусі да ўсяго Савецкага.

І таму, пачынаючы стварэнне такой сур'ёзнай і нават вялікай гістарычнай справы як незалежная Беларуская Каталіцкая Царква, усё гэта трэба ўлічыць і ўзброіцца самай надзейнай зброяй; зброяй жа такой у дадзеным выпадку несумненна з'яўляецца Папская юрысдыкцыя, выдадзеная дакументальна асобе якой наканавана будзе гэтую справу рэалізаваць.

## 4. Агульнае абгрунтаванне майго праекту і яго значэнне

Акрамя прычын бліжэйшых, практычнага характару стварэння адзінкі кіравання Каталіцкай Царквой на Беларусі, і пры тым выкладзеным мною парадкам, — існуюць прычыны агульныя, больш асноўныя і істотныя. Вось яны:

стварэнне такой справы бясспрэчна сведчыла б пра большую дзяржаўную самастойнасць і сталасць БССР і ўзвысіла б яе прэстыж на міжнароднай арэне.

Ды не толькі для БССР, а і для ўсяго СССР такі факт меў бы за мяжой нашай краіны велізарнае значэнне: — гэта зрабіла Масква — сказалі б у свеце. Аўтарытэт Савецкага Урада ў вырашэнні і такіх пытанняў, як рэлігійна-царкоўныя, узрос бы, а ўвесь — каля 400 мільёнаў — каталіцкі свет на чале з Папам, біскупамі і кардыналамі ў меркаваннях сваіх пра СССР вымушаны быць больш мяккім і свае да нашай радзімы настроі, поўныя насцярогі, падазрэнняў і нетаварыскасці, безумоўна, змяніў бы на лепшае. Калі Папа і католікі ўсяго свету ўвогуле нетаварыскія да СССР, то прычына гэтага настрою — у перакананні, што ў нас Каталіцкая Царква пазбаўлена свабоды наладжваць сваё жыццё па правілах сваіх канонаў.

Увогуле, кананічнае ўладжанне каталіцкіх спраў у БССР — гэта першы крок на шляху да ўпарадкавання адносін паміж СССР і Ватыканам; станоўчыя ж адносіны гэтага, па-мойму, вельмі важны фактар аўтарытэту СССР і яго ўплыву на жыццё ва ўсім свеце.

У выніку апошніх сусветных падзей ажыла славянская ідэя. Для яе развіцця і ўмацавання стварэнне ў БССР Беларускай Каталіцкай Царквы, як самастойнай адзінкі, таксама мела б пазітыўнае значэнне. Вядучую ролю сярод славянаў лёс уручыў Савецкаму Ураду. Сярод славянаў нямала католікаў: беларусы, украінцы, палякі, чэхі, харваты. Свабодная, адроджаная, кананічна самастойная, Беларуская Каталіцкая Царква, створаная пры прыхільным садзеянні Савецкага Урада, была б фактарам, які паслабляе сярод славянскіх католікаў (і не толькі католікаў!) нетаварыскія настроі да СССР і ствараe ў іх пачуцці сімпатыі.

Адной з галоўных задач Беларускай Каталіцкай Царквы было б, на глебе лаяльнасці да дзяржавы, узвысіць свой народ духоўна. Мараль бальшавіцкая, або матэрыялістычная, і хрысціянская, як бы яны па сутнасці не розніліся паміж сабой, у практыцы яны зыходзяцца і кожная сваімі сродкамі і ў сваёй галіне, дружна могуць працаваць на працоўныя масы, на працоўную дзяржаву. А з мараллю ў нас вельмі кепска: вайна яе ў корані падарвала; глеба маральнасці ў нас патрабуе працяглай, упартай і сістэматычнай працы. Бо без маралі ніякае грамадства, а тым больш дзяржава, немагчымае. Галоўная мэта хрысціянскай маралі — выхаваць сумленнага чалавека, а сумленны чалавек гэта тое самае, што і добры грамадзянін. Правільна разважаў Тэртуліян, а за ім багаславёны Аўгусцін, якія гаварылі: «Няхай тыя, якія кажуць, што вучэнне Хрыста варожае дзяржаве, дадуць такіх салдат, такіх грамадзян, такіх мужа і жонку, такіх жанок, бацькоў і дзяцей, такіх суддзяў, такіх плацельшчыкаў і такіх урадоўцаў, якія павінны быць згодны з хрысціянскім вучэннем і якіх гэтае вучэнне выхоўвае».

Цікавыя ў нашым пытанні таксама меркаванні знакамітага рускага філосафа Уладзіміра Слаўёва (1900), сына вядомага рускага гісторыка Сяргея Салаўева, выказаныя паўстагоддзя назад, але ў многім яшчэ актуальныя і сёння. Вось некаторыя з іх:

У артыкуле «Пагадненне з Рымам і маскоўскія газеты (1883 г.)» ...(неразборліва. — **Л. Э.)** Л. Салаўёў піша: «Сказаць, што католікі могуць абыходзіцца без біскупаў, значыць сказаць, што яны могуць абыходзіцца без каталіцтва; несумненна могуць, як людзі ўвогуле, але як католікі — рашуча не могуць. Католік без пастаўленага Папам біскупа, — усё роўна, што пратэстанты без Бібліі ці старавер без старадрукаваных служэбнікаў». (Собр. соч., т. IV, стр. 118). Я б да гэтага дадаў: каталіцызм без кананічных біскупаў, што камунізм без «Капітала» Маркса.

У другім артыкуле «Аб царкоўным пытанні» У. Салаўёў так разважае: ...«У нас ёсць і асаблівая прычына для ўстанаўлення правільных адносін з Папскім Пасадам, менавіта неабходнасць аддзяліць інтарэс каталіцтва ад паланізму. Такое аддзяленне ёсць справа цяжкая і складаная, але першай умовай для яго ва ўсякім разе з'яўляецца прамое ўзаемнае прадстаўніцтва Расіі і Рыма. Без гэтага адзінымі прадстаўнікамі Рымскай царквы ў нас, адзінымі прдстаўнікамі паміж намі і папствам аказваюцца польскія біскупы, і такім чынам атаясамліванне каталіцкай і польскай справы становіцца непазбежным» (Собр. соч., т. IV, стр. 131).

І нарэшце, у артыкуле «Польская нацыянальная царква» Л. С., падкрэсліўшы, што такога ж погляду і Каткоў, вядомы публіцыст славянафіл, гаворыць: «Каталіцкая царква сама па сабе нейтралітэтная і ненебяспечная Расіі, мы можам і павінны жыць у добрым міры з Папам; нам варожая толькі большасць польскага духавенства, паколькі ў ім элемент нацыянальна-палітычны пераважае над рэлігійна-царкоўным, г. зн. каталіцкім. Адсюль прамое заключэнне: у рускіх інтарэсах неабходна ўмацаваць сувязь польскага духавенства з вярхоўнай уладай Папы, як з пачаткам нейтральным, які стрымлівае і ўціхамірвае нацыянальна-палітычныя захапленні палякаў. І на самай справе, ясна, што калі ксяндзы вінаватыя ў польскім, выключна польскім, антырускім фанатызме, то ў Папы такога фанатызму быць не можа і пры мірных і таварыскіх адносінах урада да рэлігійна-царкоўных інтарэсаў нашых католікаў, рымскі ўплыў на іх можа быць толькі жаданай падмогай для дзяржаўнай улады ў яе мірных і справядлівых мэтах» (Собр. соч., т. IX, стр. 65). Да гэтага толькі варта было б дадаць, што ў цяперашні час ужо гаворка ідзе пра ўмацаванне з Папам не Польскай Каталіцкай Царквы, а Беларускай Каталіцкай.

Рымскі сенатар Катон заканчваў кожную сваю прамову наступнымі словамі: «Carthaginem delendam esse» («У астатнім, мяркую, што Карфаген павінен быць разбураны»). Так і я лічу, што Беларуская Каталіцкая Царква павінна быць створана для дабрабыту беларускага народа і ўсяго СССР.

Акрамя таго, пераймаючы таго ж Катона, — няхай даруе мне Савецкі Урад! —я яшчэ раз прашу знайсці магчымасць перагледзець справу беларускага ксяндза Віктара Іванавіча Шутовіча, сасланага ў лагер (Сухабязводнае, Горкаўская вобл.) на 10 гадоў, і вызваліць яго, дазволіўшы яму паехаць у Вільню. Я не ўваходжу ў сутнасць яго справы, бо я гэтай справы не ведаю, але я цудоўна ведаю гэтага чалавека і я глыбока перакананы ў яго невінаватасці.

У заключэнне яшчэ прашу Савецкі Урад гэтак жа аб вызваленні беларускіх каталіцкіх ксяндзоў: Фабіяна Абрантовіча, які знаходзіцца, па маіх звестках, з 1939 г. у адной з маскоўскіх турмаў, а таксама Андрэя Цікоты, Восіпа Германовіча і Падзявы, якія былі ў час вайны ў Харбіне, а цяпер, па ўсёй верагоднасці, знаходзяцца таксама ў распараджэнні нашага ўрада. Усе яны свядомыя беларусы, таленавітыя і культурныя людзі.

Словам, усе сумленныя намаганні і ўсе сумленныя сродкі да стварэння ў БССР беларускай каталіцкай самастойнай Царквы!..

Маюць такую сваю Царкву католікі літоўцы і латышы, няхай жа яе маюць і католікі беларусы!

Няхай ажыццявіцца гэтая вялікая гістарычная справа ў азнаменаванне 30-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай Рэвалюцыі!..

Вільнюс, 20.III. 1947 г.

**Публікацыя Ларысы ЭТЭНКІ**
**(з нязначнымі скарачэннямі).**

**БЕЛАРУСЬ У СВЕЦЕ**

# «Да сустрэчы ў Мінску!»

«Вялікі дзякуй, пан Фердынанд! Чакаем вас у Мінску», **— з такімі словамі** развітваліся ў канцы верасня ўдзельнікі фальклорна-этнаграфічнага ансамбля «Неруш» з Фердынандам Нойрайтэрам, аўстрыйскім перакладчыкам і даследчыкам беларускай літаратуры. Год таму сп. Фердынанд упершыню пачуў пра моладзь, якая шануе народнае мастацтва і з любоўю нясе яго людзям. Тады і ўзнікла ідэя культурнага абмену фальклорнымі калектывамі. І толькі знаходзячыся ў Аўстрыі, мы зразумелі, колькі трэба было прыкласці клопатаў і намаганняў, каб здзейсніць задуманае.

Спадзяёмся, што клопаты не былі дарэмнымі. Ансамбль «Неруш», які ўжо амаль дзесяць год кіруе Валянціна Гладкая (музычны кіраўнік Іосіф Рэут), — лаўрэат многіх міжнародных фальклорных фестываляў. У яго рэпертуары вялікая разнастайная праграма, куды ўваходзяць купальскія, жніўныя, зімовыя, веснавыя, рэкруцкія, любоўныя, жартоўныя песні і танцы. Увазе аўстрыйскага гледача была прапанавана толькі адна найбольш цікавая і багатая яе частка — «Беларускае вяселле». Звычайна кожны канцэрт ансамбля пачынаўся невялікім уступным словам, у якім аўтар гэтых радкоў разам са сп. Фердынандам (які перакладаў з беларускай на нямецкую мову) распавядалі прысутным аб Беларусі, аб ансамблі і той праграме, якую яны ўбачаць. Перад вачыма гледачоў прайшлі ўсе этапы традыцыйнага абраду вяселля: заручыны, зборная субота, пасад, каравай, ад'езд маладой да маладога...

Сказаць, што выступленні былі добра прыняты — гэта нічога не сказаць. Трэба было бачыць твары людзей — расчуленыя і ўсмешлівыя, сумныя і вясёлыя. Ціха, пранікнёна спяваюць дзяўчаты, мелодыя, поўная смутку, заварожвае. Некаль-кі жанчын прыкладваюць да вачэй хустачкі. Ды і як тут не расчуліцца, калі бачыш на сцэне маладую прыгожую дзяўчыну з непадробнымі слязамі ў вачах. Сапраўды, нявеста ў выкананні Вольгі Лажко расчуліла сэрцы аўстрыйскіх жанчын. Аднак, якое ж вяселле без жартаў, сяброўскіх кпінаў, без заліхвацкіх прыпевак і скокаў! І зусім ужо немагчыма ўявіць сабе беларускае вяселле без свата, такога зухаватага ды вясёлага, як Любецкі Віталь. Ён і пажартуе, і пачастуе, і вокам маргне, і песню зацягне.

І вось ужо моцныя мужчынскія галасы падхапілі, панеслі: «Ой, ішоў казак з Дону»...

Не шкадавалі сіл музыканцікі — пазаліхвацку молада і бадзёра гучала ў выкананні І. Руэта, У. Раманава, І. Лешчанкі, А. Шыла «Беларуская полька», «Крыжачок». Усіх зачараваў танец «Падушачка» — пяшчотнай мелодыяй, зграбнымі маладымі постацямі, улюбёнымі позіркамі... А калі загучала плясавая «Там на лужку, на лужку», цяжка было ўсядзець і гасцям, і гаспадарам. З задавальненнем адгукаліся салідныя гэры і стрыманыя фраў на запрашэнні да танца нашых дзяўчат і хлопцаў.

Канцэртнае турнэ пачалося ў цэнтры горнай Аўстрыі — горадзе Лінцу. Там у палацы культуры і адбыўся першы канцэрт. Можа, таму ён і здаўся для многіх удзельнікаў ансамбля асабліва цяжкім. Па словах адной з салістак ансамбля, Петрыкавай Наталлі, адчувалася нейкае напружанне, насцярога, якія, аднак, прыкметна раставалі ад канцэрта да канцэрта. А іх было нямала: у Нідэральме, Дзюрнбергу, Матзэ, Зальцбургу, Штокерау. (Дарэчы, Штокерау з'яўляецца горадам-пабрацімам нашых Баранавічаў. Таму не дзіва, што тут, як нідзе, ведаюць пра Беларусь і беларусаў).

Людзі падыходзілі да маладых артыстаў, дзякавалі, цікавіліся нашым нацыянальным строем. Пасля аднаго з канцэртаў кіраўнік аўстрыйскага фальклорнага ансамбля сп. Новых падзяліўся сваімі ўражаннямі, зазначыўшы пры гэтым, што ён бачыў выступленні многіх фальклорных ансамбляў з Чэхіі, Польшчы, Венгрыі, Югаславіі, аднак ансамбль «Неруш» выгадна вылучаецца сярод іх. Перш за ўсё адсутнасцю залішняй тэатралізаванасці, сваёй натуральнасцю, адчуваннем сапраўднасці тых дзеянняў, што адбываюцца на сцэне. Яго думку працягнуў доктар Г. Бідэр, які таксама прысутнічаў на некалькіх канцэртах ансамбля. Ён сказаў: «Часам ствараецца такое ўражанне, што мы знаходзімся дзе-небудзь у беларускай вёсцы і з'яўляемся непасрэднымі ўдзельнікамі вясельнага абраду».



Ансамбль «Неруш».

Фота Ул. КРУКА.

Чатыры з сямі праведзеных у Аўстрыі дзён нашы хлопцы і дзяўчаты жылі ў сем'ях. Сем'і былі самыя розныя і па дабрабыце, і па ўмовах, і па складзе, аднак нязменнымі для ўсіх былі — гасціннасць, сардэчнасць, прыветлівасць. З удзячнасцю гаварылі нерушанцы аб сямействах Новых, Цыбінген, Штутгер, Хагенауэр, Ліндиэр, Аўфшнайтэр, Візэр і інш. У вольную ад канцэртаў часіну вяліся шчырыя размовы (як бы мы сказалі — на ангельска-нямецкай трасянцы), спявалі песні, гучала музыка. А нашыя хлопцы нават частавалі гаспадароў уласна прыгатаванымі дранікамі.

Я разам з дачкой Наталляй, удзельніцай ансамбля, жыла ў гасціннай сям'і Фердынанда і Марджоры Нойрайтэраў. Мы мелі магчымасць пазнаёміцца з вядзеннем хатняй гаспадаркі і па-добраму пазайздросціць Марджоры — столькі рознай тэхнікі! Але больш за ўсё мяне ашаламіла знаёмства з бібліятэкай сп. Ф. Нойрайтэра. Не хаваючы сваёй гордасці, гаспадар паказваў старыя фаліянты, кнігі беларускіх вучоных-даследчыкаў, паэтаў і празаікаў. Уявіце сабе: у Аўстрыі трымаць у руках працы Федароўскага, Насовіча, Чачота, Тарашкевіча, Ластоўскага, Гарэцкага, Гартнага — ёсць ад чаго прыйсці ў захапленне! Убачыла я на паліцы і «Вянок» М. Багдановіча. Дарэчы, сп. Нойрайтэр паведаміў, што да 100-гадовага юбілею нашага славутага паэта пераклаў і адаслаў у адзін з аўстрыйскіх часопісаў некалькі яго вершаў, у тым ліку «Пагоня», «Зорка Венера» і «Слуцкія ткачыхі». Пасля знаёмства з бібліятэкай сп. Ф. Нойрайтэра мне сталі зразумелымі словы, якія ён сказаў, паказваючы два нядаўна набытыя тамы «Матеріалов...» Шэйна 1887 года выдання: «Без новай мэблі магу пражыць, без Шэйна — не!» З бібліятэкі я выходзіла з падарункам — двума нумарамі літаратурна-гістарычнага часопіса «Пагоня», які выходзіў у 1946 годзе ў Зальцбургу на беларускай мове. У ім друкаваліся творы М. Сяднёва, Ю. Віцьбіча, А. Салаўя, М. Дварэцкага, В. Таполі, А. Грыцука, В. Ластоўскага, М. Гарэцкага і інш.

З вялікай цікавасцю пазнаёміліся нерушанцы з гісторыяй Зальцбурга, яго архітэктурай, наведалі музей Моцарта, пабывалі ў тым пакоі, дзе 27 студзеня 1756 года нарадзіўся вялікі кампазітар. З глыбокай пашанай стаялі ля магілы выдатнага музыканта і дырыжора XX ст. Караяна. Добра адпачылі, наведаўшы Палац водных гульняў у Хельбруне, гулялі па старой Вене. Незабыўнымі былі хвіліны паездкі на фунікулёры на самую высокую горную вяршыню каля Зальцбурга, адкуль мы любаваліся альпійскім краявідам. Але з асаблівай зацікаўленасцю чакалі нерушанцы сустрэчы з аўстрыйскім фальклорным ансамблем пад кіраўніцтвам сп. Новых. Трэба аддаць належнае арганізацыйным здольнасцям сп. Фердынанда Нойрайтэра, які зрабіў усё, каб змагла адбыцца гэтая сустрэча двух народных калектываў.

Варта згадаць і аб яшчэ адной сустрэчы, якая, на жаль, не адбылася. Ёсць у мужчынскай паловы ансамбля «Неруш» вялікае захапленне — футбол. І такая ўжо склалася завядзёнка — абавязкова згуляць у футбол з мясцовай моладдзю, дзе б ні выступалі — у Польшчы, Балгарыі, ФРГ... Неспадзявана пайшоў дождж, і запланаваную сустрэчу з мясцовымі аматарамі футбола прыйшлося адмяніць. Аднак хлопцы вырашылі ўсё ж сустрэцца вясной на сяброўскім матчы — у Мінску.

**Людміла ХРЫШЧАНОВІЧ.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Бывайце, таварыш Ульянаў, нябыт свой вы заслужылі. А што нам рабіць з істуканамі, якіх мы з вас наляпілі?**

●

**Сакрэтны супрацоўнік Апанас апоўдні накатаў данос на нас. Нашто нам брэх, учора ў абед мы самі накляпалі каму след. Ды спазніліся, нехта нам на гора ўсіх пазалажыў яшчэ заўчора.**

●

**Выхвалялася партыя: еднасць народа толькі мы, камуністы, маглі зберагчы, паслухмяна сядзелі ў нас на сходах ахвяры, ахоўнікі і стукачы. Не які-небудзь там задрыпа зваў нас партыяй новага тыпу.**

●

**Рапарт з лятальнай талеркі: «Іх бог адмаўляў рэлігію, аднак пакланенне ў модзе. Галоўная іх рэліквія — манумент пад назвай «Валодзя».**

●

**Сталін быў упэўнены, што Германія не распачне вайны, бо краіна не пашырыла нарыхтоўку аўчынна-футравай сыравіны. Гітлер не дбаў пра рукавіцы і пімы, бо верыў, што ўправіцца да зімы... Чаго больш сароме́цца народам — славы сваіх дыктатараў ці іх дурноты?**

●

**Калі ў нас з'яўляліся Праграмы? Калі была патрэба ў «панарамах». Няма харчоў, і вось у «панараме» багатая Харчовая праграма. Няма дзе жыць, не трацьце, людзі, веры, усім дамо асобныя кватэры. Праблемы, што даймалі вас здавён, мы ліквідуем за пяцьсот якіхсьці дзён. А што там зіхаціць у «панараме» цяпер, калі мы ўсе сядзім у яме? Найноўшая Саюзная праграма.**

●

**Ленін і бальшавіцкая партыя ў выяўленчым мастацтве... Колькі загубленых талентаў, прыстасаванцаў, вар'яцтва. Дзялкі выбівалі рэгаліі за нічога не вартае. Можа, вы паздавалі б іх, пяюны партыі?**

●

**Не думаў рабочы Пуліхаў, калі бараніў прыгнечаных, што будзе ў назве вуліцы подзвіг увекавечаны. Свет, мабыць, перакуліцца, грымне рабочай сходнаю — стала вуліца Пуліхава «Андатравую Слабодкаю». Іншае зараз веры партыйныя функцыянеры.**

●

**Камуністы спешна апраўдваюцца, мяняюць каардынаты. Будуць у нас сапраўдныя «так званыя дэмакраты».**

●

**Анічога новага — пераказаў казку, але якая смеласць — перанёс дзею ў нашы дні.**

●

**Хай будзе поўнай праўда аб народзе, яго яшчэ калі ўзяліся зводзіць. Скасіла колькі гэтая вайна, ды першы пай забрала не яна. Трыццатыя, народам тройчы клятыя... Адны чакаюць, а другія ўзятыя. Майстры адлову дбаюць аб галовах: «Майстроў мастацтва — за майстрамі слова. На тых, свядомых, заражайце «пушкі», астатніх у цяплушкі, у цяплушкі». Заходняя граніца грымне скора, а тут пакуль адстрэльваюць камкораў... О Беларусь, адзіная на свеце, з тваіх сыноў загіне кожны трэці.**

ЛіМ

Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Друкарня «Беларускі Дом друку».

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.
Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел народнай творчасці і культасветработы — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.





Індэкс 63856

| | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| М | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| П | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |

Тыраж 18197 экз.